# ГОЛАС ВЯСНЫ ДАЛЁКАЙ

*Паўлюк Трус ва ўспамінах, лістах, артыкулах, вершах*

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1994

ББК 83.3Бел7
Г 61
УДК 929Трус+882.6(092)+882.6—1

Складальнікі

*Н. Б. Ватацы,* *Я. І. Садоўскі*

**Голас вясны далёкай: Паўлюк Трус ва ўспамінах,**
**Г 61 лістах, артыкулах, вершах/Склад. Н. Б. Ватацы, Я. І. Садоўскі.— Мн.: Маст. літ., 1994.—207 с., [8] л. іл.**
**ISBN 5-340-00930-0.**

Засталося не так шмат сведкаў таго далёкага ад нас часу — 20-х гадоў, што нарадзілі нямала яркіх імён. Таму нам дарагая кожная старонка ўспамінаў пра таленавітага беларускага паэта Паўлюка Труса, які пакінуў глыбокі і светлы след у гісторыі беларускай літаратуры і сэрцах сучаснікаў.

Зборнік дапоўнены лістамі паэта і яго сяброў, а таксама артыкуламі і вершамі, прысвечанымі яго памяці.

**4603020102—135**
**Г ———————— 70—93**
**М 302(03)—94**

**ББК 83.3Бел7+84Бел7**

**ISBN 5-340-00930-0**

*Пятро Глебка*

## Ён быў маім сябрам

Я пазнаёміўся з Трусам у 1-м класе вышэйшапачатковага вучылішча ў м. Узда. Гэта было восенню 1918 года. Трусу тады было 14 гадоў (ён нарадзіўся ў 1904 годзе). Пра яго маленства ведаю вельмі мала. У кароткай аўтабіяграфіі Трус расказвае: «З ранніх дзіцячых гадоў выхоўваўся ў цёмнай сялянскай сям'і. Сям'я жыла бедна, што адбілася на выхаванні дзяцей».

Я магу крыху дабавіць пра дзяцінства Труса, што чуў ад яго, ад ягоных вяскоўцаў, а пазней — бачыў і сам.

У школе вучні-аднавяскоўцы Труса называлі яго «Паўлюк Шастаковых», а не Трус. Гэта вясковае прозвішча сям'і Труса, якое трапна характарызуе маёмасны стан гэтай сям'і. Бацька Труса — Адам Трус валодаў шостаю часткаю сялянскага надзелу, гэта значыць 2 дзесяцінамі зямлі. Іншай маёмасці амаль не было. Калі я быў у Труса ў 1927 г. (ці 1928 г.) — стаяла ўжо абноўленая, але яшчэ без сяней хата, паўразбураны хлеў; быў вузенькі дворык, а за ім — садок (5—6 дрэў). Казалі, што «бацька Труса з дапамогай сына пачаў багацець». З гэтага вынікае, што раней сям'я жыла яшчэ бядней. На хлеб сям'і Адам Трус зарабляў сталяркай. Дзеці з 9—10 гадоў ішлі ў пастухі. Паўлюку Трусу, як старэйшаму, давялося паспытаць парабкоўскага хлеба першаму.

Бацька вырашыў ашчадзіць дзяцей ад парабкоўства і пачаў старэйшага вучыць у вышэйша-пачатковым вучылішчы.

Паўлюк Трус быў вельмі здольны, адзін з лепшых вучняў. Але вучыцца было цяжка. Да самага снегу 14-гадовы хлапчук хадзіў штодзень з Узды (дзе была школа) дахаты ў Нізок за сем вёрст. Зімою жыў у халодным цесным інтэрнаце пры вучылішчы, харчаваўся галаднавата. Але ніколі не сумаваў. Быў завадатарам усіх гульняў і свавольстваў, усіх «бунтаў» і пратэстаў супраць некаторых педагогаў. Меў вясёлы характар. Смех іскрыўся з яго струменем. Гучны, раскацісты... Аднойчы, убачыўшы праз акно, як казёл атакаваў бабулю, Трус на ўроку зарагатаў сваім «здаровым» (як ён пазней называў) смехам. Пра свавольства было загадана паведаміць бацьку і выклікаць яго да дырэктара. Гэта пахла лупцоўкай. Трус вычэкваў момант, калі дырэктар будзе заняты. Час прыйшоў. Дырэктар быў на рэпетыцыі. І вось заяўляецца Трус:

— Павел Данілавіч, бацька прыехаў!

— Навошта мне здаўся твой бацька! Убірайся! — А назаўтра дырэктар казаў: — Значыць, бацька быў? Шкада, што я не ўбачыў яго.

Здольнасць знайсці выйсце са становішча, дасціпнае слова, высокі палёт думкі — вось якасці Труса як суразмоўцы. З ім заўжды было весела. У 1920 годзе пры адступленні палякаў Павел Адамавіч быў пасланы ў абоз. Даехаў амаль не да Варшавы. Зведаў голад і холад. Хварэў. Спрабаваў уцякаць. Лавілі і білі. Аднак, расказваюць, нават у гэтых умовах Трус быў весельчаком. Потым сам амаль ніколі не гаварыў пра сумныя моманты з гэтай «паездкі», а толькі пра смешныя.

У 1923 годзе Трус паступіў у Мінскі педтэхнікум. У гэтым жа годзе пачаў друкавацца і ўвайшоў у літаб'яднанне «Маладняк». У 1925 годзе ўступіў у кам-

самол. У 1927-м і пачатку 1928 года працаваў у Гомелі ў рэдакцыях газет «Новая вёска» і «Полесская правда».

Восенню 1928 года паступіў на літаратурнае аддзяленне БДУ.

У 1929 годзе, у жніўні, пасля непрацяглай хваробы на брушны тыф, памёр малады, таленавіты паэт, жыццярадасны, шчыры таварыш.

Пра весялосць, раскацісты рогат, гумар (часамі па-вясковаму грубы) гэтага нізкарослага, але дужага, плячыстага хлопца ведаюць усе, хто з ім сустракаўся, хто чытаў яго гумарыстычныя творы ў друку.

Лірыка — ёю таксама прасякнуты кожны твор Труса.

Але адкуль узяўся смутак, які адчуваецца ў некаторых вершах Труса?

Тут тры прычыны.

У Труса маркотнае маленства.

Яшчэ пры жыцці паэта яго маці памерла ад сухотаў.

Усю працу ў хаце спраўляла сястра-падлетак (здаецца, Маня).

Пра гэты смутак вясковай жанчыны і піша Трус.

З другога боку, сум, народжаны сваім мінулым і мінулым сваёй сям'і, свайго класа.

Нарэшце, туга па паднявольнай Заходняй Беларусі і мінулым нашага краю (паэма «Дзесяты падмурак»).

Але ягоная туга не раўназначна адчаю. Наадварот, праз яе прарываецца мужны кліч, вера ў перамогу, яна ўзмацняе па кантрасту гэтую веру і заклік.

Трус асабіста не ўдзельнічаў у грамадзянскай вайне. Аднак такой жа сілай і верай гучаць такія ягоныя творы, як «Астрожнік», «Юны змаганец» і шэраг іншых.

Бацька Труса служыў на Каўказе ў царскай арміі.

Ён шмат расказваў сыну пра Каўказ, пра Украіну. Трус сам вельмі захапляўся народнай творчасцю і Шаўчэнкам. З гэтага ўсяго выкрышталізоўваўся своеасаблівы стыль Труса, народны, песенны, з налётамі «экзотыкі»: моры, стэпы, горы...

І яшчэ адна рыса Трусавай творчасці — песня пра адыход з вёскі «ў людзі», у горад і ... пазней — вяртанне ў новую вёску. Тут зноў адгукаецца аўтабіяграфічнасць. Трус прайшоў цяжкі шлях, загартаваўся ў барацьбе з жыццёвымі нягодамі, і гэта дало велізарную (я сказаў бы горкаўскую) любоў да чалавека і веру ў яго. У гэтым, вядома, уплыў і Горкага ёсць, нават у форме.

Пра грамадскую працу Труса. Ён заўсёды быў тут актыўным. Ніводная газета ў тэхнікуме не выходзіла без ягонага ўдзелу. Велізарную дзейнасць разгортваў Трус у вёсцы пад час вакацый (выступленні, спектаклі, лекцыі). У 1928 годзе летам мы прайшлі з Трусам пешкі амаль усю Слуцкую і Мінскую акругі. У кожнай вёсцы, дзе толькі спыняліся, вечарамі Трус збіраў моладзь, чытаў вясёлыя апавяданні (Чарота, Крапівы), танцаваў, быў сваім хлопцам. Асабліва шмат зрабіў Трус для пашырэння літаратуры на вёсцы ў час сваіх раз'ездаў па вёсках, калі працаваў у рэдакцыі гомельскай газеты «Новая вёска». У самых глухіх мястэчках і вёсках ён выступаў з дакладамі пра літаратуру, чытаў свае вершы і вершы іншых, дапамагаў у пастаноўках п'ес, у іншай культурнай рабоце.

У выніку такой цеснай лучнасці з працоўнымі масамі, у выніку суровага жыццёвага выхавання Трус і ў жыцці, і ў творчасці быў верным працоўнаму народу. Ён быў выйшаў з «Маладняка» і збіраўся перайсці ў літаратурнае згуртаванне «Узвышша». Гэтыя хістанні паміж «Маладняком» і «Узвышшам» паўтараліся некалькі разоў.

Некалькі слоў пра сям'ю Труса і вёску (я думаю, для нарыса абстаноўка і месца — істотныя).

Вёска Нізок, дзе нарадзіўся і гадаваўся Трус,— гэта сярэдняя (двароў 150) беларуская вёска, з саламянымі стрэхамі хат, пакрыўленымі хлявамі, занесеная зімою снегам, абсыпаная летам квеценню. Ва Уздзенскім раёне, нават ва ўсёй ваколіцы, Нізок — перадавая вёска. Пасля рэвалюцыі там была вялікая камсамольская ячэйка, а таксама партыйная, тады як у іншых вёсках ніводнага камсамольца не было.

Сям'я Труса складалася з 5-ці чалавек — Паўлюк Трус (старэйшы ў сям'і), яго брат Міхась, бацька Адам, маці і сястрычка (у 1928 годзе ёй было гадоў 16). Маці памерла, памёр і сам Паўлюк, засталіся траіх: бацька, малодшы сын і дачка. Засталося шмат равеснікаў і моладзі, якія памятаюць паэта, чытаюць яго вершы, спяваюць песні і прыпеўкі.

*1933*

## *Вера Чэпікава-Трус*

## Успаміны сястры

Я была малая, калі да нас прыязджаў Паўлюк, але тое-сёе памятаю. Паўлюк быў добры, чулы, спагадлівы. Помню Паўлюка — невысокага, каржакаватага, сінявокага юнака, здатнага да вучобы, песняў, танцаў. Ён удзельнічаў у пастаноўках, было намаляваў мяне як жывую.

У сям'і Паўлюк быў старэйшы, а таму, прыязджаючы на канікулы, быў рады памагчы нам у любой рабоце. Аднойчы прыязджаў з Максімам Лужаніным, хадзілі па арэхі ў лес, які называецца Малеўшчынай, там мы з сястрой Марыяй жалі авёс і грэчку, хлопцы нарвалі арэхаў, скасілі недажатае, і мы разам пайшлі дадому. Калі Паўлюк прыязджаў з Пятром Глебкам, то хадзілі касіць сена ў Вішнякі, назад ішлі з песнямі.

Калі прыязджаў зімой на канікулы, выпускаў вусную газету, дзе высвятляў добрыя і дрэнныя бакі вясковага жыцця. Часта Паўлюк прасіў Марыю спяваць старыя песні. Аднойчы зімой ён прывёз нам па хустцы, Марыі падарунак не спадабаўся, то Паўлюк кажа: «Буду больш атрымліваць грошай, тады лепшыя куплю».

Калі прыязджаў да нас Паўлюк, мы яго сустракалі як вялікага госця. Марыя прыбірала ў хаце. Аднаго разу яны прыехалі з Глебкам, а ў хаце поўна стружак — гэта тата сталярнічаў. Пакуль сястра прыбірала стружкі і белай настольніцай заслала стол, яны гулялі ў садзе.

Па расказах таты, зімой яны з Паўлюком вазілі лес да рэчкі, вусы на сплаў. У Паўлюка былі лапці парваныя і пальцы відаць. Тата гаварыў яму: «Перабуйся». А ён у адказ: «А, мне цёпла!»

Успамінаецца, як прыслалі яго з Белпедтэхнікума ў Нізоўскую школу на практыку. Ідучы з ім дамоў, я гавару: «Калі я ўжэ гэтыя лапці скіну!» А Паўлюк кажа мне: «Нічога, Вера, вучыся, я цябе абую і адзену».

Жылі мы бедна, каб купіць якой тканіны на сукенку, трэба было самой зарабіць, вось я і хадзіла ў ягады, назаўтра несла два-тры збаночкі ва Узду, там літровы збаночак ягад бралі па 10—15 капеек. Так я сабрала грошы на сукенку, і паехалі купляць з Паўлюком. А ў мяне не хапае грошай. Паўлюк дастаў з кішэні дробязь і даклаў мне на тры метры матэрыялу.

Мама часта хварэла, а таму з вялікай радасцю сустракала Паўлюка. Калі мама памерла і прыехаў Паўлюк, то суцяшаў нас, каб не плакалі, а сам стуліцца ў кутку і моцна плача. Здаецца, і ўсё, што помню.

*1990*

*Мікола Хведаровіч*

## Паўлюк Трус

Як бязлітасна шпарка бяжыць час. Не паспееш аглянуцца, нацешыцца яго хараством, а ўжо адна здзіўляючая падзея змяняе другую.

Больш трыццаці гадоў таму назад памёр Паўлюк Трус, а здаецца, толькі ўчора ён быў сярод нас. Невысокага росту, каржакаваты, з яснымі блакітнымі вачамі, з густымі пасмамі кучаравых валасоў ён нагадваў вобраз коласаўскіх палешукоў, трапных на гумар, вясёлых на ігрышчах, упартых і нязломных, як той дуб, перад нягодамі ў жыцці. Акрамя гэтых своеасаблівых якасцей, ён вызначаўся сярод нас багаццем светаадчування, прыгожымі пачуццямі, пявучым голасам, звонкім смехам. Ён умеў захапляцца — здольнасць, якою валодае не кожны з паэтаў. Ён захапляўся сонечнымі водбліскамі, называючы іх усмешкай; вятры яго плачуць у дуброве параненай; малатарня звоніць гулкім рогатам грудзей; яго бор смуглабровы, а цені ад бору купаюцца ў даліне і ў лузе плаваюць абветраным чаўном. Жытнёвыя палі і квяцістыя шаўковыя сенажаці, смалістыя сосны і развесістыя явары навяваюць халодны смутак пры расставаннях і вялікую светлую радасць пры сустрэчах. Кожная новая з'ява ў нашым жыцці знаходзіла сабе месца ў яго шырокай і адкрытай душы. Убачыўшы, як з-за горкі па дарозе крочыць піянерскі атрад, ён піша:

Піянерскі сцяг нясём  
З ленінскім заветам,  
Наша песня —  
Песня-гром,  
Кліч па-над сусветам...

Агні першамайскіх дэманстрацый абуджаюць светлую мару аб вялікім братэрстве ўсіх працоўных.

Агні гараць... Агні ў прасторах...
А думы сочацца, плывуць...
Ў адну любоў зліемся скора —
Ў любоў шырокую, як мора,
Дзе шчасце ў вечнасці для ўсіх!

Нічога на свеце мацней не любіў паэт, як свой родны край і яго нястомных працавітых людзей. Ён захапляўся іх здатнасцю і трываласцю ў працы, іх песнямі і самабытным гумарам. Гэта аб іх ён піша ў вершы «На чырвонай дарозе»:

Хто яны — на чырвонай дарозе
Узнімаюць пад ветрам сцягі?
Хто яны,— песняй-хваляю грознай
Ў маім сэрцы узвеялі крозы,
Ўкалыхнулі жыцця берагі?
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ад курных хат, ад фабрык дымных
Яны прыйшлі ў вялікі свет,
Каб грудзі поўніліся ўздымам,
Дзе кожны з іх — тварэц, паэт!

Паўлюк Трус памёр, калі яму ішоў дваццаць пяты год. Але жыццё паэта не вымяраецца пражытым часам. Яго мы адчуваем у тых мастацкіх каштоўнасцях, якія засталіся нам у спадчыну ад яго бунтоўнага творчага жыцця. Сапраўдная паэзія, як і ўсялякае сапраўднае мастацтва, ніколі не памірае. Яе колеры не губляюць свежасці і яскравасці, а адценні своеасаблівай прыгажосці робяцца яшчэ больш выразнымі і ўражальнымі.

На мінскіх Вайсковых могілках, сярод кучаравых шумлівых сосен, дзе пахаваны паэт, на шэрым магільным камені — скульптурны барэльеф Паўлюка Труса. Гэта сяброўскі дар беларускіх паэтаў-маладнякоўцаў і народнага мастака Заіра Азгура. Сосны, колькі разоў апетыя ў творчасці паэта, стаяць на варце цішыні

і адвечнага спакою. Яны таямніча шумяць сваімі вечназялёнымі кронамі, быццам спяваюць гімн жыццю сярод магільнай цішыні. Ні грозныя буры падзей, ні суровы час пражытых гадоў не сцерлі іх хараства, не заглушылі гэтага шуму, як і не кранулі мужнага ў барацьбе, меладычнага ў песнях, пяшчотнага ў сяброўстве голасу Паўлюка Труса:

Ішлі гады... Танулі ў вечнасць...
Плыло аджыўшае на дно...
І толькі ў радасці аб нечым
Звінела песня пад сасной.

А ў полі кветкі адцвіталі...
Адны ўзыходзілі гусцей.
Ой, песня, песня дарагая,
Ў душы ты век не адцвіцеш!..

Шмат якія творы паэта цяпер сталі хрэстаматыйнымі. І амаль кожны ўжо ведае, што Паўлюк Трус — аўтар вядомай паэмы «Дзесяты падмурак», твора, які ў гісторыі беларускай паслякастрычніцкай літаратуры з'явіўся адным з першых і найбольш выразных паэтычных твораў пра наша сацыялістычнае будаўніцтва ў гады першай пяцігодкі. Як своеасаблівы паказчык перспектывы перабудовы нашай краіны на базе высокай індустрыяльнай тэхнікі, паэма знайшла сабе шырокую дарогу да чытача — героя-будаўніка. Форма яе лаканічная, арганічна звязаная са зместам. Лірычныя адступленні і пафасная эмацыянальная накіраванасць паасобных раздзелаў робяць паэму натхнёнай песняй, якая гучыць як летапіс эпохі вялікага пераўтварэння краіны Беларусі з аграрнай, адсталай у краіну «дымных фабрык і машын».

Паэтычны талент Паўлюка Труса вызначаецца глыбокай лірычнай задушэўнасцю і шчырасцю. Сіла яго ўздзеяння на чытача мужнела і квітнела на магутнай глебе народнай творчасці. Песенны лірызм, меладычны тэмбр яго паэтычнага голасу, тэматыка і архітэкто-

ніка верша — усе гэтыя якасці, безумоўна, складаліся пад непасрэдным уплывам народнага песеннага фальклору, не кніжна вывучанага і штучна перанесенага ў творчасць, а арганічна ўспрынятага ад непасрэднага збліжэння з людзьмі працы, героямі вялікай будоўлі. Яго ярка акрэслены лірычны герой — гэта рабочы і працавіты беларускі селянін. Чароўная беларуская прырода, дзе прытуліліся ціхія вёскі пад засенню векавечных ясеняў і клёнаў — усё гэта ў творчасці паэта авеяна пачуццём радасці і любові да роднага краю, да свайго народа.

Магутны песенны фальклор прасякае вершы Труса ў сінтэзе з тым новым, сучасным, якое прыўнясла ў жыццё савецкая рэчаіснасць 20-х гадоў. І Паўлюк Трус становіцца песняром вялікіх дзён нараджэння новага чалавека — чалавека сацыялістычнай працы. Там, дзе б'ецца пульс жыцця,— нараджаецца магутная мелодыя барацьбы, чутны песні светлай радаснай перамогі, праяўляюцца новыя якасці нутранога свету чалавека-грамадзяніна, чалавека-барацьбіта. І паэт у сваёй творчасці заняў пэўную, строга акрэсленую пазіцыю.

Будучы прадстаўніком беднейшага сялянства, Паўлюк Трус горача, ад усяго сэрца, вітае прыход новай эры і ўвесь свой творчы пафас накіроўвае на ўслаўленне роднага народа-будаўніка, становіцца такім чынам у перадавыя шэрагі барацьбітоў за сацыялізм. Ён разумее, што толькі праз індустрыялізацыю краіны, праз электрыфікацыю прамысловасці і сельскай гаспадаркі ляжыць светлы шлях да народнага шчасця. Гэта ён марыць у сваіх песнях аб тым, калі яго «краіна соннага надхмар'я расцвіце у чырвані зарніц».

У гэтых, здавалася б, нязначных дэталях адлюстравана вялікая гістарычнасць нашага часу. Яна можа здацца нават незразумелай для некаторых прадстаўнікоў пакалення, якое вырасла ў эпоху сацыялізму

і не памятае першай пяцігодкі. У сувязі з гэтым хочацца прыгадаць некаторыя моманты таго часу.

Набліжаліся ўрачыстыя дні 10-годдзя БССР. Да гэтай знамянальнай даты меркаваліся праклясці ў Мінску першую трамвайную лінію ад вакзала да Камароўкі. У клубе імя Карла Маркса адбываўся шумны сход партыйна-камсамольскага актыву, ішлі спрэчкі аб тым, ці трэба пракладаць трамвайную лінію, ці, можа, лепш наладзіць рэгулярны рух аўтобусаў. Але нешта трэба было рабіць, бо яшчэ ў той час па вуліцах Мінска грукацела дапатопная конка. Гэта былі вельмі складаныя для таго часу гаспадарчыя пытанні, і займалі яны ўвагу ўсёй грамадскасці горада.

Вось на гэтым сходзе я і сустрэў Паўлюка Труса. Ён надзвычай быў захоплены мерапрыемствамі, якія намячаліся да ўрачыстай даты. Планы разгорнутага сацыялістычнага будаўніцтва так узрушылі паэта, што яго творчая задума стала куды шырэйшая. Верш, спачатку надрукаваны да 10-годдзя рэспублікі, перарастае ў паэму пад тым жа загалоўкам — «Дзесяты падмурак». Паэт пранікнёна заглянуў наперад, праз дзесяцігоддзі, і ўбачыў у перспектыве новы сацыялістычны горад ва ўсіх яго прыгожых абрысах.

Творчы міг... Напорная імклівасць...
Працай тут заняты муляры.
І пад небам зорнасці маўклівай
вырастаюць волаты-муры.

Добры дзень, аснежныя прасторы,
добры дзень, сталіца хараства!
Скора ў бляску вечара, ой, скора
празвініць па вуліцах трамвай.

І тады я стану пад гарою,
каб пазбыцца смутку і журбы,
буду слухаць песні Асінстрою,
захапляцца музыкай турбін.

Багатаму паэтычнаму апавядальнаму складу паэмы спрыяе імклівы рытмічны размах рэвалюцыйнай узнёс-

лай песні, якая ў тыя далёкія часы брала пачатак у творчасці выдатнага беларускага паэта Міхася Чарота.

Але тут усё сваё, з моцнымі праявамі колеру, густу і голасу эпохі 20-х гадоў.

Творчасць Паўлюка Труса і зараз даходзіць да самага сэрца народа. Сіла яе ў народнасці песеннага сказа, ва ўсеагульнай даступнасці і блізкасці лепшым пачуццям чалавека.

Песеннасці — вось чаго не хапае часам у нашай сучаснай паэзіі. Часта меладычнасць верша падмяняецца рытарычным звонам або цягучым кволым прымітывам. У гэтым сэнсе ёсць чаму павучыцца маладым паэтам у Паўлюка Труса. Песня маленства з верша «Не заспі,— пабудзі мяне рана...» і зараз маладая і прыгожая, яна хвалюе чытача.

Ой, над яварам,
над крыніцаю
нахіліліся
дзве вярбы...
Пахіліліся,
зажурыліся
ў песнях
радасці
і журбы!..
А пад вербамі
пад зялёнымі
цякла рэчанька
ды адна...
Над тэй
рэчанькай
задумёнаю
я журылася
ад відна...

А як прыгожа і мілагучна пяецца песня «Вее вецер...», якую і зараз выконваюць з поспехам беларускія хары. У гады станаўлення беларускай паэзіі Паўлюк Трус стварыў нямала тэкстаў беларускіх песень — «У лузе вербалозы», «Ой, у полі тры таполі...»,

папулярная піянерская песенька «Журавель» і многія іншыя.

Паэт быў цесна звязан з усімі газетамі таго часу і, значыць, непасрэдна з жыццём. Газета збліжала песняра з людзьмі працы, прымушала адгукацца сваімі творамі на ўсе злабадзённыя пытанні. Паўлюк Трус друкаваў у газетах вершаваныя рэпартажы, сатырычныя вершы, частушкі, вершы, прысвечаныя ўкараненню лепшых севазваротаў у сельскай гаспадарцы, догляду жывёлы, барацьбе з рэлігійным дурманам. Трапнае вершаванае слова, накіраванае на хутчэйшае ўзняцце калектыўнага руху на вёсцы, было пастаўлена на службу нашай партыі.

Яшчэ і яшчэ раз перачытваючы кнігу вершаў Паўлюка Труса, пераконваешся, якая магутная песенная сіла не паспела канчаткова сфарміравацца і ва ўсю веліч расквітнець. Любоў да сваёй бацькаўшчыны вяла яго знаёмымі шляхамі вялікіх беларускіх народных паэтаў у чароўны заўтрашні дзень.

Прыйшоў я з казкамі
у залатое ранне
Ад Сожа ціхага,
ад берагоў Дняпра.

Краіна родная,
прымі маё вітанне,
Прымі мой зорны спеў,
далёкая сястра!

Паўлюк Трус — зямляк народнага пісьменніка Кандрата Крапівы. Трус нарадзіўся ў невялікай вёсцы Нізок Уздзенскага раёна Мінскай вобласці ў 1904 годзе. Вялікая і дружная сям'я Адама Труса ад дзедаў і прадзедаў жыла выключна з працы сваіх рук. Ці не таму з пакалення ў пакаленне не зводзіліся ў іх родзе каржакаватыя жаніхі, здатныя бондары і цеслі, веселуны на ўсю вёску, найлепшыя спевакі і танцоры. І ўжо з маленства яны браліся за пасільную працу,

каб не быць дармаедамі, як часта казаў руплівы і працавіты бацька паэта.

— У дзесяць гадоў,— казаў мне Паўлюк Трус,— я ўжо хадзіў за бараною. Бацька сеяў, а я па свежых слядах баранаваў і не толькі баранаваў, а нават пад'язджаў на баране, за што ад бацькі часта пападала па вушах. У дванаццаць гадоў я браў першыя ўрокі на аратага, праца куды менш цікавая, бо патрабавала пільнасці і вялікай увагі. У пятнаццаць гадоў я моцна трымаў касу ў руках і, як спрактыкаваны мастак, добра вымалёўваў шырокія пракосы на нашых прынёманскіх лугах.

Дзед яго, чалавек непісьменны, лічыў, што ўнучак, любімы Паўлючок, не павінен забіваць сабе галаву такой непатрэбшчынай, як грамата, бо яна, на думку старога, толькі сушыць чалавека. А хлопчык рос дужым і каржакаватым. І гэта радавала сям'ю, якая бачыла ў ім добрага гаспадара — уцеху старасці. Бацька Паўлюка, хоць сам быў пісьменны, аднак прытрымліваўся погляду дзеда.

— Яшчэ не было чутно, каб з навукі хто-небудзь з простых людзей зарабляў на хлеб,— казаў ён.— Не вельмі з тае граматы наясіся хлеба... Не навука, а дужасць і спрыт патрэбны простаму чалавеку.

«Але мяне цягнула да навукі,— пісаў Паўлюк Трус у сваёй аўтабіяграфіі.— Маці была на маім баку. Пасля доўгіх хатніх спрэчак бацька згадзіўся з настойлівым і жаласным прыставаннем мацеры і аддаў мяне ў школу.

— Няхай вучыцца,— сказаў ён настаўніку,— але прабіваць сабе дарогу ў жыцці давядзецца яму сваімі кулакамі. Навука для нас, можна сказаць, адно балаўство».

У вясковай школе Паўлюк здзівіў настаўніка сваёю стараннасцю і кемлівасцю. Пачалі праяўляцца ў вучня і іншыя здольнасці. Ён умеў намаляваць у сваім

сшытку вясковую вуліцу. Зіма. Стаяць вясковыя хаты пад калматымі шапкамі снегу. Вясковая студня. Каля яе ўвіхаюцца жанчыны. Хлапчукі з торбамі цераз плячо бягуць у школу. Аднойчы нават ён паспрабаваў намаляваць і самога настаўніка. Адным словам, у школе Паўлюк лічыўся мастаком. Сябры-аднакласнікі падлабуньваліся, каб і ў іх сшытках што-небудзь намаляваў Паўлюк. А як добра спяваў ён у школьным хоры! Нават саматугам складваў песні і часта спяваў іх пры рабоце. Добра браўся хлопец і ў грамаце. Ён асабліва добра адказваў урокі, а чытаў — «як рэпу грыз». Гэтая жартаўлівая метафара была ў вёсцы Нізок вышэйшай ацэнкай для вучня. Усе вершы, якія былі ў падручніку, ён ведаў назубок.

Аднойчы настаўнік школы, сустрэўшыся з Адамам Трусам, так расхваліў яго сына, што той першы раз у жыцці паверыў у практычную вартасць граматы і пасля сканчэння сынам вясковай школы адвёз яго ў сямігадовую школу ў мястэчка Узда.

Навучанне ва Уздзенскай школе акрыліла юнака. Там знайшліся цікавыя сябры, сярод якіх асабліва блізкімі сталі для яго Пятро Глебка і Алесь Якімовіч. Іх яднала ў дружбе вялікая любоў да мастацкага слова, жаданне самастойна разведаць чароўную сілу яго казачнай прыгажосці. І ён ім першым паказаў свае нясмелыя спробы пяра — вершы, напісаныя пад уплывам творчасці Янкі Купалы і Тараса Шаўчэнкі. Хлопцы часта сустракаліся і чыталі свае частушкі і вершы. Некаторыя вершы змяшчаліся ў насценгазеце. Хлопцы думалі: як скончым сямігодку, пададзімся ўсе ў Мінск вучыцца на настаўнікаў.

Але грамадзянская вайна не спрыяла нармальнаму навучанню. Паўлюк некалькі разоў перарывае заняткі. У 1920 годзе, калі Чырвоная Армія наступала на Варшаву, ён на сваім кані быў у абозе. А калі вярнуўся з далёкага падарожжа, дык давялося доўгі

час жыць дома і дапамагаць бацькам у гаспадарцы. Вечарамі, запаліўшы газоўку, зачытваўся вершамі Пушкіна, Някрасава, Кальцова, Шаўчэнкі, Купалы. Асабліва ўплывалі на яго творы Тараса Шаўчэнкі. «Кабзара» ён амаль усяго вывучыў на памяць.

Схільны да песеннай творчасці, Паўлюк Трус падбіраў матывы народных беларускіх песень да шмат якіх вершаў Шаўчэнкі. Трохі перайначваў іх і спяваў за плугам ці ў лесе, шукаючы грыбоў. У лясной цішыні песня асабліва выразна раскрывала свае меладычныя чары.

Селі гусанькі —
Гусі-лебедзі,
Пalі шэрыя
На ваду.

Ой, скажэце, гусанькі,
Ой, скажэце, лебедзі,
Ці я сваё шчасцейка
Ды знайду?

Як расказваў неаднойчы Паўлюк Трус, песня неадступна ішла ў нагу з яго жыццём: «Ці то на полі, ці ў лесе, ці за працай дома я заўсёды спяваў, голас песні гучаў у маім сэрцы». Аб гэтым паэт красамоўна сказаў у адным са сваіх вершаў.

Жыццё у песні
ад калыскі.
Пакуль гараць ў вачах агні,
пяеш аб родным,
сэрцу блізкім,
а сэрца звон
звініць,
звініць...

У 1923 годзе Паўлюк Трус прыязджае ў Мінск, каб паступіць на вучобу. У гэты час яго сябар па Уздзенскай школе Алесь Якімовіч ужо вучыўся ў Белпедтэхнікуме. Падаў і Паўлюк сваю заяву туды ж. Алесь Якімовіч пры сустрэчы сказаў яму, што ў тэхнікуме выкладае методыку роднай мовы Якуб Колас.

Гэта была вельмі прыемная і радасная навіна. Паўлюк Трус, яшчэ не прыняты ў тэхнікум, пачаў прыглядацца да ўсіх настаўнікаў, стараючыся распазнаць знаёмыя абрысы твару любімага пісьменніка, якія запомніліся яму па кніжных партрэтах. Заглядаў у настаўніцкую, пільнаваў у калідоры, але сустрэцца з Якубам Коласам так і не ўдалося. У час экзаменаў Колас не прысутнічаў, і доўгачаканую сустрэчу давялося адкласці да той пары, калі Паўлюк будзе ўжо студэнтам і ўбачыць Коласа ў аўдыторыі. А да гэтага ўжо заставалася мала часу.

І вось Паўлюк Трус — студэнт Белпедтэхнікума. Пачалося знаёмства з шумнай студэнцкай сям'ёй. Сяброўская сувязь з Алесем Якімовічам стала яшчэ глыбейшая. Хлопцы паспрабавалі ажыццявіць ранейшыя мары практычна. Яны падалі першыя свае вершы ў рэдакцыю часопіса «Малады араты». І — о шчасце! — праз некаторы час убачылі іх надрукаванымі. Радасці не было канца. Упарта і самаадданa пачалі яны працаваць над вершаваным словам. Іх вершы і допісы ўсё часцей з'яўляюцца і на старонках студэнцкай насценгазеты. У 1924 навучальным годзе літаратурны гурток тэхнікума пачалі наведваць навічкі — Пятро Глебка, Максім Лужанін, Сяргей Дарожны. Літаратурная праца ў гуртку, які часта наведваў Якуб Колас, стала сур'ёзнай школай. Якуб Колас умеў сардэчным бацькоўскім словам дакарыць і падтрымаць. Ён радаваўся, што вакол яго вырастае здольная і працавітая літаратурная моладзь, якая смела і ўпарта шукае свае самастойныя шляхі ў літаратуры.

Пісанне вершаў для Паўлюка Труса стала вялікай і слаўнай жыццёвай мэтай.

Неўзабаве Андрэй Александровіч і Алесь Якімовіч сталі членамі першай літаратурнай арганізацыі «Маладняк», а праз некаторы час увесь літаратурны гурток пачаў наведваць сходы і заняткі гэтай арганізацыі.

Творы Пятра Глебкі, Максіма Лужаніна, Сяргея Дарожнага, Паўлюка Труса пачалі ўсё часцей друкавацца ў часопісах «Маладняк» і «Маладыя араты», у газетах «Беларуская вёска», «Чырвоная змена». А ў 1925 годзе ўсе гэтыя хлопцы ўжо былі членамі «Маладняка». Кожны з іх нібы падкрэсліваў сваю прыналежнасць да маладняко ўскага згуртавання тым, што падпярэзваўся саматканым беларускім паяском. Трошкі пазней гэты паясок з кімаўскім значком на яго левым канцы стаў своеасаблівай эмблемай часопіса «Маладняк».

У гэты час я працаваў у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена», якая размяшчалася ў памяшканні на Камсамольскай вуліцы. У адным доме з нашай газетай была таксама і рэдакцыя юнацкага часопіса «Маладыя араты». Пасля заняткаў у тэхнікуме сюды часта забягалі маладыя паэты. Але мы ў рэдакцыі чамусьці найбольш ведалі Паўлюка Труса. Ён быў надзвычай просты і ветлівы, здатны на трапныя жарты. Ды і вершы яго былі калі не песенна-лірычныя, дык абавязкова прыпраўленыя едкім гумарам.

Перад маімі вачыма ён нібы жывы і зараз. З шумам адчыняюцца скрыпучыя дзверы рэдакцыі, і да нас убягае невысокага росту прысадзісты русавалосы хлапец. На ім паўкажушок, на галаве шапка са скураным аколышкам, якую ў той час называлі «нэпманкай». На дварэ месяц люты, але ідзе мокры снег з дажджом. З-пад шапкі выбіваюцца непаслухмяныя пасмы валасоў. З-пад мокрага паўкажушка відаць расхлістаную белую рубашку і адкрытую мускулістую бронзавую шыю юнака. Не паспяваў Паўлюк страсянуць мокры снег з паўкажушка, як яго акружалі супрацоўнікі газеты.

— Што, прынёс новыя вершы? — усхвалявана крычыць Мішка Гольдберг (пісьменнік Златагораў).— Нясі сюды, я складаю літаратурную старонку.

Яго перабівае Шура Сучкова. Ёй патрэбны вершы

пра дзяўчат-камсамолак. Трус абяцаў ёй напісаць.

У рэдакцыйным пакоі няўтульна і холадна. Гудзе чыгунная пячурка. Трашчаць яловыя дровы, іскры вылятаюць і падаюць на падлогу. Каля пячуркі прымайстраваўся ўвесь чырвоназнаменскі калектыў рэдакцыі. Паўлюк Трус чытае свой верш, напісаны спецыяльна для нашай газеты па заказу Шуры Сучковай. Цішыня. Толькі чуваць звонкі голас паэта ды разлютавана гудзе полымя ў нашай «буржуйцы», паглынаючы ў агні сухія аскабалкі.

І што сказаць?
Ну што, Марына?
Сказаць адно,
адно ўсяго:
Жыву сягоння
успамінам,
Што падарыла
мне яго.

І нібы падбадзёрваючы сябе ўласным голасам і ўвагай сяброў, ён яшчэ больш выразна і дасканала адцінае кожнае чатырохрадкоўе, і яно гучыць звонка і пявуча, нібы ўзмахваючы лёгкімі крыламі ў насцярожанай цішыні.

Цвілі сады...
Я помню вечар...
І ў гэны вечар —
май вясны —
З табой апошняя
сустрэча
Была на мітынгу
адным...

Скончыўшы чытаць, ён, быццам у нейкім забыцці ці зачараванасці, глыбока ўздыхнуўшы, пытаецца:

— Ну-у, хлопцы, як вам спадабалася? — Вочы яго свецяцца нейкім блакітным святлом, а на вуснах нясмелая ўсмешка.— Можа, што не так? — пытаецца ён, усё яшчэ ўсміхаючыся.— Пра дзяўчат яшчэ не вельмі спрактыкаваўся пісаць. Нават чытаць было спачатку няёмка неяк, але што з вамі зробіш...

Часта Паўлюк Трус забягаў у рэдакцыю не адзін, а са сваім лепшым сябрам Пятром Глебкам, часам з Максімам Лужаніным ці Сяргеем Дарожным. Усе хлопцы друкаваліся ў нашай газеце і былі шчырымі нашымі сябрамі.

1926 год. Вокны нашай рэдакцыі адчынены. Па бруку вузенькай у той час калдобістай Камсамольскай вуліцы грукацяць ламавыя падводы. Ад гэтага грукату нічога не чуваць, але мы ўважліва прыслухоўваемся да кожнага слова Паўлюка, які чытае верш «Студэнтка», напісаны разам з Пятром Глебкам. Шмат спрэчак выклікаў гэты верш. Хлопцы забракавалі яго, а дзяўчатам, наадварот, ён вельмі спадабаўся. Справа ў тым, што ён быў напісаны таксама па заказу нашых камсамолак і рытмічна нагадваў вельмі папулярную ў той час песеньку «Кірпічыкі». Гэтую песеньку тады спявалі камсамольцы ў сваіх клубах, ва ўстановах перад сходамі і на вуліцах. Ды што казаць, хто з нас, старэйшых, не памятае і сёння папулярных слоў і матыву гэтай простай песенькі! Вось маладыя паэты занадта ўжо хацелі дагадзіць дзяўчатам і не зусім крытычна выкарысталі кампазіцыю і інструментоўку гэтай песні.

Вядома, заказ ёсць заказ. Да таго ж трэба было таксама папоўніць і свой студэнцкі бюджэт, бо вельмі цяжка жылося на тагачасную стыпендыю. Атрымалася ў іх нешта падобнае на песню.

А ў горадзе ў Белпедтэхнікуме
Паступіла ■ семнаццаці год.
Палюбіла тут словы светлых дум
І вясёлых дзяўчат карагод.
А на трэці год я пішу ў сяло:
Ой, матуля!.. Не знаю, чаму —
За чароўны зірк і за шчырасць слоў
Падарыла я сэрца яму!

Супраць друкавання гэтага верша быў малады паэт Максім Залётны, літработнік газеты, але ж дзяўчаты

паднялі «бунт» і ўжо знарок вывучылі і спявалі незамысловатыя радкі гэтага верша. Вырашыў спрэчкі рэдактар газеты А. Курцік, які пайшоў насустрач жаданню нашых камсамолак, і такім чынам верш быў надрукаваны.

Часта друкаваліся вершы Паўлюка Труса і ў піянерскім часопісе «Піянер Беларусі», які ў той час рэдагаваў Алесь Якімовіч. Палюбілі піянеры і папулярную ў той час песеньку на словы Паўлюка Труса «Журавель», якая пачыналася так:

Піянерская сям'я
Распявае жураўля:
Жура-жура журавель,
Журавелька малады.

Яшчэ больш мы пасябравалі з Паўлюком Трусам у пачатку 1927 года, калі я пачаў наведваць маладнякоўскую паэтычную студыю. Яна збіралася ў доме прафсаюзаў на плошчы Свабоды. Раз у тыдзень невялічкі пакой на трэцім паверсе запаўняўся звонкімі юначымі галасамі. У студыі я бліжэй пазнаёміўся з Пятром Глебкам, Алесем Звонакам, Янкам Бобрыкам, Максімам Лужаніным, Зінай Бандарынавай, Жэняй Пфляўмбаўм, Наташай Вішнеўскай і іншымі маладымі паэтамі таго часу. Некаторыя з іх зараз ужо вядомыя пісьменнікі і справілі свае юбілеі, а некаторыя займаюць досыць вялікія пасады і працуюць у Акадэміі навук. А тады мы ўсе былі студэнтамі, і нам нашы літаратурныя спробы пяра здаваліся самай найвышэйшай і высакароднай справай. На свеце не было для нас нічога больш важнага і каштоўнага, чым нашы скараспелыя вершыкі. Мы жылі імі і дыхалі, а з'яўленне іх у друку было для нас найвялікшай урачыстасцю.

Паўлюк Трус у той час быў адным з прыкметных беларускіх паэтаў сярод нас. Яго вершы выйшлі асобным зборнікам і з'яўляліся на старонках часопісаў.

Паўлюк часта выступаў разам з маладнякоўцамі на літаратурных вечарах. Я ж быў толькі пачынаючым і сарамліва прымайстроўваўся дзе-небудзь у куточку, наглядаючы за смелымі паводзінамі сваіх сяброў. Кіраўніком студыі быў Адам Бабарэка, тагачасны літаратурны крытык і даследчык. Мы слухалі даклады па літаратуразнаўству, а творчасць вядомых пісьменнікаў з'яўлялася для нас узорам. Аднак найбольш цікава было тады, калі мы разбіралі творчасць саміх студыйцаў. Запомніліся заняткі, на якіх Паўлюк Трус чытаў свае новыя вершы. Перад гэтым было надзвычай шумліва і весела. Актыўнасць была празмерная. Але калі Трус пачынаў чытаць, мы слухалі, не прапускаючы ніводнага слова.

За акном над хутарамі ноч...
І маўчаць за возерам таполі.
Толькі сэрца сціснецца ад болю,
Як успомню, што было даўно.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Будзе песня, казка, а ці сказ?
Будзе песня, казка, а ці помнік?
Кожны з нас дні завірухі помніць,
Як вінтоўку ў роспачы сціскаў.

Асабліва шмат спрэчак выклікаў верш «На што мне смех...». Выступалі Глебка, Лужанін, Звонак, Бандарына і іншыя. Яны выказалі шмат супрацьлеглых думак. Адны залічалі паэта да кола найлепшых маладых імажыністаў, другія ставілі яго ў шэрагі прадаўжальнікаў творчасці Тараса Шаўчэнкі і Янкі Купалы і лічылі, што якраз па такім шляху і павінна развівацца беларуская паэзія. Праз гады разгубляліся дакладнасці гэтых спрэчак, а верш застаўся.

Нашто мне смех тваіх вачэй,
Твайго аблічча каляровасць!..
Калі душа баліць яшчэ
Па той чарнявай, смуглабровай,—
Нашто мне смех тваіх вачэй!..

Адам Бабарэка, уласцівым яму ціхім, ледзь чутным голасам і разважлівым тонам, супакойваў «гарачую буру пачуццяў». Паўлюк Трус вельмі спакойна рэагаваў на рэзкія крытычныя заўвагі сяброў, бо сапраўды яны былі добразычлівымі. Ён сам прызнаў, што дзенідзе перахапіў. Занадта вялікі ўплыў зрабілі вершы Сяргея Ясеніна, якога бязмерна любіў Паўлюк Трус.

У канцы 1927 года пасля рэарганізацыі «Маладняка» Паўлюк Трус збліжаецца з групай маладнякоўцаў, якія сталі ініцыятарамі арганізацыі ў новых умовах на новы лад. Ён выбіраецца ў ініцыятыўную групу і разам з Рыгорам Мурашкам, Платонам Галавачом склікае надзвычайны з'езд «Маладняка».

Паўлюк Трус у сваіх выступленнях у друку і ў гаворках трымаўся пэўнай думкі: на базе былой арганізацыі «Маладняка» стварыць масавую літаратурную арганізацыю камсамольскага напрамку. Сумесна з загадчыкам выдавецтва «Чырвоная змена» У. Вержбаловічам Паўлюк Трус упарадкаваў выдавецкія справы часопіса «Маладняк». Пад яго ўплывам арганізацыя «Пробліск» заявіла аб сваёй самаліквідацыі і цалкам далучылася да абноўленага «Маладняка». У хуткім часе далучыліся і пісьменнікі арганізацыі «Літаратурная камуна», у першую чаргу Пятрусь Броўка і Янка Скрыган.

Асаблівую актуальнасць і палітычную завостранасць набывае творчасць паэта ў гэты час. Будучы актыўным прапагандыстам беларускай літаратуры, Паўлюк Трус наведвае фабрыкі і заводы, часта выступае перад студэнцкай і вучнёўскай моладдзю. У гэты перыяд краіна распачала пераўтварэнне сельскай гаспадаркі на новы, сацыялістычны лад. На палях з'явіліся першыя трактары. Буйнымі тэмпамі перабудоўвалася і наша прамысловасць. Жыццё прымушала і працаўнікоў на ідэалагічным фронце перагледзець свае творчыя пазіцыі. Палітычнай выразнасці ў творчасці не

хапала ў шмат каго з літаратараў. Паўлюк Трус адзін з нямногіх адразу адчуў гэтыя патрабаванні новых дзён. Вершы яго набываюць большую канкрэтнасць і прысвячаюцца актуальным з'явам сучаснасці.

Летам 1928 года Паўлюк Трус наведаў Капыль. Вядома, я быў надзвычай узрадаваны сустрэчай з ім на маёй радзіме і вадзіў яго па знаёмых мясцінах, якія маляўніча паказаны ў аўтабіяграфічным рамане Цішкі Гартнага «Сокі цаліны». Наведалі мы і той хвойнік, дзе Рыгор Нязвычны сустракаўся з Зосяю, падняліся на Замкавую гару, месца маёвак і дэманстрацый працоўных у 1905 годзе. Тут мне Паўлюк прызнаўся, што ў яго з Цішкам Гартным неблагія прыяцельскія сувязі, што Цішка Гартны дапамагаў яму ў выданні першага зборніка і нават некалькі разоў запрашаў да сябе. Ён расказваў, якія гэта былі цікавыя сустрэчы і як Зміцер Фёдаравіч уважліва і клапатліва сочыць за творчасцю маладых пісьменнікаў, радуецца росту беларускай літаратуры. Паўлюк Трус прасіў мяне правесці яго ў той нізок, дзе Рыгор Нязвычны наладжваў падпольныя сходкі, паказаць дарогі і сцежкі, па якіх хадзілі сябры Нязвычнага. У адзін з вечароў мы наведалі хату Цішкі Гартнага і гутарылі з яго старэнькай матуляй, якая добра-такі пачаставала нас капыльскай мачанкай. У Капылі Паўлюк Трус доўга не затрымаўся. Пасля сустрэчы з сябрамі і знаёмымі, былымі студэнтамі Белпедтэхнікума, ён спяшаўся ў родны Нізок. Дома яго чакалі сёстры і брат. Пачыналася гарачая пара жніва, а сваю частку Паўлюк выжынаў кожны год, наведваючы родную вёску ў час канікулаў.

Зімою 1928 года Паўлюк Трус кароткі час жыў разам са мною ў адным пакойчыку на Шпітальнай вуліцы. Справа ў тым, што ён некаторы час не меў

у Мінску кватэры. Ён тады вярнуўся з Гомеля, дзе нейкі час працаваў у газеце «Полесская правда». Мы шукалі для яго прыватны пакой, але знайсці так хутка нам ніяк не ўдавалася.

Жывучы разам, мы ўставалі вельмі рана і, напіўшыся халасцяцкай гарбаты, спяшаліся на лекцыі ва універсітэт. Строга па чарзе, праз дзень, адзін з нас заставаўся дома для так званай творчай работы. Увечары чыталі новыя вершы і па свежых слядах рабілі папраўкі.

У гэты перыяд нашага сумеснага жыцця ўзнікла думка паспрабаваць свае сілы ў літаратурнай пародыі. Мы доўга падбіралі псеўданім і нарэшце спыніліся на Себасцяне Старобінскім. Паўлюку вельмі спадабаўся гэты псеўданім. Ён прапанаваў у канцы пародыі адзначыць і месца напісання — Старобін. На яго думку, наш псеўданім нікому не ўдасца расшыфраваць.

— Хвацка будзе,— узбуджана казаў ён.— Ніякі чорт не разбярэ, хто гэта піша, га?

Ён рагатаў і рагатаў так гучна, што з-за дашчанага прасценка пачуўся стук.

Тэксты пародый пісалі разам. Пасля прачытання першага варыянта рабіліся заўвагі і ўносіліся папраўкі. Уступ да цыкла пародый напісаў Паўлюк Трус самастойна.

Нельга перадаць, як захапляўся Трус сваёй працай у часы творчага натхнення. Ён мог лёгка перайначваць вершаваны тэкст, змяняць радкі і прапаноўваць новыя нечаканыя варыянты. Радуючыся ўдаламу і ёмкаму сказу, ён не задавальняўся канчатковым варыянтам і шукаў яшчэ лепшага.

Цыкл напісаных сумесна пародый і падпісаных псеўданімам Себасцян Старобінскі быў надрукаваны ў № 4 «Маладняка» за 1929 год. З выхадам гэтага нумара пачаліся здагадкі, хто аўтар пародый, але, напэўна, і па сённяшні дзень ніхто не ведае, што пародыі

напісаны Трусам і мною. Паўлюк Трус умеў трымаць сакрэт. Ён мне казаў:

— Я, брат, камень. Са мною можаш мець які хочаш сакрэт, ніхто ніколі ведаць не будзе...

Нарэшце нам удалося знайсці для Труса прыватны пакойчык у раёне Серабранкі на ўскраіне горада. Жылі мы тады вельмі сціпла. Вялікіх бібліятэк у нас не было, не кажучы ўжо аб уласных машынах. Аб гэтым ніколі нават і думка не прыходзіла ў галаву. Усё наша багацце ўмяшчалася ў студэнцкім куфэрку. Там ляжалі ўласныя рукапісы, томікі вершаў Пушкіна, Лермантава, Някрасава, Купалы, Шаўчэнкі, Коласа, Маякоўскага. Акрамя гэтых дарагіх сэрцу кніжак значнае месца займалі зборнікі вершаў Ясеніна, Ціханава, Багрыцкага, Святлова. Чытаючы вершы Паўлюка Труса, прыгадваеш яго настаўнікаў. Іх паэтычны почырк лёгка заўважыць па вучнёўскіх практыкаваннях маладога паэта.

Летам 1929 года пасля залікаў Паўлюк Трус збіраўся ў творчую камандзіроўку ў адзін з буйных саўгасаў Беларусі, а я па шчасліваму выпадку атрымаў пуцёўку ў дом адпачынку «Ждановічы». Жылі мы ў адным пакоі з Пятром Глебкам і ўсё чакалі пісем ад Паўлюка Труса.

Быў канец жніўня. Раніцою адчувалі подыхі восені, але ўдзень лагоднае сонца туманнай дымкай ахутвала зялёны сасоннік. У паветры стаяў пах пераспелага рамонку і прэлага жаўталісцця. Набліжаўся новы навучальны год, і я паехаў прыгарадным цягнікам у Мінск за свежымі навінамі.

У Доме пісьменнікаў, у малым пакоі, побач з бібліятэкай, ішло пасяджэнне БелАППа. Абмяркоўваўся спіс брыгад пісьменнікаў для выезду на прадпрыемствы і ў калгасы БССР. У час пасяджэння пазвалілі і папрасілі да тэлефона кіраўніка БелАППа. Да тэлефона падышоў Рыгор Мурашка. Жахлівае паведамлен-

не. Учора ў гарадской інфекцыйнай бальніцы памёр беларускі паэт Паўлюк Трус. Калі Мурашка паведаміў аб гэтым, яшчэ адразу нельга было паверыць такому здарэнню. Вось толькі-толькі, некалькі дзён таму назад, ён быў сярод нас, мы чулі яго звонкі смех, яго ўсім нам блізкі і знаёмы голас. Не можа гэтага быць, падказвала сэрца. Трэба ўдакладніць і праверыць.

Не ішлі, а вомігам ляцелі Мікола Нікановіч, Алесь Звонак і я ў інфекцыйную бальніцу. Мы зайшлі да галоўнага ўрача. На яго стале ляжаў пісьменніцкі білет і спраўка, акты ўрачэбнай экспертызы. Жахлівая праўда? Так, праўда. Нашага Паўлюка няма ў жывых.

Як расказалі нам работнікі бальніцы, у канцы жніўня ў бальніцу сам прыйшоў хворы з высокай тэмпературай. У запісах бальнічнай карткі значыцца імя і прозвішча. Хворы назваў сябе студэнтам. Хвароба — тыфус. Толькі пасля смерці ў кішэні яго адзення быў знойдзены пісьменніцкі білет на імя Паўлюка Труса. Такім чынам, ніхто аж да самай апошняй хвіліны яго жыцця не ведаў, што ў бальнічнай палаце ў кутку на ложку трызніць у вялікай гарачцы беларускі паэт.

— А чаму ж не паведамілі нам? Няўжо ж вы не ведалі, хто такі Паўлюк Трус? — з болем у сэрцы папракаў іх Алесь Звонак.— Чаму ж такая бессардэчная абыякавасць да лёсу чалавека?

— Так, не паведамілі, бо не ведалі, куды паведамляць. Нас падвяла сціпласць нябожчыка. Ён не пажадаў турбаваць нас сваімі размовамі аб сабе.

Чорны смутак агарнуў нашы сэрцы. Прыгадаліся паэтычныя радкі з незакончанай паэмы Паўлюка Труса «Сірата Алеся». Паэт нібы прадбачыў свой трагічны канец.

— Гады, гады! Чаму так рана
Вы адцвілі ў красе вясны?
Няўжо затым, што мне на Яна

Перад люстэркамі з туману
Ўсплывалі вобразы труны?

Я гляджу на Міколу Нікановіча. Ён плача, плача так, як плачуць сябры,— без літанняў і слёз. Ідзём у пахавальнае бюро, заказваем труну.

Апошні летні дзянёк 1929 года. Праз адчыненыя вокны Дома пісьменнікаў ліюцца мелодыі жалобнай музыкі. У вялікай зале стаіць труна з целам нябожчыка. Кветкі і вянкі закрываюць родныя абрысы твару нашага сябра, таленавітага паэта Паўлюка Труса. На сцяне яго партрэт у жалобным крэпе. На ганаровую варту становяцца Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Кандрат Крапіва. Сотні працоўных, студэнтаў і вучняў прыйшлі развітацца з любімым паэтам. Моладзь, якой асабліва палюбілася яго песенная творчасць, агорнута вялікім смуткам і сардэчным болем. Каля труны нябожчыка бацька і сёстры, пісьменнікі Цішка Гартны, Міхась Чарот, Андрэй Александровіч, Міхась Лынькоў, Кузьма Чорны, Пятро Глебка, Максім Лужанін, Алесь Якімовіч.

Апошнія словы развітання з дарагім Паўлюком Трусам. Ад імя ЦК КПБ выступае А. Канакоцін. Ён характарызуе творчы шлях паэта як адданае служэнне свайму народу і Радзіме, а яго творчасць як магутную зброю нашай партыі ў барацьбе за пабудову сацыялістычнага грамадства.

Жалобная працэсія павольна рухаецца па Савецкай вуліцы да Вайсковых могілак. Свежая магіла патанае ў вянках і кветках. Тры сасны, якія апеты ў вершах паэта, стаяць на варце, як жывыя сведкі. Яны несціхана шэпчуць між сабою:

Мы прыходзім у свет,
Каб уславіць яго,
Ўсё аддаць за жыццё і змаганне.

*1963*

*Анатоль Астрэйка*

## Яркі талент

У маляўнічай мясціне, паміж векавым сасоннікам і шустраю ракой Вусаю, недалёка ад славутага Нёмана, размясцілася вёска Нізок. Вёска як вёска. Такіх багата ёсць у нашым Прынямонні. Але яна нярэдка ўспамінаецца ў газетах і часопісах з любоўю і пашанай, вядома шматлікаму чытачу. Славу ёй здабылі выдатныя песняры свайго народа Кандрат Крапіва і Паўлюк Трус, якія нарадзіліся тут.

Мая вёска Пясочнае, калі ісці цераз Цераховўскі лес, а потым цераз Поткуры і Асовую палянку, знаходзіцца ў гадзіне хадзьбы ад Нізка. Звычайна на досвітку пясоцкія і нізаўскія пеўні пераклікаюцца паміж сабою, асабліва якія больш забіяцкія і галасістыя.

Каля Пясочнага лес рэдкаваты, а вакол яго, і асабліва Нізаўскі — прасторны і дрымучы. І мы, падшыванцамі, часта бегалі сюды па грыбы.

Нас, вучняў Пясчанскай сямігодкі, прыводзіў на экскурсію ў вёску Нізок Іван Іванавіч Шаблюк, выкладчык беларускай мовы і літаратуры. Гэта было ў пачатку 20-х гадоў. Тут некалі мы засталі Кандрата Крапіву з бацькам на зрубе: яны будавалі хату. Байкапісец уторкваў сякеру ў вянец і павольна злазіў па рыштаваннях са зруба. Настаўнік быў асабіста знаёмы з Крапівой, і таму гаворка адразу лілася, як ручаёк. Крапіва распытваў, як мы вучымся, што робім на канікулах, ці лазім у чужыя сады, а потым чытаў нам свае смешныя байкі, на якія мы рэагавалі дружным рогатам. А аўтар хоць бы ўсміхнуўся.

Тут жа мы ўпершыню пазнаёміліся са студэнтам Белпедтэхнікума, кучаравым прыгожым юнаком

Паўлюком Трусам, вершы якога ўжо добра ведалі, дэкламавалі ў школе, вывучалі на памяць, перапісвалі ў свае сшыткі з газет і часопісаў.

Мы не верылі, што такі малады хлопец сам напісаў гэтак шмат цудоўных вершаў. Нам здавалася, што вершы пішуць вельмі дарослыя людзі, такія, як Крапіва, і пажылыя.

Голас Паўлюка Труса быў звонкі, ад яго веяла нейкім вясеннім водарам, вішнёвым белым садам. Чытаў ён амаль усё для нас па памяці. Мы дзівіліся і зайздросцілі яго памяці.

І потым ужо, калі я сам вучыўся на двухгадовых педкурсах і калі талент Паўлюка Труса быў у поўным росквіце, мы часта яго сустракалі на літаратурных вечарах у сценах Белпедтэхнікума. Быў ён рухавы, з вясёлай усмешкай, сярэдняга росту, з кучаравай капой валасоў. Запомніўся ён мне назаўсёды ў скураной тужурцы, вышыванай сарочцы, падпаразанай саматканым поясам з тоўстымі кутасамі.

Вершамі Паўлюка Труса мы зачытваліся, дэкламавалі іх у агульным студэнцкім памяшканні, пераймалі яго манеру пісьма. Ды было што пераймаць. Песні і паэмы паэта нам былі блізкія і зразумелыя і вельмі нагадвалі цудоўныя паэтычныя ўзоры народнай творчасці, лёгка клаліся на музыку, добра запаміналіся. Падкупляла нас яго паэзія сваёй актуальнасцю, надзённасцю. Яго абодва зборнікі «Вершы» (1925) і «Ветры буйныя» (1927) былі ў нас за настольныя кнігі.

Выхаванец камсамола, сын беднага селяніна, ён увесь свой талент, усю сваю яркую маладосць прысвяціў служэнню свайму народу.

Мора калышацца, мора жытнёвае,
Спелым калоссем звіняць берагі.
Выйдзі, прыслухайся,— там, за дуброваю,
Новы складаецца гімн...

Пасля заканчэння Белпедтэхнікума (1927) ён працаваў у рэдакцыі гомельскай акруговай газеты, аб'ездзіў нямала глухіх куткоў Палесся, назапасіў багата творчых загатовак.

У наступны год Паўлюк Трус ужо студэнт Мінскага універсітэта. Ён прагнуў ведаў. У час летніх канікул (1929), наведаўшы родных і знаёмых, паэт падаўся ў падарожжа па саўгасах Беларусі, каб сабраць новы матэрыял аб жыцці сельскіх рабочых і потым напісаць вершы, паэмы, нарысы. Але спадзяванням паэта не прыйшлося спраўдзіцца. Ён захварэў на брушны тыфус і 30 жніўня 1929 года раптоўна памёр у мінскай бальніцы.

Жыццё адпусціла Паўлюку Трусу ўсяго пяць гадоў для літаратурнай працы. Ён толькі яшчэ набіраўся сіл, выходзіў на шырокі паэтычны шлях. Колькі было мар і надзей наперадзе!

Паэт-лірык, паэт-рамантык пакінуў нам сваю цудоўную спадчыну, якую шануе, якою даражыць наш народ. Такія паэмы, як «Дзесяты падмурак», «Юны змаганец», «Астрожнік», дзесяткі вершаў і ўрыўкі з незакончаных паэм «Сірата Алеся», «Цыганка» і зараз чаруюць чытача сваёй цеплынёй, багаццем мастацкай палітры, дзівоснай музыкальнасцю і хараством.

Да магілы паэта не зарастае сцежка.

*1978*

# *Максім Лужанін*

## Вобраз юнака

### *I*

Мне часта думалася пра светлую паэзію Паўлюка Труса, яшчэ часцей успаміналася пра яго самога, сябра і таварыша ў неверагоднай зараз далечыні юнацтва. Роздум гэты і кавалачкі ўспамінаў парасцярушваліся па розных маіх нарысах і эсэ, прысвечаных некаторым падзеям і асобам таго часу. Патрэба сабраць усё гэта, як кажуць, пад адзін дах напамінала пра сябе не раз, тое самае раілі таварышы, даводзілася чуць і пажаданні ў друку.

Пакрысе работа гэтая зрабілася, і, можа, больш цэласна і поўна пачала малявацца постаць паэта, які так крыўдна адышоў, толькі-толькі разгарнуўшы свой немаленькі талент. Пры кампаноўцы ў артыкул матэрыялаў рознага часу напісання давялося шмат чаго паправіць, а тое-сёе і ўдакладніць і дадаць.

Мінаюць гады, сціраюцца ў памяці падзеі і твары, а гэты вось такі самы жывы, як быццам толькі ўчора, пасля позняга студэнцкага сходу, развіталіся і пайшлі: ён — на Шырокую, а я далей, па Пралетарскай.

Многа гадоў назад, восенню, як толькі пачалося навучанне, у Мінскім педагагічным тэхнікуме быў вечар. Пасля ўрачыстай часткі спяваў студэнцкі хор. Галасы былі чыстыя, маладыя, глыбокія, і народная песня плыла нейк асабліва празрыста.

З групы мужчынскіх галасоў выйшаў хлопец з буйнымі рысамі твару і кучаравымі валасамі і стаў на квяцістым фоне рознакаляровых вышыванак. Ён трохі своеасабліва вымаўляў «р», але гэта не толькі не вадзі-

ла, а рабіла чытанне яшчэ прыемнейшым. Тое, што ён чытаў, гучала вельмі проста, але ўзрушвала і хвалявала. Яго вершы ўспрымаліся як працяг тае самае слаўнай песні, што толькі паспела праляцець над заціхшай залай. І слухачы правялі паэта доўгімі гучнымі воплескамі.

Гэта быў Паўлюк Трус.

Тады ў тэхнікуме пісалася многа вершаў. Народны паэт Беларусі Якуб Колас выкладаў на старэйшых курсах і заўсёды чула прыслухоўваўся да свежых паэтычных галасоў. Цікавасць да літаратуры была вялікая. Кожнае суботы наладжваліся вечары з пастаноўкаю п'ес і абавязковай літаратурнай часткай. Там апрача Паўлюка Труса выступалі паэты, якія таксама вучыліся ў тэхнікуме. На вечары збіралася студэнцтва з другіх навучальных устаноў. Найбольшым поспехам карыстаўся Трус, у якім студэнты любілі не толькі паэта, але і шчырага чалавека, простага ў абыходжанні, гатовага заўсёды дапамагчы.

Да Труса прыцягвала глыбіня і народная крылатасць яго паэзіі. Ён застаўся амаль вольны ад уплываў моднага ў той час імажынізму. Паўлюк часта перачытваў Купалу, Шаўчэнку, Пушкіна і лічыў іх сваімі першымі і найлепшымі настаўнікамі; ён любіў народныя песні, ведаў іх на памяць, запісваў новыя, ахвотна спяваў, меў добры слых і голас — мяккі барытон. Да сканчэння тэхнікума ён быў удзельнікам студэнцкага хору і да спевак і выступленняў хору адносіўся таксама ўважліва, як і да свае літаратурнае работы.

У чытальні я кожны вечар бачыў за сталом насупраць гэтага невысокага хлапца з кучаравай галавою. Ён таксама ўпарта чытаў, але найчасцей усё адну, акуратна загорнутую ў паперу кнігу, якую прыносіў з сабою. Рабіў выпіскі ў тоўсты цыратовы сшытак, варушыў губамі, паўтараючы прачытанае, напаўголаса смяяўся, часам надоўга задумваўся, падпёршы

рукамі галаву, і тады здавалася — яго выразныя вочы робяцца вільготнымі.

Неяк, пераседзеўшы ў бібліятэцы ўсіх, нават самых старанных да вучэння, мы спускаліся з Трусам па сходах.

— Забіваеш галаву ліха ведае чым! — раптам пасміхнуўся ён і зноў загаварыў крыху картавячы, вельмі прыемным барытонам: — Вось, брат, што чытаць трэба.

І тут жа, разгарнуўшы на першай старонцы сваю кнігу, аднатомнік Шаўчэнкі, пачаў, на маё здзіўленне, ці раз спяваную і чутую на Случчыне песню: «Раве ды стогне...»

— Вазьмі на вечар,— сказаў Трус, падаючы мне кнігу.— Заўтра прынясеш на лекцыі.

Не кароткая была тая ноч, але праляцела яна неўзаметку. Нельга было вырвацца з грознага паветра каліїўшчыны, немагчыма было не ўкамянець перад суровым прароцтвам «Сну», не затужыць над нешчаслівым каханнем украінскіх юнакоў і дзяўчат, не ўсміхнуцца спеву нашай «Лявоніхі», што амаль дакладна абазвалася ў «Гайдамаках»:

Ці ж я цябе не люблю, не люблю?
Ці ж я табе чаравічкаў не куплю?

З таго часу і пачалася ў нас з Паўлюком добрая сяброўская прыязнь.

Жылі мы дружна і весела. На Савецкай вуліцы, насупраць электрастанцыі, змяшчаўся студэнцкі інтэрнат. Там у маленькім пакойчыку кожны вечар чыталі мы ўлюбёных паэтаў, гаварылі, спрачаліся, пераходзілі на свае вершы і часта ахамяналіся, калі за вокнамі стаяла раніца, а часу заставалася толькі каб памыцца ды паспець на першую лекцыю.

Трус супрацоўнічаў ва ўсіх мінскіх выданнях. Найбольш жаданым госцем быў у газеце «Беларуская вёска»: друкаваўся з нумара ў нумар і ахвотна пісаў

на тэмы селькораўскіх допісаў. Ён быў майстар на востры агітацыйны верш, на прыпеўку, на апісанне смешных прыгод і здарэнняў. Гумар у Труса, як і ўся яго творчасць, быў трапны і народны.

На жаль, цяпер, мабыць, назаўсёды страчаны матэрыял тэхнікумаўскае вуснае газеты «Чырвоны прамень». Ствараў гэтую газету папулярны ў студэнцкіх колах «Калектыў шаўцоў»: Трус, Глебка і я. Пісалі мы пра нашыя студэнцкія справы часамі вельмі востра, і падпісваць сваё прозвішча было не заўсёды зручна. Аднойчы, перабраўшы сотні псеўданімаў, Трус падпісаў допіс мянушкаю «Шавец». Чаму — будзе сказана пазней. Гэта ўпадабалася, і так з'явіліся «Шавец № 1, № 2 і № 3». Пасля мы аб'ядналіся і ўсё напісанае паасобку выдавалі за агульнае, падпісваючы «Калектыў шаўцоў». Часта працавалі разам, выкарыстоўваючы формы раешніка і прыпеўкі. Тут мне давялося пабачыць, як уважліва ставіўся Паўлюк Трус да слова і работы над ім. Не зважаючы на тое, што газета наша жыла толькі адну гадзіну, дый то вусна, ён даводзіў радкі да самага строгага гучання.

Наша газета мела поспех і даволі шырокую вядомасць. «Чырвоны прамень» заўсёды быў асяродкам нашых вечарын, і студэнты асцерагаліся трапіць на зубы «Калектыву шаўцоў». Яны ўважалі за лепшае атрымаць вымову ад дырэктара ці папярэджанне студэнцкіх арганізацый.

Вясною 1927 года Трус скончыў тэхнікум і працаваў у газеце «Полесская правда». Ад'язджаючы, ён даў майму курсу абяцанне прыехаць на выпускны вечар. Мая аднакурсніца Маня сказала: «Спраўдзіш, будзеш мець падарунак». Паўлюк прыехаў і атрымаў выдатную вышыванку, з буйнымі ружамі такіх свежых фарбаў, нібы кветкі былі толькі-толькі сарваны з куста. Так хораша абдараваны, Паўлюк без папярэдніх спевак зноў далучыўся да хору, чытаў новыя свае вершы

і нават паспеў штосьці напісаць у газету. Да раніцы заставаліся мы ў сценах тэхнікума, пераспявалі ўсё, што ведалі, шмат перагаварылі, развітваючыся перад пачаткам самастойнай дарогі.

Год работы на раёне ўзбагаціў яго на ўражанні. Трус творча ўзмацнеў і падоўгу расказваў аб новых планах.

Здавалася, што Трус пісаў заўсёды, не даючы сабе адпачынку. Ці раз, бывала, у перапынках ад званка да званка ён прачытваў дзесятку першых выпадковых слухачоў толькі што напісаны верш. Наогул да друкавання знаёміў з новымі вершамі добрую сотню чалавек. Цярпліва выслухоўваў заўвагі і чула адносіўся да іх. Пісаў адкрыта, чытаў варыянты, нават вершы з недакончанымі страфамі. І кожны новы верш мы страчалі з радасцю і здзіўленнем ад свежасці гэтага буйнога і непасрэднага таленту. Часамі здавалася, што ўвесь паэт — адна пявучая стыхія, а тое, што ён аддае чытачам і слухачам сваім,— толькі маленькія кроплі гэтай стыхіі, адшліфаваныя ў самацветы.

## *II*

Невысокі хлопец падышоў да трыбуны, палажыў на яе моцную, загарэлую руку і, не спяшаючыся, пачаў чытаць верш. У зале, што крыху прытамілася ад гарачых прамоў, раптам сціхла гамана. З радоў выпырхнуў смех, добры спадарожнік увагі.

Мы слухалі радкі, яшчэ не верш, а своеасаблівы пераказ чутага і бачанага. Хлопец чытаў пра нядбайных гаспадарнікаў, пра тое, як у калгасе агінаюцца гультаі. Няхітрыя падзеі і здарэнні былі закрашаны народным гумарам, адчувалася, што аўтар ведае смак і толк у слове і стараецца паставіць яго на патрэбнае месца.

Гэта было ў Чырвонай Слабадзе летам 1959 года.

Я глядзеў на чытальніка і ўспамінаў, дзе сустракаліся гэтыя вясёлыя вочы, так шырока расплюшчаныя на жыццё і яго скарбы? Адкуль вядома гэтая непасрэднасць, нават радасць, што вось мае словы так складна злучаюцца ў радкі ды яшчэ змацоўваюцца рыфмай? Знаёмая, нарэшце, была і манера трымацца перад аўдыторыяй, не адчуваць яе, а нібы працягваць цікавую размову з добрым сябрам. Але на сцэне стаяў упершыню ўбачаны малады калгаснік з неастыўшым ад за́сеўнага ветру тварам. Не сказаць, каб ён быў прапахшы зямлёй, але абаяльнасць працы на зямлі і неадрыўнасць ад яе нібы выпраменьваліся з гэтага чалавека і неадольна гарнулі да яго.

Тады памяць пасвяціла ліхтарыкам у далёкую маладосць і выхапіла постаць таго, хто абудзіў усе гэтыя пачуцці і прыгадкі. Паўлюк Трус! Ён якраз і быў моцны неадлучнасцю ад зямлі. І так надзейна, так хораша стаяў на ёй, што часамі здавалася: вось малады дубок, як ні руш — не зрушыш, глыбока ў родную глебу ўрасло карэнне.

Непасрэднасць пачуцця, цэласнасць, хутчэй — цаліннасць натуры пераходзілі ў вершы. Уласна кажучы, гэтыя якасці і складалі самую сутнасць Трусавай паэзіі. Вось што забяспечвала яму нязменнае першынства ў маладых паэтычных турнірах — выступленнях перад чытачамі. Перамога была за ім, нават калі прысутнічалі паэты, якія ўжо «хадзілі ў мэтрах» ці, прынамсі, так думалі пра сябе самі.

Чытаў Трус — самае простае, я не сказаў бы — лепшае, з напісанага ім. На першых часах нашага сяброўства гэта быў верш «На сенажаці» і невялічкая паэма «Астрожнік». Пазней ён перайшоў да асобных раздзелаў з паэм «Сірата Алеся» і «Дзесяты падмурак».

Вершаў пра каханне — а іх было ў Труса ці мала —

ён лічыў за лепшае перад аўдыторыяй не чытаць. Не рабіў выключэння і для нас, сяброў і паэтычных аднагодкаў. У лепшым выпадку казаў: «Глянь!» — падсоўваў чыста перабелены цвёрдым чытэльным почыркам аркушык і адыходзіў убок. Здалёк сачыў за выразам твару чытальніка, потым падыходзіў, моўчкі забіраў верш і стараўся павесці размову на іншае. Саромеўся ён тых сваіх вершаў! Аднойчы прызнаўся ў гэтым. Я сказаў, што дарма не чытае іх, знайшлі б добры водгук у моладзі.

Паўлюк нават зазлаваў.

— Не чытаю і не буду чытаць! Як гэта: сёння пацалаваўся, а заўтра разбрахаў па ўсім свеце?

Аднак усе студэнты Мінскага педтэхнікума і без растлумачэнняў добра ведалі не толькі на якім курсе вучыцца таямнічая М., каму прысвячалася найбольшая колькасць паэтавых уздыханняў, але калі і на якую карціну яна хадзіла ці збіраецца пайсці з Паўлюком у кіно. «Камсамолка Ніна» з яго вершаў была таксама нашай сяброўкай.

Дзяўчаты, не ў прыклад Трусу, былі зусім не схільныя рабіць сакрэт з ягонага захаплення: і ўвага паэта і вершы ім надзвычай імпанавалі. Пад літарай «М» хавалася не тая Маня, што вышывала яму кашулю. З ёю ў Труса была дружба, таварышаванне, калі для сябра — усё напалам, і лепшая палавіна каб абавязкова прыпала яму.

Пісаў і думаў Паўлюк пра другую, таксама, праўда, Маню, з абліччам больш замкнутым і задуменным, пэўна, дамаляваўшы ёй рысы Марыі з пушкінскай «Палтавы»,— гэты твор ён ведаў амаль увесь на памяць.

Прысвячэнняў было шмат, пачуццё, як і заўсёды, адно. Калі яно прыйшло, у вершах Труса нават змяніўся вобраз краіны: замест васільковых вачэй і светлых кос, амаль што стандартных ва ўсіх тага-

часных вершах аб Беларусі, з'яўляецца «яе валос чарнявы шоўк». А потым пачынаюць расці горкія для Труса, а наогул падобныя да раманса ці нядбайна перакладзенага Ясеніна вершы.

Дарагая мая, дарагая,
Кволых слоў не шукай для душы!
Для мяне ты сягоння чужая,
Я таксама па-свойму чужы.

Такія радкі лёгка можна знайсці ў шмат каго з Трусавых паэтычных паплечнікаў, дзе хто нават зарабляў вядомасць на багемным надрыве. Для Труса гэта было неарганічна, а таму і не кранала, не пераконвала. Затое калі першы боль па страчаным каханні крыху суняўся, з вершаў дыхнула тым мудрым спакоем народнай песні, пад якім не гасне памяць сэрца, бо за ёю стаіць і ніколі не адступіцца турбота сэрца.

Павей, вецер, з-за дубровы,
А я ўспомню чорны бровы,
Чорны бровы, ясны вочы...
Павей, вецер, апаўночы!

Зараз, відаць, не час раскрываць імёны і прозвішчы. А каб нават і можна было? Усё роўна нічога не зменіш і не паправіш! Для чытача засталіся светлыя і сумныя радкі аб нешчаслівым каханні паэта. Можа, хто знойдзе стары часопіс і ўсміхнецца з дакораў тагачаснага ўплывовага крытыка: «Трэба адзначыць вялікі ўхіл Паўлюка Труса ў бок любоўных тэм. Гэта — нездаровае з'явішча. Мы б раілі даць больш увагі тэмам аб праламленні ў вёсцы Кастрычніцкай рэвалюцыі і яе вынікаў...»

Тут Паўлюка няма за што дакараць. Яго паэзія — уся ў паслякастрычніцкай беларускай вёсцы. Не зважаючы на даволі абстрактную стылістыку: «вір маладога», «сусвет вольна-новы», па вершах Труса адразу пазнаецца, адкуль яны ўзніклі, дзе жывуць, куды імкнуцца. Хто ж іншы мог напісаць іх, як не камса-

молец беларускай вёскі 20-х гадоў, што наступаў за адным захадам на бога, трохполку, непісьменнасць, кулака і агітаваў за калектыў, школу, лазню, новы быт?

Ён бясконца захоплены перамогай Кастрычніка, не можа нацешыцца з прыжданай свабоды, натхнёна пяе пра гэта і пра рэвалюцыю ў сусвеце, хай сабе трохі спрошчана ўяўляючы, што яна недзе вось тут, не далей як за вясковымі весніцамі.

Здавалася б, Паўлюк Трус павінен быў гарнуцца да паэта-агітатара, усёй душой адданага рэвалюцыйнай перабудове краіны і свету, да Уладзіміра Маякоўскага. Але паміж імі стаяла класіка, яе ўплыў перацягваў, дый падступіцца да Маякоўскага, з яго словатворчасцю, інтанацыйным багаццем, было не так і лёгка.

Аднойчы ў мінскім клубе работнікаў асветы Маякоўскі гаварыў рэзкае ўступнае слова. Трус голасна рагатаў і ўсё памыкаўся падаць нейкае каверзнае пытанне. Паэт перайшоў да чытання вершаў, а Паўлюк яшчэ больш развясельваўся і смяшыў нас з Глебкам. Маякоўскі пусціў у залу «шпільку» наконт таго, што паэзію не заўсёды дадзена разумець людзям з даўгімі валасамі, у прасторных вельветавых кашулях. Якраз у такой «уніформе» і былі мы трое.

Паўлюк прыціх, пачаў сачыць за чытаннем, а назаўтра сказаў:

— Ёмка ён чытае! І, відаць, многа за душою мае.

Паэзія Паўлюка Труса перахавала для нас вобраз захопленага поступам рэвалюцыі юнака. Яго лірычны маналог аб мінулым і будучым свае краіны мы прачыталі ў паэме «Дзесяты падмурак».

Вобраз калгаснага юнака, маладога чалавека 60-х гадоў, нёс перш за ўсё ў сабе самім і той чырвонаслабодскі хлопец, першыя вершаваныя спробы якога так жыва напамянулі пра Труса.

Мне давялося пабачыць Паўлюкову вёску і самога Паўлюка ў гэтай вёсцы.

Восенню 1928 года, пагасціўшы ў мяне на Случчыне, мы з сябрам рушылі пешшу назад у сталіцу праз Капыль, Пясочнае.

Перайшлі, падкасаўшыся крыху, Нёман, які выбіраецца адтуль у далёкую і слаўную дарогу, і неўзабаве трапілі ў Трусаў Нізок.

Трус быў дома, сядзеў у сенцах над сшыткам. Ён узрадаваўся, але не так шумна і весела, як гэта бывала пад час ранейшых сустрэч.

Адпачыўшы, пад вечар, мы выправіліся ў лес па арэхі. І колькі ні сустракалася людзей, кожны даваў Паўлюку «дзеньдобры», хвіліну прыстойваў каля яго або проста падкідаў ветлае слова.

Ён хмурнеў яшчэ больш.

— Шкадуюць мяне! — сказаў, калі мы ўвайшлі ў арэшнік.

Лісце засланіла яго, мы не маглі бачыць вачэй, але ў ломкім голасе чуліся слёзы. Паўлюкова маці хварэла на сухоты і — ён ведаў гэта — даходжвала апошнія дні.

Трус не паехаў з намі ў Мінск, як дамаўляліся, хоць туды трэ было патрапіць загадзя: у нас пачынаўся першы універсітэцкі год. Мы разумелі: хацеў яшчэ крыху пабыць каля хворай.

...Год выпуску з тэхнікума — 1928-мы — быў і годам нашай сустрэчы ва універсітэце, куды Пятро Глебка падаўся крыху раней, а Паўлюк трапіў, замест настаўніцкай практыкі, адрабіўшы год у абласной газеце.

На адным курсе апрача нас траіх апынулася многа пісьменнікаў: Міхась Зарэцкі, Алесь Дудар, Сяргей Дарожны, Наталля Вішнеўская, Ядвіга Бяганская,

Віктар Казлоўскі, Паўлюк Шукайла, Тодар Кляшторны, Мендэль Ліўшыц і А. Вітоль. Было гэта таленавітае і разумнае асяроддзе, а ў нас траіх сяброўства чамусьці не шырылася, а працягвалася, калі можна так сказаць, некалькі інерцыйна. Паўлюк здаваўся нечым заклапочаным, занадта паглыбленым у сябе, усё менш і радзей чуўся яго бесклапотны раскацісты смех.

Ва універсітэце рыхтавалася вечарына. Паўлюку, Пятру і мне прапанавалі аднавіць практыку «Калектыву шаўцоў». Пад гэтым псеўданімам, як было сказана, мы ў тэхнікуме выпускалі вусную газету «Чырвоны прамень». Чаму «калектыў»? І чаму «шаўцоў»? Цяпер раскажам падрабязна.

У Паўлюка быў дзядзька, шавец па прафесіі,— гэта першае. Другое: у тэхнікуме вучыўся паэт А. Александровіч. Друк адзначыў яго рабочае паходжанне: сын шаўца. У нас, вясковых гадаванцаў, не было такіх козыраў у біяграфіі, вось неяк і высмеялася аднойчы назва добраахвотнай суполкі перасмешнікаў, якая стала працаваць калектыўна.

Пачатак гэтай справе паклаў Паўлюк Трус. Другі паверх камянічкі, дзе змяшчаўся наш тэхнікум, лічыўся рэзідэнцыяй старэйшых курсаў — трэцяга і чацвёртага. Нам, маладзейшым, дазвалялася хадзіць туды толькі цэлым курсам, дый то на адну палавіну: у хімічны і біялагічны кабінеты, у бібліятэку кіраваліся таксама групкамі. Хто патыкаўся адзін, таго чакалі непрыемнасці. Сярод старшакурснікаў хапала людзей сталых, з пэўнай жыццёвай практыкай і працоўным стажам. Аднак забавы былі — юначыя, можна сказаць, падлеткавыя, а магчыма, і бурсацкія. Кожнага парушальніка тэрыторыі старэйшых яны адразу ж каралі самым выпрабаваным старажытным спосабам: цягнулі ў пустую аўдыторыю і «стаўлялі банькі». Не буду распісваць «тэхналогію» гэтага пакарання, каб

выпадкам не навучыць сённяшніх студэнтаў. Скажу толькі, што давялося пакаштаваць «банек» і самому, пасля іх дні тры прыходзілася хадзіць угнуўшыся і асцярожна абмацваць скуру на жываце.

Адною з першых ахвяр, якая трапіла ў рукі ахоўнікаў «забароненага» калідора, быў Паўлюк Трус. Банечную «аперацыю» ён перацярпеў даволі сур'ёзную, аднак ацаніў становішча з гумарам, разлічыўся смехам. У чарговым нумары насценнай газеты перад поўненькай залай студэнтаў і настаўнікаў быў прачытаны верш (успамінаю малы ўрывачак, як відаць, недакладна):

Цішыня.
Як з перуна,
Крык Мурашкі з грамады:
— Гэй, давай яго сюды!
Апусцілася рука
Ды на Труса Паўлюка...

Хоць Трус, пабойваючыся паўторнай порцыі «банек», і схаваўся пад псеўданім «Шавец», яго руку адразу пазналі. «Лекары» папрасілі прабачэння і пацішэлі: уваход ва ўсе аўдыторыі другога паверха стаў вольны.

Звычайна напярэдадні выступленняў мы замыкаліся ў свабоднай аўдыторыі і складалі вершам фельетоны, кідалі з'едлівыя заўвагі ў бок студэнтаў і выкладчыкаў, расказвалі смешныя выпадкі ў сталовай ці ў агульных памяшканнях. Па выбухах Трусавага смеху, калі ўдавалася прыдумаць нешта дасціпнае, студэнты ведалі: «Шаўцы» працуюць».

Калі надыходзіла наша чарга выступаць на вечары, у зале прыгашвалася святло. Адзін з нас абзываўся са сцэны, другі — з гімнастычнага снарада каля сцэны, трэці — проста з гурту слухачоў. Такім чынам праграма тэатралізавалася, хоць гэтага можна было і не рабіць: на нас не глядзелі, а слухалі. Пэўна, трапля-

лася тое-сёе ўдалае. Трус меў практыку: гумарыстычныя прыгоды ягонага героя Ціта чыталіся наросхапы.

Тады адчувалася патрэба ў спрашчэнні граматыкі і правапісу, у Інстытуце беларускай культуры мы слухалі дыскусіі з гэтай прычыны. Жаліліся і студэнты на залішнюю складанасць напісання слоў. І «шаўцы» не замарудзілі адгукнуцца. Злажылі доўгі верш пра пакутніка-студэнта, які заблытаўся сярод граматычных умоўнасцей і выключэнняў: «Так і ходзіць, адным словам, ад прыдаткаў к дзеясловам, а як стане якацьакаць, можа портачкі... надзець не тыя...» Трус гэта месца чытаць не згадзіўся: «Зарагачу раней часу, смешна не будзе». Не сказаць, каб тут збыткаваліся добры густ, пераборлівасць, аднак тады было весела і слухачам і аўтарам.

Дык вось, сабраліся мы ў Глебкі, каб адрадзіць «шаўцоў» на універсітэцкай глебе. Доўга сядзелі, разоў колькі выкідалі недакуркі з попелкі, напсавалі гару паперы, малюючы рагатых і бязрогіх чорцікаў, а нічога людскага так і не выжартавалі. На тым і разышліся, не разумеючы, чаму не прыйшло, не падняло, як раней падымала, пачуццё гумару. Не заспявалася колішняя маладая песенька! Адказ далёка не ляжаў: нічога не зробіш — пасталелі! Сябры выходзілі на сур'ёзныя задумы: Трус на «Дзесяты падмурак», Глебка — таксама на паэмы, яны пазней прарваліся ў яго цыклам.

Літаратурнае жыццё ў той час ускладнялася, часамі штучна, уяўнымі і няўяўнымі абвастрэннямі, словам, калі і не кіпела, дык бурбалкі ўсхватваліся. Спрэчкі, дыспуты, палеміка ў друку, папрокі і абвінавачванні — усё гэта як быццам абмінула наша сяброўства, хоць мне і Глебку пападала: мы належалі не да БелАППа, куды ўваходзіў Трус, а да «Узвышша», гэтага ўжо было даволі, каб заслужыць няласку ў крытыкі.

Аднак якім жа чынам мы, сябры, апынуліся ў розных літаратурных арганізацыях? Аб расколе ў «Маладняку» напісана даволі шмат, далучу сведчанне відавочцы.

У маі 1926 года на сходзе мінскай філіі «Маладняка» было зроблена паведамленне аб выхадзе з арганізацыі групы старэйшых маладнякоўцаў (Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва, Адам Бабарэка, Уладзімір Дубоўка і яшчэ некалькі асоб). Следам старшыні сходу давялося агалашаць заяву такога ж зместу ад Паўлюка Труса, Пятра Глебкі, Сяргея Дарожнага і мяне. Прысутныя сустрэлі гэта невясёлым маўчаннем, толькі Міхась Зарэцкі роблена рагатнуў і прамовіў: «Што ж, прыняць да ведама!» Не дужа весела было і выйшаўшым: хлопцы-аднагодкі, аднаго маладнякоўскага набору, і раптам пакінулі сяброў, апынуліся наводшыбе. Затрывожылася сэрца: раскол, невядомасць, ці можна будзе далучыцца да выйшаўшых раней таварышаў, як пакіруюцца нашы літаратурныя справы... Але не адступаць жа! Наблізіўся час выходзіць з «Маладняка» і літаральна: пакідаць рэзідэнцыю Цэнтральнага бюро. Наша «тройца» (Паўлюк Трус на сходзе не прысутнічаў і потым зняў свой подпіс з заявы) саламянымі нагамі падалася ў дзверы. Падняліся і прысутныя. Некалькі кварталаў ішлі мы разам і маўчалі і толькі на плошчы Свабоды пачалі разбрыдацца ў розныя бакі.

Уласна кажучы, мы выходзілі з «Маладняка» не таму, што зрабілася там цесна і душна. На наш тагачасны літаратурны рост у арганізацыі ставала і паветра і прасторы. Мяне, ды, відаць, не памылюся, калі скажу — і маіх сяброў, прыцягвалі да выйшаўшых раней таварышаў іх літаратурныя магчымасці. Каля гэтых людзей, думалася нам, малодшым, прастарней будзе ў хадзе, больш магчымасцей для навукі, калі не літаральнай, дык праз творы. Ім жа, старэй-

шым, хто паспеў сфармавацца як літаратар, было ўжо добра відаць, што літаратура перарастае адзежыну арганізацыйных форм. Неўзабаве гэта стала зразумела больш шырока. Пасля ўтварэння намі «Узвышша» з таго ж «Маладняка» выйшла яшчэ група, каб аб'яднацца ў «Полымя». Узнікалі і іншыя літаратурныя арганізацыі («Пробліск», «Літаратурная камуна», група рамантыкаў, аб якой меркавалі мы з Міхасём Зарэцкім і Васілём Кавалём), але не вызначыліся даўгавечнасцю.

Зусім не хачу маляваць «Узвышша» райскім дрэвам, пад ценем якога ў шчасці і згодзе тварылі паэты і пісьменнікі. Не, у нас былі і спрэчкі, і разыходжанні, і размежаванні. Так заўсёды знаходзіцца ісціна, і час пацвярджае яе. Не маю намеру варушыць накладныя выдаткі і страты той пары. Час развАжыў усё, паказаў абвінавачаных без віны і вінаватых у іх абвінавачванні.

Трус найбольш успамінаецца поруч з Чорным. Перш за ўсё іх яднала схільнасць да імправізацыі. Дый жылі яны некаторы час на адной вуліцы, і, ідучы да Паўлюка, нельга было абмінуць Кузьму. Калі ж хто-небудзь умудраўся ўсё ж зрабіць гэта, каб не парушаць Чорнаму рабочага рэжыму, ён назаўтра жартліва прабіраў неслухаў, выдумляючы абставіны і выдаючы сябе за заможнага шляхціца.

— І якія гэта, проша пана, два герцы ў бліскучых ботах сунуліся на пары коней па маёй вуліцы? — пачынаў Чорны.— І едуць, пане мой, паўз мае вокны, а што б зайсці? Што ў мяне, самагонка скісла, ці што? Дык не, пруцца да таго панка Трусецкага. А што той Трусецкі? Дзве валокі зямлі. Усяго толькі тры япручкі на год б'е. О, хіба дзеўка на выданні! А за гэтых дзевак герцы ў бліскучых ботах гатовы, пане мой, сэрца раскалоць.

Далей Чорны не вытрымліваў, бо сам «Трусецкі» і яго госць рагаталі з рызыкай вывіхнуць сківіцы.

— На міравую,— казаў Чорны,— сходзім, хлопцы, на Пата і Паташона.

Прапанову Паўлюк прымаў з ахвотай, ён любіў гэтых папулярных кінаакцёраў, далёкіх сваякоў Штэпселя і Тарапунькі.

А сяброўства з Чорным пачыналася так. Перадзімкам 1925 года ў рэдакцыі «Звязды» мелася быць чытанне новых твораў. У сярэдняй велічыні пакоі, адбітым ад калідора фанернай пераборкаю са шклом, звісала са столі нямоцная лямпачка пад бляшанай эмаліраванай талеркаю. Было цемнавата і цеснавата: супрацоўнікі рэдакцыі, маладыя літаратары, студэнты універсітэта. Следам за Трусам я праціснуўся ў цямнейшы куток, дзе мы і ўладзіліся з Паўлюком на ўвесь вечар, пацеючы ў сваіх жоўтых паўкажушках, якія былі ў той час своеасаблівай студэнцкай адзежай.

Чытаць Кузьму Чорнаму давялося апошнім, пасля бясконцых спрэчак, заўваг аб выслуханым раней. Ці то праз абегласць вымаўлення, ці праз адсутнасць розных модных на той час літаратурных штукарстваў, апавяданне Чорнага не зрабіла ўражання. Затое пасыпаліся заўвагі, справядлівыя і несправядлівыя. І на ўсеагульнае здзіўленне Чорны, не ў прыклад іншым аўтарам, нічому не пярэчыў. Ён згарнуў рукапіс і, прамовіўшы нешта накшталт: «Трэба раздумацца», пачаў апранацца.

Тады не вытрымаў Трус і ў дзвярах сказаў яму:

— Ну і дзівак! Тваё ж апавяданне — самае лепшае! А ты маўчаў!

Чорны ледзь прыкметна пасміхнуўся.

— Пакуль будзеш бараніцца, можна новае напісаць. Яшчэ ж уся ноч наперадзе.

Зварухнуўшы плячамі,— гэты шматзначны рух застаўся ў яго і надалей,— ён развітаўся з намі і хутка пайшоў уніз.

Паўлюк Трус друкаваў у газеце «Беларуская вёска» прыгоды Ціта. Гэтая рэч з саленаватым гумарам карысталася добрай папулярнасцю. А пісаў ён найчасцей на лекцыях або, вызваліўшыся ад заняткаў, у рэдакцыі. Месца ў рэдакцыйным пакоі Чорнага не хапала, Трус выходзіў на сходцы, спускаўся на адзін марш, клаўся на шырокае падваконне і пісаў. Праз некалькі хвілін мы ўжо чулі яго гучны залівісты рогат. Гэта азначала, паэту ўдалося нешта смешнае і ён чытае новыя радкі каму-небудзь.

— Выходзіць,— падміргваў у такіх выпадках Чорны.

Калі на сходцах было ціха, ён прасіў паглядзець, што там адбываецца, або пытаўся ў першага, хто заходзіў:

— Не бачыў, Паўлюк піша? А то хутка нумар здаваць.

Часамі ў пакой набівалася людзей звыш нормы, папяросны дым вісеў густа, не хапала змогі сядзець. Чорны некаторы час цярпеў, пасля ўзлазіў на крэсла і, пазіраючы мнагазначна на курцоў, адчыняў фортку ў высокім акне. Гэта не заўсёды памагала, тады ўжываўся іншы прыём.

— Хлопцы! — з нявінным выглядам прасіў Чорны.— Ці не зірнулі б вы, што Паўлюк на сходцах робіць? Можа, заснуў?

Калі сярод прысутных быў і сам Трус, Чорны, нібы збянтэжыўшыся, звяртаўся да яго:

— Дык ты тутака? А я думаў, ты пішаш.

Трусу вельмі падабаўся гэты спосаб выпасаджвання, як ён казаў, не вельмі сціплых наведвальнікаў. Паўлюк весяліўся кожны раз, нібы пачуўшы жарт упершыню. А часамі і сам гаварыў перад адыходам з рэдакцыі:

— Пайшлі, хлопцы! Зірнём, што там Паўлюк робіць.

Гадзін у дванаццаць, калі здача матэрыялу ў набор канчалася, з двара чуліся гукі катрынкі.

— Хлопцы, прыйшла вясельная музыка! — гукаў Чорны.

Аднак праз хвіліну мелодыя спынялася. Катрыншчык стаяў і, задраўшы галаву, пазіраў на знаёмае акно.

— Не хоча дарам рукі біць, ён жа ў мяне на пенсіі,— гаварыў Чорны і паказваўся ў акне.

Катрынкі не любіў гаспадар кабінета, які быў ніжэй на паверх, сварыўся на катрыншчыка, загадваў не іграць. Трус аднойчы назваў гэтага чалавека Цэнтразыхерам.

Чорны пасміхаўся:

— Не ведае, з якога боку ўзяцца. Я плачу катрыншчыку за тое, што іграе, а ён павінен даць столькі, каб перастаў.

Мы пайшлі ў рэстаран пры гасцініцы «Еўропа» поблізу ад плошчы Свабоды. Чакаючы абеду, Чорны і Трус імправізавалі жартоўную навелу «Памінкі».

Вялікі гарадскі двор. Раніца. Вокны ў дамах адчыняюцца. Жанчыны, дзяўчаты, дзядзькі, бабулькі летуценна слухаюць катрыншчыка. Да ног яго, на брук, падаюць манеты. Музычная скрынка абкружана дзецьмі. Іх вабіць марская свінка — пярэсты грызунок у клетцы, якая прымацавана на катрынцы. Свінка выцягвае ахвотнікам білецікі, дзе ўгадваецца твой лёс, твая ўдача, твае шчасце!

Асабліва любяць старога музыку два яго прыхільнікі. Аднаго завуць Паўлюк... Чорны загадкава паказвае на сябе. Трус адразу ж падхоплівае: «А другога — Кузьма» і тыцкае пальцам у свае грудзі. Яны абодва, працягвае Чорны, кучаравыя, невысокага росту, толькі адзін чорны, а другі — бялявы. Бялявы піша вершы — Чорны стукае ў грудзі сабе, а чарнявы прозу — палец пераносіцца на Труса. Гэта вельмі развя-

сельвае Паўлюка, ён ціхенька падраготвае, «цёхкае», як ахрысціў гэты смех Чорны.

Апавяданне пасоўваецца далей.

Ні чарнявага, ні бялявага не хоча друкаваць нейкі Цэнтразыхер. Ён не толькі не любіць вершаў і прозы, а і ненавідзіць музыку... У хлопцаў бываюць сутычкі з Цэнтразыхерам за катрыншчыка.

Паўлюкова «цёхканне» пачынае галаснець. Чорны грозіць яму рукою і налівае шклянку піва.

Катрыншчык старэе, яму ўсё цяжэй зарабляць на хлеб іграючы, рашае разыграць катрынку ў латарэю і паехаць за гэтыя грошы да дачкі.

Нядзеля. Двор, дзе звычайна іграе катрыншчык. Тут жывуць Паўлюк, Кузьма і Цэнтразыхер. Музы́ка, перад тым як расстацца з сваім інструментам, наладжвае продаж латарэйных білетаў і выконвае ўсю праграму цалкам. З акна высоўваецца галава задаволенага Цэнтразыхера: «Круці, круці! Усё роўна астатні раз». Катрыншчык заўважае свайго непрыяцеля, кланяецца: «Засталося ўсяго тры білеты, вазьміце! Можаце набыць асалоду на ўсё жыццё». «Давай адзін»,— кажа Цэнтразыхер і кідае рубель. Яму перадаюць білет. Два апошнія білеты забіраюць Паўлюк і Кузьма.

Розыгрыш. Свінка выцягвае білецікі, хлопчык раскручвае і абвяшчае нумары. Стаяць, хвалюючыся, Паўлюк і Кузьма, яны накупілі білетаў на ўсе свае грошы. Калі агалошваецца чарговы нумар, хлопцы мармычуць «пусты» і дзяруць стаўшую непатрэбнай паперчыну.

Вось разгорнуты яшчэ адзін білет, агалошана лічба і запаветнае слова — «шэйна-катрынка».

— Выйграў! — крычыць Цэнтразыхер. Смутнее стары ўласнік катрынкі, стаяць нерухома Паўлюк і Кузьма. Цэнтразыхер цягне дадому выйгрыш. Каб

пакрасавацца сваёй велікадушнасцю, запрашае на вячэру музыку і абодвух хлопцаў.

Цэнтразыхер радзенькі — вызваліўся ад му́зыкі! — частуе гасцей. Яны п'юць, але яшчэ больш змрачнеюць. Каб крыху разважыць засмучаных, гаспадар просіць катрыншчыка зайграць. І тут усе агледзеліся: няма марское свінкі. Пачынаюцца пошукі. У кухні на калодцы ляжыць пярэсценькая скурка. Жонка Цэнтразыхера прызнаецца, што пусціла свінку ў падпечак да трусоў. Не разгледзеўшыся, яе закалолі на закуску.

Усе плачуць. Асабліва Цэнтразыхер. Яго каменнае сэрца адвільжала, падабрэла. Ён нічога не робіць, толькі слухае катрынку і плача. Яго пакідае жонка, звальняюць з пасады, Цэнтразыхер спродвае апошнія рэчы з хаты. Але ў яго знайшліся добрыя сябры: катрыншчык і Кузьма з Паўлюком.

Усе ўчатырох ідуць у раздабыткі. На кірмашах, каля цэркваў круціць катрынку Цэнтразыхер, падспеўваюць Паўлюк і Кузьма, а катрыншчык абыходзіць слухачоў з шапкаю. Крыху зарабіўшы, наладжваюць памінкі па загубленым звярку...

Навела канчаецца.

І ўжо не ўяўныя героі, а Паўлюк і Кузьма зноў доўга і міла смяюцца, цешачыся з свае ўласнае выдумкі.

Трус кватараваў, як ужо ўспаміналася, у свайго дзядзькі — шаўца. Насупраць вузенькага жалезнага ложка са злямчаным саламяным сеннікам, дзе спаў Паўлюк, пры акне стаяў дзядзькаў шавецкі варштат. Каля другога акна, якое глядзела на паркан ваеннага шпіталя, прыпіраўся на маленькім століку Паўлюк з рукапісамі. За фанернай пераборкай змяшчалася дзядзькава сям'я. Працаваць не было як і не было дзе. Калі Трусу прапанавалі лепшы пакой, ён махаў рукою:

— Дзядзьку без мяне будзе цяжка, не пражыве ён са свае работы.

І праседжваў ночы ў душным, наскрозь пракураным пакойчыку.

Прыроджаная далікатнасць і папярэдлівасць вызначалі паводзіны Труса, абыходжанне з сябрамі, таварышамі па вучобе. Як і ў роднай вёсцы, у калідоры тэхнікума ніхто не мінаў Паўлюка, не павітаўшыся, не загаварыўшы, не запрапанаваўшы, скажам, папяросы ці — гэта часцей бывала — не пачаставаўшыся з ягонага пачка. Сказаць, што Паўлюк плаціў людзям за добрыя адносіны тым жа, будзе мала. Гэта яго любоў да людзей выклікала ў іх адказнае пачуццё.

Мне не давялося быць на пахаванні Паўлюка. Ён выглядаў хвараватым, калі мы адвіталіся пры маім ад'ездзе. А праз некалькі дзён у рэдакцыю гомельскай газеты прыйшла сумная навіна. Столькі было ў гэтым чалавеку жыцця і сілы, што вестка пра смерць яго здалася непраўдападобнай.

Толькі прыехаўшы ў Мінск, паверыў — пабачыў у Доме пісьменніка партрэт у жалобных стужках, а на Вайсковых могілках жаўцеў курганок, засыпаны асеннімі астрамі, кветкамі, якія ён вельмі любіў.

Праз многа гадоў, пераглядаючы партызанскі друк, я знайшоў на старонках аднаго з часопісаў вершы Паўлюка Труса. Слова паэта ваявала!

У маладосці людзей майго веку Паўлюк Трус быў першым расстаннем. Да яго адыходу мы яшчэ не трацілі сяброў. Дакранацца да гэтай страты і дасюль цяжка. І калі з маладога гурту вылеціць раскоцісты, гучны смех або дзе пачуеш крыху картавую мову,

так і закарціць азірнуцца: пэўна ж, ён там! Прысадзісты хлопец у неадменнай талстоўцы і галіфэ. Капа — іначай не скажаш на столькі багацця! — кучаравых каштанавых валасоў і пад імі вельмі звычайнае, нібы высечанае з дубу аблічча...

Трусавы рысы ўбачыліся мне ў маладым паэце з Чырвонай Слабады.

І яшчэ раз. Пад раніцу, у Оршы. Цягнік спыніўся, і я выйшаў падыхаць паветрам. Раптам з-пад вагона вылез невысокага росту змазчык. Кучаравыя валасы, рысы твару буйныя, прыкметныя і вельмі знаёмыя. Я ледзь не гукнуў: «Паўлюк!» А хлопец картава, акурат гэтак рлэкаў Трус, вымавіў, махнуўшы ліхтаром:

— Адпраўляй!

Паўлюк Трус — у цягніку паэзіі, па дарозе ў будучае.

*1964, 1983*

*Станіслаў Шушкевіч*

## Не ўсе тыя сады цвітуць...

Труна была закрытай. Людзі павольна ішлі за катафалкам. Букеты, перавязаныя жалобнымі стужкамі, вянкі. Працэсія расцягнулася па Савецкай вуліцы, да яе бесперапынна далучаліся людзі: рабочыя, студэнты, вучні і настаўнікі. І зусім не верылася, што гэта праводзяць у апошнюю дарогу маладога, любага, шчырага паэта-камсамольца Паўлюка Труса.

Быў апошні дзень жніўня 1929 года. Жаўцізна дзенідзе кранула лісце клёнаў і каштанаў на вуліцах Мінска. І мне кінуўся ў вочы просты букецік васількоў і рамонкаў, пакладзены рукою старой вясковай кабеты на абабітае чорным века труны. І сінімі іскрынкамі падалі пялёсткі на пышныя кветкі цёмных аксамітных вяргінь. А мне прыгадаліся тады жывыя вочы Паўлюка Труса, удумлівыя і глыбокія, здавалася, вечна радасныя і вясёлыя. Яго я ўпершыню ўбачыў у красавіку 1925 года ў 11-й мінскай працоўнай школе пры Беларускім педагагічным тэхнікуме. Прыйшлі сюды студэнты-практыканты, сярод іх быў Паўлюк Трус. Паэта зацікавіла насценная школьная газета. Яна акуратна выходзіла кожны тыдзень. Амаль добрая палова матэрыялаў газеты складалася з вершаў.

— Дык у вас жа можна літаратурнае аб'яднанне стварыць! Паэтаў як маку.

Паўлюк Трус сказаў яшчэ некалькі добразычлівых слоў, а пасля таго, як я перабраў вялікі камплект вучнёўскіх насценгазет, па-сяброўску абняў мяне і Іосіфа Жыновіча, адказных рэдактараў гэтага выдання.

Вечарам Паўлюк Трус зайшоў да нас у школу, каб памагчы адрэдагаваць некаторыя матэрыялы. Мы зай-

здросцілі паэту: яму так лёгка ўдаецца правіць нязграбныя радкі і надаваць ім так патрэбныя гумар і дасціпнасць, і разам з тым ганарыліся, што вядомы паэт дапамог нам адрэдагаваць школьную газету.

У наступным годзе я стаў студэнтам педагагічнага тэхнікума і цяпер часцей сустракаў Паўлюка Труса. Тэхнікум быў багаты на маладых пісьменнікаў. Студэнты Пятро Глебка, Сяргей Дарожны, Максім Лужанін, Валерый Маракоў, Сцяпан Ліхадзіеўскі, Зіна Бандарына і рад іншых ужо не раз друкаваліся ў рэспубліканскай прэсе, і іх імёны былі вядомы шырокаму колу чытачоў.

Я не раз з захапленнем слухаў простыя, глыбока народныя вершы, а часам надзённыя вершаваныя фельетоны Паўлюка Труса на студэнцкіх літаратурных вечарах. Голас Труса вылучаўся заўсёды сваёй натуральнасцю, прастатой, глыбінёй пачуццяў...

Памятаю, аднойчы я бачыў аб'яву на дзвярах рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь». Паведамлялася, што адбудзецца сход мінскай філіі беларускага аб'яднання камсамольскіх паэтаў і пісьменнікаў у будынку Інстытута беларускай культуры.

Рэвалюцыйная вуліца Мінска і цяпер не вызначаецца вялікім рухам транспарту, а ў 1926 годзе па ёй час ад часу прамчыцца на лёгкім кані рамізнік або загрукочуць цяжкія колы ў балагольскім возе — і зноў пануе цішыня.

Вось і ў той суботні вясенні вечар было спакойна. Выпаў невялічкі снег, і па тратуарах можна было распазнаць, колькі і ў якім напрамку прабегла гараджан, і нават дрэнны следапыт мог прачытаць, ці гэта былі мужчынскія ці жаночыя сляды-адбіткі. Ля дзвярэй будынка Інстытута культуры не так яшчэ многа чарнела слядоў, і я з палёгкаю спыніўся: быў упэўнены, што не спазніўся. Пераступаю некалькі прыступак лесвіцы, уваходжу ў калідор і чую праз дзверы, што ў

пакоі, у якім заўсёды збіраюцца маладнякоўцы, нехта нараспеў чытае вершы:

Не развесісты гай
гаманіў пад гарою,
не зязюля ў бары кукавала,—
у купальскую ноч
пры спатканні з табой
ты аб шчасці з запалам спявала.

Пазнаю голас Паўлюка Труса. Шкадую, што спазніўся на вечар. Рашаю ціхенька адчыніць дзверы і шмыгнуць незаўважаным у які-небудзь закутак. І вось перад маімі вачыма пусты вялікі пакой, застаўлены крэсламі, а ўскрай стала бачу каржакаватага невысокага хлопца. На ім аксамітная карычневая талстоўка, на грудзях кімаўскі камсамольскі значок. Паўлюк Трус спакойна паклаў на стол блакнот, аловак, падбегам прайшоў між крэслаў, пацінуў мне руку і ветліва запытаў:

— Будзеш слухаць мае новыя вершы? Паэзію любіш?

Да пачатку вечара заставалася многа часу. Мне здалося, што я слухаю мелодыю песні.

Сонца выплыве за крыніцаю,
Завіецца на травах туман,
Долу хіляцца лозы ніцыя,
Зажынаю палоску адна.

А увечары ды сцяжынкаю
Я іду на ставок па ваду...
Песні коцяцца над дажынкамі,
Завіваюцца кветкамі дум.

Раз-пораз адчыняюцца дзверы. Чуецца вясёлая гамонка. Мне чамусьці нагадваў лясную птушку Я. Прытыткоўскі, які вельмі таропка і адрывіста гаварыў і, нібы крыламі, размахваў рукамі. З. Бандарына часта перабівала яго, але і з яе гаворкі не мог зразумець нічога. Маўчаў нізенькі Я. Туміловіч і нібы

няспынна насміхаўся над усімі, а С. Дарожны зрэдку перабіваў усіх жартамі. І. Барашка часта паглядаў на гадзіннік і, здавалася, даражыў кожнай хвілінай. Н. Вішнеўская грэлася каля кафлянай печы, Я. Падабед, пераціснуты шырокім вайсковым рэменем, сустракаў усіх здзіўленымі вачыма, а Р. Мурашка абціраў хусцінкай рабаціністы спатнелы твар. І вось напоўнілася зала людзьмі, апошнімі праціснуліся А. Дудар і А. Вольны, і ўжо з-за стала пачуўся стук алоўка па шкляной накрыўцы графіна і «кіруючы» заклік: «Будзем пачынаць, таварышы? Чытае свае вершы Паўлюк Трус».

У пакоі праз меру цёпла. Паўлюк Трус расшпільвае каўнер, узмахвае цёмна-русым чубам, і ў сініх вачах загараюцца гарэзлівыя іскрынкі. А пасля загаварыла наперабой літаратурная моладзь. Якіх толькі не было ацэнак! Нарэшце прапускае гэтыя выступленні праз сіта сваіх кароткіх заўваг М. Чарот. Не абышлося і без пажаданняў. Яны былі гэткімі: маладому камсамольскаму паэту раілася вучыцца, браць са спадчыны найлепшае і быць у сваіх творах непрымірымым да класавых ворагаў...

Калі ўсе разыходзіліся, да Паўлюка Труса падбегла ружовашчокая шчабятуха Зіна Бандарына. Яна ўспляснула рукамі і паспешліва ўскрыкнула:

— Паўлючок! Цябе варта сёння расцалаваць. Ты нас зачараваў.

Паўлюк Трус мог і ўмеў зачараваць людзей сваёй прастатою і шчырасцю, задорным смехам і глыбокай, ад душы, радасцю, бескарыслівай і па-дзіцячаму чыстай дружбай, павагай і пашанай да старэйшых і неймавернай працавітасцю.

У Мінскім педагагічным тэхнікуме працавалі добрыя выкладчыкі, якія шчодра раздавалі глыбокія веды маладому пакаленню. Якуб Колас — пісьменнік, мовазнаўца, Міхайла Грамыка — пісьменнік, геолаг і гео-

граф, Алесь Круталевіч — аўтар падручнікаў па матэматыцы, слаўны хімік Вяршук, аўтары навуковых артыкулаў па педагогіцы, гісторыі, прыродазнаўству В. Барташэвіч, М. Рыдзіеўскі.

1927 і 1928 гады былі найбольш плённымі гадамі творчай дзейнасці Паўлюка Труса. У гэты ж час была напісана і паэма «Дзесяты падмурак», якая прынесла шырокую вядомасць і славу паэту і стала на доўгія гады хрэстаматыйным творам.

Слава паэта ўзрастала. Вершаваныя фельетоны, большай часткай напісаныя на матыў папулярных, даўно вядомых народных мелодый, літаральна заваёўвалі масы. І ў горадзе, і ў вёсцы звінела піянерская песенька «Журавель». На матыў вяснянак і жартаўлівых песень пісаў паэт кароценькія тэкстоўкі, і яны станавіліся баявой зброяй у барацьбе з цемраю і бескультурнасцю.

Паўлюк Трус пражыў 25 год. З гэтага жыцця на літаратурную дзейнасць выпала ўсяго толькі пяць. Гэтая дзейнасць прыпадае ў асноўным на той перыяд, калі паэт вучыўся ў педагагічным тэхнікуме. Тэхнікумаўскі хор, тэхнікумаўская група паэтаў прыкоўвалі ўвагу ўсяго культурнага Мінска. Варта было паявіцца афішы, што ў клубе будзе выступаць хор педагагічнага тэхнікума і «Калектыў шаўцоў» (майстры надзённых вершаваных фельетонаў Паўлюк Трус, Пятро Глебка і Максім Лужанін), як тэхнікумаўскі двор напаўняўся людзьмі, і ўжо адбою не было ад аматараў паслухаць тэхнікумаўскіх «парнасцаў». У калектыве «шаўцоў» Паўлюк Трус займаў вядучае месца. Вершаваныя фельетоны пісаў паэт і для газеты «Беларуская вёска».

Недалёка ад Мінска, на ўзбярэжжы рэчкі Свіслач, была дапаможная тэхнікумаўская гаспадарка Дараўка. Маляўнічая мясцовасць, зялёныя пералескі, сенажаці, звілістая стужка ракі ў вербалозніку вабілі

сваёй прыгажосцю. Студэнты, будучыя настаўнікі, якія ў асноўным павінны былі ехаць у вёску, праходзілі тут сельскагаспадарчую практыку і на працягу вясенніх і летніх месяцаў працавалі, знаёміліся з асновамі агародніцтва, паляводства, пчалаводства, жывёлагадоўлі.

У маёй памяці застаўся незабыўны момант. Звіняць косы. Каля двух дзесяткаў касцоў-студэнтаў гаманлівай чародкай урэзаліся ў мурожную траву. Пасярэдзіне іх Паўлюк Трус. Вось ён бярэ разгон і на ўвесь голас гукае:

— Хлопцы, дарогу!

Пракос Паўлюка Труса ўразаецца далёка наперад, але паэт узмацняе тэмп і, толькі дасягнуўшы рачнога берага, утыкае кассё ў мяккую лагавіну, садзіцца на бераг, апускае босыя ногі ў ваду. Нарэшце ўся чарада набліжаецца да берага. Маленькі адпачынак. Паэт дастае з кішэні блакнот і аловак, і ў адзін момант паяўляецца новая жартаўлівая страфа. Касцы збіраюцца падкінуць свайго паэта ўверх, але ён уладарна загадвае:

— Годзе гультаяваць! Праз мяне вы і на абед не заробіце!

Зноў зашасталі косы, зноў першы пракос вядзе Паўлюк.

У чыгуначным клубе імя Ільіча беларускія паэты бывалі часта і заўсёды мелі вялікую аўдыторыю. Было гэта ў канцы мая. Цвіў бэз, асыпаліся кветкі каштанаў. На сцэне, асветленай жаўтаватым пучком электрычнага святла, група паэтаў. Аўдыторыя не шкадуе ні воплескаў, ні букетаў. Асабліва шчодра вітала аўдыторыя Паўлюка Труса. Некалькі дзяўчатак сарамліва аддалі паэту невялічкія букецікі, а жанчына-чыгуначніца павольна ўзышла па сходках на сцэну, падышла да паэта, паціснула яму руку, з мацярынскай ласкай пацалавала яго ў шчаку і падала гронку белага

бэзу. У паэта бліснула яркая слязінка. Ён, заварожаны громам воплескаў, стаяў хвіліну, а пасля ўхапіў працавітую руку старой жанчыны і сардэчна пацалаваў. Паэт хваляваўся. Яго твар гарэў нейкім асаблівым румянцам. Пэўна, прыгадалася яму ў гэты час нябожчыца маці, пэўна, прыгадалася сястра, пра якую ён так хораша пісаў:

Цябе ў «Наднёмані»
сустрэну камсамолкай,
І ўславім песнямі
пражытыя гады.

У жніўні 1929 года ў Ждановічах пад Мінскам адпачывалі Паўлюк Трус, Васіль Шашалевіч, Мікола Хведаровіч.

Аднойчы пад вечар на імшастай палянцы ў лесе Васіль Шашалевіч чытаў урывак са сваёй п'есы. Мікола Хведаровіч у гэты час стругаў кіёк, а Паўлюк Трус ляжаў, падпёршы галаву далонямі. Вочы яго памутнелі, а на лбе выступіў пот. На вяршаліне сасны вавёрка, нібы для жарту, збівала сухое шыгалле, але гэты звярок не выклікаў у Паўлюка Труса ні цікавасці, ні захаплення. Усе адчувалі, што Паўлюку Трусу нездаровіцца. Для ўсіх было нечаканасцю, калі ён папрасіў правесці яго да дарогі: ён пойдзе пехатою ў Мінск. На ўсе доказы, што цяпер ужо позна, што ўжо змяркаецца і варта пачакаць раніцы, каб ехаць прыгарадным цягніком, Паўлюк Трус упарта ківаў галавою і гаварыў, што яму сёння трэба быць у Мінску. Першы раз прыйшлося мне бачыць хваравітую засмучанасць, памутнелы бляск сініх, вялікіх, разумных вачэй, загадкавы паясок поту на смуглым ілбе. Паўлюк Трус нікому не сказаў на развітанне, што ён захварэў, нікому не сказаў, што ідзе ў бальніцу.

Падаюць сінімі іскрынкамі пялёсткі васількоў на цёмныя кветкі вяргінь. Павольна ступае за труной жалобная працэсія.

...І мне прыгадалася снежная лістападаўская ноч. Жвавы конік лёгка імчыць санкі ў прыгарадную вёску Шчытомірычы. Едзем трое — Паўлюк Трус, Васіль Каваль і я. Едзем пагаварыць з людзьмі, правесці вечар, ці, як казаў, жартуючы, Васіль Каваль, у папрадухі. Чуваць працяжны гудок цягніка на паўстанку.

— Вось у нашай паэзіі не хапае гэтых мелодый,— нібы прачнуўшыся, сказаў Паўлюк Трус.

У сялянскай хаце, пры святле невялікай лямпы Паўлюк Трус і Васіль Каваль чыталі свае творы. У хаце было душна і накурана. Пад канец зайграў гармонік. Расчынілі дзверы. У хаце заліхвацка танцавалі і спявалі хлопцы і дзяўчаты. Паўлюк Трус на покуці некалькі гадзін гутарыў са старымі.

Не ўсе тыя ды сады цвітуць,
Што вясною распускаюцца,
Не ўсе тыя ды вянчаюцца,
Што любяцца ды кахаюцца...

— Ці не закахаўся ты, Паўлюк? — усміхаючыся, кажа Васіль Каваль.

— Не, браце,— палюбіў гэтыя мясціны.

Не прайшло і тыдня, як усе ў вёсцы Шчытомірычы выпісалі газету «Беларуская вёска», тую газету, у якой актыўна супрацоўнічаў Паўлюк Трус...

А можа, мы хаваем не Паўлюка Труса, а толькі вязём на магілкі кветкі? Не верыцца, ніяк не верыцца, што паэт памёр. Гэта ж яшчэ ўсяго дзесятак дзён таму назад бачыў я яго над Свіслаччу ў Ждановічах. Ён спрытна даваў нырца і плыў, пераганяючы самых лепшых плыўцоў. А пасля ішлі мы пералескамі аж да вузкай палоскі аўса паміж двума ярамі, куды цяжка было дабрацца жняярцы. Тут жалі жнеі сярпамі. Паўлюк Трус папрасіў даць яму серп і здзівіў усіх сваёй спрытнасцю і ўмельствам жаць і вязаць снапы. Нібы жартам, ён заспяваў старую, усім вядомую песню:

А я ў полі жняя, жнейка,
За гарою мая жменька...

Песню падхапілі ўсе жнеі, і працяжная мелодыя адгукнулася водгуллем у пажоўклых зарасніках далёкай Свіслачы.

І ці не тая ж старая жняя, у якой паэт браў серп, усклала на труну букет з васількоў і рамонкаў?

Здаецца, не так даўно ў чыгуначным клубе паэт чытаў у людная зале паэму «Дзесяты падмурак». Удзячныя слухачы, памятаю, закідалі свайго віхрастага паэта кветкамі...

Здаецца, і цяпер усміхаюцца вялікія сінія вочы паэта, а кучаравая чупрына яго звісла цёмна-русай пасмай на лоб.

Праз многа год я прыйшоў на магілу Паэта. На шэрай каменнай пліце я ўбачыў барэльеф Паўлюка Труса. На магіле ляжалі кветкі. Маё ўяўленне дапаўняе жывыя рысы таго чалавека, які тварыў усяго пяць год, які жыў так мала, але шмат зрабіў для свайго народа, для беларускай савецкай літаратуры.

*1988*

## *Адам Русак*

# Мае сустрэчы

Мае сустрэчы з Паўлюком Трусам былі, можна сказаць, выпадковыя, але яны пакінулі глыбокі след у сэрцы і ніколі не забудуцца.

У 1925 годзе я паступіў у Беларускі музычны тэхнікум. Паўлюк Трус ужо быў на трэцім курсе Белпедтэхнікума.

І вось у гэты час я пачаў пісаць вершы. Вельмі ж хацелася паказаць іх каму-небудзь. Але каму? Каб ніхто ж не пасмяяўся, а сказаў шчырае слова — ці варта займацца гэтай пісанінай? Пайду, думаю сабе, у «Маладняк» — там паэтаў многа, дадуць параду, памогуць.

Клуб «Маладняк» быў на Нямізе. Часта там праводзіліся літаратурныя вечары. Прыходзілі сюды не толькі маладнякоўцы, але і гарадская моладзь, студэнты. Вельмі мне хацелася ўбачыць тады Янку Купалу, Якуба Коласа, Цішку Гартнага, Міхася Чарота. Зазвычай літаратурныя вечары заканчваліся чытаннем новых вершаў. Гэта рабілася па ініцыятыве саміх паэтаў. Хто-небудзь скажа:

— Давайце, хлопцы, пачытаем вершы!

Адзін за адным на сцэну падымаюцца паэты. Я ўжо ведаю Кандрата Крапіву, Язэпа Пушчу. Але вось на сцэну падняўся стройны хлопец з кучаравымі русымі валасамі, у вышыванай кашулі. Ён дастаў з кішэні блакнот і пачаў чытаць вершаванае апавяданне «Ціт па дарозе на кірмаш». Хлопец не зусім чыста вымаўляў гук «р», і ледзь прыкметная картавасць надавала яго мове мілагучную інтанацыю. Паўлюк чытаў і разам са слухачамі сам не мог стрымацца ад смеху. Калі ён скончыў чытаць, пачуліся галасы:

— Яшчэ што-небудзь!

— Яшчэ! Яшчэ прачытай, Паўлюк!

Паўлюк пачаў чытаць другі ўрывак з гэтага апавядання: «Ціт па дарозе дадому». Чытаючы гэты ўрывак, Паўлюк яшчэ больш нарабіў смеху. Публіка шчодра надзяліла паэта воплескамі. А хлопцы размаўлялі паміж сабою:

— От жа глядзі ты. Два дзецюкі з адной вёскі — Кандрат Крапіва і Паўлюк Трус, а якія розныя па натуры. Крапіва чытае байку і ні разочку не ўсміхнецца, а Паўлюк чытае і сам рагоча.

Скончыліся выступленні паэтаў, я падышоў да Паўлюка.

— Прабач, Паўлюк. Дазволь пазнаёміцца з табою. Я з Пясочнага, усяго за сем кіламетраў ад твае вёскі.

— Ведаю. Дзе вучышся?

— У музычным тэхнікуме.

— О, дык ты музыкант?

— Хачу быць музыкантам.

— На чым іграеш?

— На скрыпцы, на дудцы.

— Пахвальна. У нас такая прафесія — навіна.

— У нас усё навіна — у свет выходзім.

— Заходзь да мяне, запішы мой адрас,— сказаў Паўлюк.

Дні праз два я прыйшоў да яго. Жыў Паўлюк на прыватнай кватэры на нейкай невялічкай вуліцы, паміж ракою і цяперашнім оперным тэатрам.

Драўляная хата. Невялічкі пакойчык. За акном — вішні.

Паўлюк сустрэў мяне ветліва. Я чытаў яму свае вершы і вельмі хваляваўся.

— А цяпер я пачытаю свой верш,— сказаў Паўлюк.— Я толькі што скончыў яго.

Паўлюк узяў лісты паперы на стале і пачаў чытаць. Відаць, з чарнавіка:

А ў палёх, палёх
Ды быльнёг палёг,
Зацвілі сады
Цветам-шэранню...
. . . . . . . . . . . . . .

І ў далёкі край,
За Дунай, Дунай,
Над сялом плывуць
Гусі шэрыя!

Верш захапіў мяне сваёй шчырасцю і напеўнасцю.

— Я яшчэ мала разбіраюся ў вершах,— сказаў я,— але мне здаецца, што гэта песня.

Седзячы ў Паўлюка, я зразумеў, што мала напісаць вершы — трэба яшчэ ўмець данесці твор да слухача ў поўнай красе. Паўлюк якраз і валодаў майстэрствам артыста-чытальніка.

Часта Паўлюк любіў шпацыраваць вечарамі па цяперашнім Купалаўскім скверыку. Там збіралася многа моладзі. Я назіраў, як Паўлюк прыглядаўся да людзей, прыслухоўваўся да іх размоў, аб нечым думаў, нешта запісваў. У адзін з такіх вечароў мы сустрэліся з ім каля фантана «Лебедзь».

Насупраць сквера, на рагу Савецкай і Энгельса, быў рэстаран.

— Можа, зойдзем па бакалу піва вып'ем? — прапанаваў Паўлюк.

Мы селі за стол. У рэстаране іграў струнны квартэт пад кіраўніцтвам таленавітага скрыпача і мастака С. Панеса.

— Ці ведаеш ты гэтых музыкантаў? — запытаў Паўлюк.

— Ведаю.

— Папрасі іх, каб зайгралі папуры з украінскіх песень.

Я ахвотна задаволіў яго просьбу. Палілася светлая, напеўная музыка. Трэба было бачыць у гэты момант Паўлюка. Ён слухаў песні, заварожаны іх музыкаю.

Калі загучала песня «Віють вітри», Паўлюк пачаў падпяваць. Я думаў, што не першы раз ён успомніў сягоння ўкраінскія песні. Нездарма свой зборнік назваў «Ветры буйныя». Паўлюк Трус вельмі любіў Тараса Шаўчэнку, які зрабіў значны ўплыў на яго творчасць.

Паўлюк Трус ніколі не быў задаволены сваімі творамі. Яму здавалася, што яны недасканалыя, і ён уносіў свае папраўкі нават тады, калі творы былі надрукаваны. Пра гэта сведчыць зборнік «Ветры буйныя», які ён падарыў мне. Папраўкі зроблены ў вершах «У поле», «Сасна», «З паэмы «Цыганка» і многіх іншых.

Апошняя сустрэча з Паўлюком Трусам у нас была ў жніўні 1929 года ў Беларускім радыёкамітэце. Мы з ім былі супрацоўнікамі адной установы: я быў у сімфанічным аркестры радыёкамітэта, ён — у літаратурнай рэдакцыі.

У перапынку паміж перадачамі мы сустракаліся ў пакоі адпачынку, Паўлюк расказваў мне, што нядаўна вярнуўся з паездкі па Беларусі і прывёз багата ўражанняў, сабраў многа матэрыялу для новых вершаў і паэм. Гулялі ў шашкі з ім.

І вось аднойчы на рэпетыцыі наш дырыжор Аркадзь Лявонавіч Бяссмертны сказаў, што заўтра аркестр павінен з'явіцца ў дзве гадзіны дня ў клуб пісьменнікаў іграць жалобную паніхіду па супрацоўніку Беларускага радыёкамітэта Паўлюку Трусу.

— Няпраўда, гэта памылка! — усклікнуў я.

Але памылкі не было.

У клубе пісьменнікаў сабралася шмат людзей. Каля труны стаялі сваякі Паўлюка. Цяжкім каменем лажыліся на сэрца першыя акорды жалобнага марша Шапэна. Сястра Паўлюка не стрывала, загаласіла:

— А мой ды ты братка... Не ўпору ты запрасіў нас на сваё вяселле... Не ўпору ты павянчаўся са смерцю...

Аркестр іграў жалобную музыку, а я іграць не мог.

*1964*

## *Іларый Барашка*

# Пясняр маладосці

Каржакаваты, вясёлы, кучаравы сялянскі хлапчук Паўлюк Трус у 1923 годзе прыехаў у Мінск, каб паступіць у Беларускі педагагічны тэхнікум.

Ён не прапускаў ніводнай нашай літаратурнай пятніцы. Яго можна было сустрэць у рабочых клубах, дамах культуры, у хатах-чытальнях і чырвоных кутках.

У 1925 годзе выдавецтва «Маладняк» у сваёй маладнякоўскай бібліятэчцы выдала першы невялічкі зборнік паэта «Вершы». За першым зборнікам выйшаў другі — «Ветры буйныя».

Пасля заканчэння ў 1927 годзе тэхнікума Паўлюк пайшоў працаваць у рэдакцыю «Беларускай вёскі», а пасля паехаў у Гомель, дзе працаваў у рэдакцыі газеты «Полесская правда» і ўзначальваў гомельскую філію «Маладняка».

У жніўні 1928 года Паўлюк Трус зноў у Мінску. Ён паступае ў Беларускі дзяржаўны універсітэт.

...Рэдакцыя часопіса «Маладняк» у 1928 годзе займала адзін з пакояў клуба імя Карла Маркса. Знаходзіўся гэты клуб на рагу вуліц Энгельса і Маркса, якраз насупраць тэатра імя Янкі Купалы. Рэдакцыйны пакой быў адначасова і нашым літаратурным клубам, дзе адбываліся гарачыя дэбаты і спрэчкі аб шляхах развіцця беларускай савецкай літаратуры. Гэта быў час, калі літаратурныя аб'яднанні і групы ўзнікалі ў Мінску як грыбы. «Маладняк», які ў 1928 годзе налічваў звыш ста маладых пісьменнікаў, чые творы друкаваліся ў газетах, часопісах, літаратурных дадатках і альманахах, страціў амаль палову сваіх членаў, якія разбрыліся па розных літгрупах. Узніклі

«Узвышша», «Полымя», «Камуна», «Пробліск»... І ўсюды — дэбаты і спрэчкі.

...Набліжалася 10-годдзе Савецкай Беларусі.

Месяцы за тры да юбілею мы доўга і старанна абмяркоўвалі план юбілейнага нумара «Маладняка». Хто з паэтаў павінен адкрыць гэты нумар часопіса?..

Была ўнесена прапанова прадаставіць першыя старонкі Паўлюку Трусу. З вялікім хваляваннем прыняў гэтую прапанову паэт. Ён разумеў, якую адказную задачу паставіла перад ім наша рэдкалегія.

Прайшоў месяц. Паўлюк Трус не паказваўся на нашым літаратурным гарызонце...

І раптам прыйшоў у рэдакцыю радасны і ўзрушаны:

— Ну, хлопцы! Напісаў! «Дзесяты падмурак» напісаў! Паэму! Слухайце!..

Мы селі за круглы рэдакцыйны стол...

Паэма «Дзесяты падмурак» была ўпершыню надрукавана ў дванаццатым нумары «Маладняка» за 1928 год.

А ўлетку 1929 года мы праводзілі Паўлюка Труса ў апошнюю дарогу. Яму было тады толькі дваццаць пяць...

*1964*

*Алесь Есакоў*

## З пакалення арлянятаў

З творчасцю паэта Паўлюка Труса я пазнаёміўся па газетах «Беларуская вёска», «Савецкая Беларусь», «Звязда», «Чырвоная змена», па часопісе «Маладняк». Ён часта друкаваўся ў дваццатых гадах — услаўляючы партыю, камсамол, камуну, лікбез, новы савецкі лад, змычку горада з вёскай. Асабліва падабаліся яго песенныя вершы, жывыя і надзённыя прыпеўкі, частушкі, якія на вёсцы называліся «карацелькамі», дзе пачуў іх упершыню. А больш блізка давялося пазнаёміцца з імі вось пры якіх абставінах.

У канцы 20-х гарадскія камітэты камсамола пасылалі на вёскі агітбрыгады. І як малады актывіст, які любіў спяваць і дэкламаваць вершы, я таксама трапіў у такую брыгаду, ад камсамольскай ячэйкі Мінскай шчотачнай фабрыкі. Збіралі агітбрыгаду ў Доме камсамола (клубе КІМ) беларускай сталіцы. Нам абвясцілі: едзем на правядзенне сяўбы. Давядзецца папрацаваць па-камсамольску — араць, сеяць, садзіць бульбу, адным словам, удзельнічаць у поўным цыкле веснавых работ. Усе брыгады па чалавек пятнаццаць — дваццаць, наша чамусьці дваццаць пяць — трыццаць — мела двух кіраўнікоў: Андрэя Александровіча і Платона Галавача.

Арганізацыйны сход брыгады праводзіў Платон Галавач. Ён паведаміў: будзе ў нас за палітрука. На яго кладзецца абавязак — чытаць газеты, праводзіць гутаркі, сачыць, каб мы акуратна наведвалі палітсемінары, адказваць на незразумелыя пытанні як агітбрыгадцаў, так і сялян. Будзе ў нас і другая частка — мастацкая. У гэты час якраз расчыніліся дзверы і Андрэй Александровіч з Паўлюком Трусам папра-

сілі ў Галавача дазволу прысутнічаць на сходзе. Платон кіўнуў галавой у знак згоды і сказаў, што якраз прыйшлі ў час.

Камсамольскае кіраўніцтва горада звяртаецца да маладнякоўцаў, каб дапамаглі агітбрыгадам, якія едуць на сяўбу, укамплектаваць рэпертуар, падказалі, якія песні, частушкі, вершы, сцэнкі варта выконваць. А падрыхтаваць іх — паставіць дапамогуць хлопцам і дзяўчатам кіраўнік драмкружка Дома камсамола і артысты Першага беларускага драматычнага тэатра Б. Дольскі і Мышко. І тут жа іх прадставіў, яны сядзелі побач і падняліся, як па камандзе. Папрасіў слова і Андрэй Александровіч, які прапанаваў прымацаваць да нас харавіка і харэографа, каб яны развучылі песні і танцы, што зробяць разнастайнейшай праграму канцэрта.

На наступных занятках павінны былі чытаць вершы, якія ведалі, ці прынесці газеты, часопісы, кнігі, дзе можна нешта падабраць для дэкламацыі і спеваў. І як прыемна было, што камсамольскія самадзейнікі чыталі вершы не толькі маладнякоўцаў: М. Чарота, П. Труса, А. Александровіча, але і старэйшых — Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі, Ц. Гартнага, М. Багдановіча. Ды і А. Александровіч з П. Галавачом на чарговую рэпетыцыю запрасілі сваіх сяброў: П. Труса, П. Глебку, А. Якімовіча, Я. Рамановіча, якія слухалі нас з цікавасцю.

У тую пару, калі рыхтаваліся да сяўбы, агітбрыгадцаў запрасілі ў «Чырвонку». Там адбывалася пасяджэнне мінскага аддзялення літаб'яднання «Маладняк». Прысутнічала большасць актывістаў. Хлопцы і дзяўчаты выступалі і хвалілі вершы Паўлюка Труса. Адны іх называлі запеўкамі і прыпеўкамі, другія — частушкамі і песнямі. Сам жа Трус выступіў сціпла. Казаў, што ўсе маладнякоўцы кіруюцца шляхам Купалы і Коласа — дарогай старэйшага пакалення.

Ён, як і яго паплечнікі, лічыць сваіх класікаў духоўнымі бацькамі. І тут жа не прамінуў сказаць некалькі слоў пра агітбрыгады, заклікаў камсамольцаў стварыць іх на фабрыках і заводах, ва ўстановах савецкіх і навучальных. Жывое слова, сказанае вершам, песняй са сцэны і на полі, хутчэй запомніцца і западзе ў душу. Паўлюк не абмяжоўваўся толькі беларускай літаратурай, але прапанаваў чытаць творы рускіх камсамольскіх паэтаў: А. Жарава і А. Безыменскага, М. Святлова і іншых тады найбольш папулярных сярод моладзі. Так пашыраецца кругагляд моладзі і камсамоліі, якім шмат трэба вучыцца, працаваць, каб быць вартымі старэйшых, трэба наследаваць традыцыі, бо час кліча ісці за тымі, хто пракладае шлях.

На рэпетыцыях агітбрыгады ў Доме камсамола Трус услухоўваўся ў гучанне верша, нібы правяраючы вернасць слова ў радку, яго рытміку, змест, назіраючы, як успрымаюць слухачы. Ад гэтага залежыць поспех твора, яго папулярнасць, калі эмацыянальна і літаратурна ён дакладна выверан. Мы ў Труса пыталіся, як трэба чытаць вершы. Ён асцярожна выказваў думкі ўслых: пафаснасць пажадана спалучаць з жыццёвымі інтанацыямі — бытавымі, гумарыстычнымі, з роздумам. Выканаўцам трэба ўзгадняць аўтарскія інтанацыі са сваёй трактоўкай. Калі ўсё гэта спалучыць, дэкламацыя можа быць пераканаўчай. Жартуючы, ён часам заўважаў, вось як у Глебкі, спакой і тэмперамент ідуць разам, таму і вершы складаюцца няспешна. Паўлюк больш спяшаўся, баючыся адстаць ад жыцця, бо хада ў сучаснасці хуткая, патрабавальная, энергічная. Дапамагала ўсхваляванасці маладога пакалення жыццёвая напорыстасць, штодня ставілі і ставяць усё новыя задачы, якія па патрабаванню часу неабходна выконваць неадкладна.

Хлопцы-маладнякоўцы калі-нікалі жартавалі з Трусам, што Тэраўскі ў народныя залічыў Паўлюка,

бо яго вершаваныя тэксты перакладаў на народныя мелодыі і сведчыў: песня набывае папулярнасць. Такога хоча кожны паэт і кампазітар. Але чаму так робіцца? Пра гэта Паўлюк пачуў на рэпетыцыі нашай агітбрыгады, калі адпрацоўваўся песенны твор у спеўцы. Уладзімір Васільевіч Тэраўскі тлумачыў: па Глінку — песня нараджаецца ў народзе, а мы — кампазітары, толькі яе аранжыруем. Значыць, і паэт словы не проста падслухоўвае, а разам з імі падбірае тыя інтанацыі, якія адпавядаюць тэксту, зместу, народнаму настрою, мелодыі. І тут паэт не можа свавольнічаць, бо ён хоча, каб яго творы разумелі, чыталі, спявалі, карацей кажучы, каб яны бралі за сэрца.

У літаратурным і мастацкім асяроддзі Тэраўскага, як і Галубка, называлі «народнікамі». Бо ўсё, што яны рабілі, звязвалі з тым, як успрымае народ. А калі не, дык чаму? Вось прыйшоў час Паўлюку Трусу пазнаёміцца з тэатральнымі брыгадамі У. Галубка і БДТ-1, якія таксама накіроўваліся на сяўбу.

Тэраўскі часта звяртаўся да знаёмых паэтаў, каб яны глянулі спрактыкаваным вокам ды падказалі, а мо і выправілі як трэба, што, на іх думку, гучыць не так, як водзіцца апрацавалі. З гэтай просьбай кампазітар звярнуўся і да Паўлюка. Той глянуў і назаўтра прынёс часопіс, кніжку і паказаў. Кампазітар адказаў: ведае, адкуль запазычана. Але каб зноў пусціць у народ, трэба зрабіць новы, больш дакладны тэкст, надаўшы яму пэўную музычнасць. І тут жа, каб паэт не крыўдзіўся, Тэраўскі паказаў яму некалькі варыянтаў гэтай жа мелодыі, запісанай на Случчыне, Заслаўшчыне, у Старых Дарогах, Уздзеншчыне, Капыльшчыне ды недзе яшчэ, толькі трэба глянуць у старыя блакноты і сшыткі, запоўненыя на тых маршрутах, дзе яны ездзілі з харамі, тэатрамі, фальклярыстамі, і пераканаешся ў тытанічнай працы над мелодыяй песні.

Паэт разумеў: песня нараджаецца не адразу, над

ёй трэба нямала папацець, звесці шмат паперы, слоўнай груды, паспрабаваць дзесяткі, а то і сотні варыянтаў, тады можна дамагчыся таго, чаго трэба табе, кампазітару, выканаўцу, слухачу, а гэта значыць народу. Паўлюк Адамавіч, як яго велічаў кампазітар, быў працавітым, і пераробкі, папраўкі ці рэдагаванні яго ніколі не палохалі, а надавалі большага энтузіязму да сапраўднай творчасці.

Але аднаго чалавека Трус пабойваўся. Не толькі таму, што ён быў дырэктарам выдавецтва, а, будучы сам паэтам, дакладна бачыў недахопы — рытарычнасць, пафаснасць, фальклорнасць і яшчэ нешта заўсёды знойдзе і пальцам пакажа, што азначала: пра гэта ўжо ж гаварылася не раз у друку, яму і іншым паэтам трэба запомніць. І станавілася Трусу ніякавата, крыўдна, думаючы: ну, як раней не заўважыў, сто разоў перачытваючы. Але, пакідаючы «дзядзьку Цішку», патрабавальнага Гартнага-Жылуновіча, заўсёды пры развітанні чуў: здольнасці ёсць, а ўседлівасці крыху не стае, дык прышпілі сябе да крэсла на тыдні тры, а то і на месяцы два, вось і атрымаецца што трэба, а калі неабходна, дык і больш, але ад свайго не адступайся.

У такіх выпадках, каб супакоіцца, Паўлюк звычайна бег у Пушкінскую бібліятэку, якая бліжэй усяго была ад Белпедтэхнікума, ці ў Дзяржаўную, што месцілася па Савецкай (цяпер Ленінскі праспект) у тым прыгожым дамку з вежамі, дзе зараз Дом мастацтва. У трох бібліятэках — Дома камсамола, Пушкінскай, Дзяржаўнай, а пазней, калі ён стаў студэнтам універсітэта, наведваў і чацвёртую — імя Льва Талстога, што была ля заходняга чыгуначнага моста ў пачатку Маскоўскай вуліцы, ён сустракаўся са сваімі сябрамі — літаратарамі, журналістамі, кампазітарамі, рэжысёрамі, акцёрамі, мастакамі. Тут адбываліся і нашы спатканні.

Тады ды, мусіць, і цяпер кніга была не толькі крыніцай ведаў, але прадметам вывучэння жыцця. Напісаў слова «прадметам» і адразу ўспомніў, што і я ж тады ўсё вучыўся — у школе рабочай моладзі, на агульнаадукацыйных курсах, на рабфаку і нават у Беларускім універсітэце, а потым ужо быў камандзіраваны Наркамасветай і ЦК ЛКСМБ у Ленінград, як тады казалі — на браніраваныя месцы, а затым па стану здароўя пераехаў у Маскву. Так і ў Паўлюка: вучоба спалучалася з працай у рэдакцыях, з напружанай творчасцю — пісаннем вершаў, кансультацыямі, апрацоўкай допісаў карэспандэнтаў і тэкстаў маладых паэтаў, фальклорна-паэтычных матэрыялаў для кампазітараў — У. Тэраўскага, Н. Сакалоўскага, Р. Пукста, І. Любана ды іншых. Некаторыя іншы раз блыталі, дзе тэкст Труса, дзе народны, бо Паўлюк быў улюбёны ў фальклор і часта пісаў у народным стылі. У. Тэраўскі і У. Галубок іншы раз Паўлюка супакойвалі: тое, што народнае — вечнае. Цяпер будзе мо цяжка некаму зразумець, потым стане папулярным і вечным, народ сваё не губляе, ■ захоўвае на стагоддзі, што ім ці асобнымі людзьмі творыцца.

На аглядах, алімпіядах, фестывалях, вячорках і канцэртах у калгасных і рабочых клубах тады, як і цяпер, можна пачуць карацелькі, прыпеўкі, частушкі, сярод якіх сустракаюцца тэксты Купалы, Коласа, Бядулі, а таксама Труса, Чарота, Броўкі, Глебкі ды шмат іншых, якія сталі народнымі. Іх можна сустрэць не толькі ў запісах фалькларыстаў — У. Тэраўскага, М. Чуркіна, У. і Э. Галубкоў, Р. Шырмы, Г. Цітовіча, М. Грынблата, але і студэнтаў універсітэта, педінстытута, кансерваторыі і навучэнцаў тэхнікумаў і вучылішчаў, настаўнікаў, музыкаў, культасветнікаў.

У 20-я гады наладжвалася шмат літаратурных вечароў у Мінску. Адзін з іх мне і маім сябрам добра запомніўся. Ён праводзіўся ў Доме асветы, прысвячаў-

ся Максіму Багдановічу, 10-й гадавіне з дня яго смерці. З чытаннем верша Багдановіча выступіў Паўлюк Трус. Сядзеў я недалёка ад сцэны, углядаўся ў Паўлюка, мне здавалася, што з твару ён падобны на Максіма. Такі ж задуменны, з адкрытым і мэтанакіраваным позіркам, капа валасоў, як шапка, бровы ўразлёт, з прамым невялікім носам і круглым падбароддзем. Маладнякоўцы, да якіх належалі Трус і Глебка, чыталі вершы, прысвечаныя Багдановічу, вызначаліся тым, што выконвалі іх без звычайнага пафасу і рыторыкі, а задуменна. У. Галубок і Е. Міровіч заўсёды ў прыклад ставілі Труса, які дэкламаваў вершы задушэўна, нібы з кімсьці размаўляў, чытаў разважліва, каб кожнае слова даходзіла да слухачоў. Я б назваў такое аўтарскае чытанне артыстычным, сапраўды паэтычным, меладычным, дзе інтанацыйна асэнсаваны не толькі слова, гук, але і паўза. У такім выкананні змест верша надоўга застаецца ў памяці. Глебка і Трус былі і ёсць любімымі маімі паэтамі, але ўсё ж у чытанні я аддаваў перавагу Паўлюку, бо ён пазбягаў глебкаўскай рацыяналістычнасці (чытанне пад Маякоўскага), у той час як Паўлюк аддаваў больш увагі лірычнасці, роздуму, што было характэрна і для Багдановічавай паэзіі.

Пра гэты вечар, як і пра паэзію Купалы, Коласа, Багдановіча, Бядулі, мы не раз размаўлялі, ходзячы па мінскіх вуліцах, з ахвотай наведвалі любыя нам мясціны — вуліцы Талстога, Фрунзе, Койданаўскую (Рэвалюцыйную), Нямігу, Ніжні і Траецкі базары. Часцей за ўсё Трус хадзіў з К. Чорным, П. Глебкам, Я. Рамановічам, А. Якімовічам, да іх калі-нікалі далучаўся і я. Духоўнымі настаўнікамі Паўлюк лічыў першых трох, а нас — сябрамі. Дзядзьку Кузьму Паўлюк любіў апавядаць гарадскія і вясковыя гісторыі. З Глебкам спрачаўся, адстойваючы «Маладняк» і не разумеючы «Узвышша», ніколі не думаючы пераxo-

дзіць у гэтае літаб'яднанне, аб чым паведаміў нават у друку, што пацвердзіў і М. Чарот. Якімовіч агітаваў Паўлюка пераходзіць на прозу і пісаць для дзяцей. Рамановіч і я раілі яму сябраваць з агіттэатрам і супрацоўнічаць з брыгадамі, якія часта гастраліравалі па гарадах, мястэчках, вёсках рэспублікі. Ён марыў не толькі пра рабочыя тэатры, але і вясковыя, вандроўныя,— як галубкоўскі, накшталт літаратурнай трупы з чытаннем вершаў, выкананнем прыпевак, частушак, песень і гумарыстычных сцэнак. Часта гаварыў і пра сваю новую паэму «Дзесяты падмурак». Чытаў з яе ўрыўкі і пытаўся: удаецца яна ці не? Хацеў пачуць ад сяброў і таварышаў крытычнае слова, заўвагі, як бы жадаў ведаць: ці на правільным шляху? І як бы ні спрачаліся, мы ніколі не адмаўлялі Трусу ў таленце, лічылі яго наватарам, паэтам з вялікай будучыняй. А калі празаікі ці драматургі клікалі паспрабаваць свае сілы ў іх жанрах, ён адказваў: «Дайце ўмацавацца ў паэзіі, а тады ўжо буду меркаваць, што далей рабіць».

У чэрвені 1944 года мяне зноў сутыкнуў лёс з вёскай Нізок, дзе нарадзіўся Паўлюк Трус. Фашысты, уцякаючы, стралялі запальваючымі кулямі. Вецер дзьмуў якраз у бок вёскі. Ад адной хаты занялося некалькі. Партызаны брыгады імя Варашылава, у якой былі і мы, пачалі ратаваць жылы масіў. А колькі было радасці: народныя мсціўцы не далі ворагу спаліць родную вёску К. Крапівы і П. Труса.

Пазней, прыязджаючы сюды на Уздзеншчыну з П. Глебкам, А. Якімовічам, А. Бялевічам ды іншымі пісьменнікамі, мы не раз чулі ад землякоў Паўлюка, яго сястры, як ён запісваў прыпеўкі, частушкі, песні, якія спявалі жанчыны яго роднай вёскі. Фальклорныя запісы, па Паўлюковаму прыкладу, П. Глебка, А. Якімовіч, А. Бялевіч, я і іншыя здавалі ў фальклорную камісію Інбелкульта, а пазней Інстытута мовы і літаратуры АН БССР.

Некаторыя па непаразуменню, зайздрасці ці памылкова лічылі П. Труса паэтам адной паэмы «Дзесяты падмурак». А я лічыў тады і цяпер, што гэта паэт-класік, які пакінуў хрэстаматыйныя творы, на якіх ужо некалькі дзесяцігоддзяў выхоўваецца не адно пакаленне...

*1983*

*Яфім Садоўскі*

# Тое, што запомнілася

Усё менш і менш застаецца людзей, якія мелі вялікае шчасце ведаць Паўлюка Труса, вучыцца разам з ім у Белпедтэхнікуме, а пасля ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, куды падаўся Паўлюк, каб атрымаць вышэйшую адукацыю. Да таго часу ў яго роднай прынёманскай вёсцы студэнтаў яшчэ амаль не было. Усё менш застаецца людзей, якія памятаюць паэта, праводзілі з ім час, слухалі ягоныя вершы. З таго часу прайшло больш за пяцьдзесят год. Цэлае жыццё.

Нас, пачынаючых літаратараў, у тыя далёкія часіны, часы першых год савецкай улады, было не так і многа.

Калі час ад часу беларускія, рускія, яўрэйскія і польскія пісьменнікі, што жылі, працавалі ў Мінску, збіраліся на свае сходы ў невялічкай залі, дзе на першым паверсе вялікага будынка Інбелкульту атрымалі свой прытулак, дык нават гэтая зала, ці, хутчэй, пакой, запаўнялася, можа, толькі напалову, не больш. Тое, што Паўлюк прыйшоў на сход, можна было адразу пачуць. Вось ён нешта вясёлае расказвае Андрэю Александровічу, і абодва шчыра смяюцца. У штодзённым жыцці Паўлюк быў жартаўлівым і цікаўным, любіў вандраваць па маляўнічых кутках Беларусі і з захапленнем расказваў пра свае ўражанні.

Хлапчук з прынёманскай вёскі Нізок хоць і зрабіўся вядомым беларускім савецкім паэтам, але заставаўся гэткім жа простым, звычайным, якім быў у сваім дарагім, незабыўным Нізку, дзе пачаўся яго жыццёвы шлях. І, зразумела, ганарыўся тым, што з'яўляецца аднавяскоўцам Кандрата Крапівы, якога вельмі паважаў і байкі якога амаль усе ведаў на памяць. Выклі-

каўшы вясёлы смех слухачоў, дадаваў: «Наш Нізок — гэта вёска гумарыстаў».

Не скажу, каб мне пашанцавала часта сустракаць Паўлюка. Не. Ён вучыўся, я ўжо працаваў у друку. Але сустракаліся. У тыя гады ў Мінску нярэдка адбываліся вельмі цікавыя дыспуты, літаратурныя вечары. Вось тут ужо абавязкова сустрэнемся. Памятаецца дыскусійны вечар у клубе імя Карла Маркса, здаецца. Прыехалі на дыспут А. В. Луначарскі, аратар, якіх мала было, і архіепіскап А. Вядзенскі, таксама неблагі прамоўца. І вось дыспут паміж імі, публічны дыспут — ці быў Хрыстос?

Паўлюк сядзіць у першых радах, і ўвага яго надзвычай напружаная. Справа ў тым, што мы па праву можам назваць П. Труса ваяўнічым бязбожнікам, ён шмат пісаў на антырэлігійныя тэмы. І вось два вялікія адукаваныя дзеячы, са сваіх пазіцый кожны, публічна вырашаюць пытанне, ці існаваў Хрыстос.

А. Вядзенскі трымае ў руцэ Біблію і імкнецца паводле яе даказаць, што Хрыстос не прыдуманы. А. В. Луначарскі таксама трымае Біблію і з палкасцю вучонага абвяргае ўсё тое, што напісана ў гэтай кнізе. Паўлюк Трус не толькі слухае, але і робіць нейкія нататкі ў блакноце. Яму ўсё гэта будзе патрэбна ў яго антырэлігійнай творчасці, ён аб гэтым напіша не адну байку.

Байкі Паўлюк пісаў абавязкова з эпіграфам, і цікава адзначыць, што ў большасці гэтыя эпіграфы складаліся з вытрымак з селькораўскіх лістоў. Паўлюк заўсёды ахвотна ўспамінаў, як асабістая яго літаратурная дзейнасць пачалася з невялікіх нататкаў у газету «Беларуская вёска», якую ён лічыў сваёй хроснай маткай і на старонках якой потым надрукаваў многа сваіх лепшых вершаў, у тым ліку і баек.

Зараз не скажу, ці да гэтага цікавага дыспуту, ці, можа, пасля, не мае значэння гэта зараз, зноў сустрэў

я П. А. Труса на літаратурным вечары У. У. Маякоўскага. Адбыўся вечар трыбуна рэвалюцыйнай паэзіі ў памяшканні кінатэатра «Культура» (зараз будынак Рускага тэатра БССР імя Максіма Горкага). Каля ўвахода ў кінатэатр сабраўся цэлы натоўп людзей, якія білет здабыць не змаглі. Паўлюку я аддаў свой другі білет, бо тая, для каго быў узяты білет, нечакана захварэла.

Паэзія Паўлюка Труса была маладзёжнай, празрыста-юнай, нібы з чыстых крыніц Прынёмання, паэзія хараства, летуценняў, кахання. Паэт любіў камсамольскае паэтычнае слова. Ён добра ведаў паэзію А. Безыменскага, А. Жарава, І. Уткіна, М. Святлова, М. Галоднага і іншых рускіх паэтаў. З некаторымі з іх быў асабіста знаёмы і не раз выступаў з імі на літаратурных сустрэчах у Мінску і Гомелі.

Мы сядзелі з Паўлюком амаль побач.

— Ці ёсць у вас аловачак? — пытаецца ў мяне Паўлюк.

— Калі ласка,— працягваю яму сваю аўтаручку.

Паўлюк паслаў Маякоўскаму запіску. Спытаўся, ці ведае ён беларускую літаратуру, ці чытаў у перакладах творы Я. Коласа, Я. Купалы, М. Чарота і якая ягоная думка пра беларускую літаратуру. Добра памятаю, нібы гэта адбывалася зусім нядаўна, што на стале сабралася гара ўсялякіх запісак, а Маякоўскі змог адказаць толькі на некаторыя, што першымі трапілі пад руку. На астатнія абяцаў адказаць у спецыяльнай кнізе: «Універсальны адказ на пытанні да мяне», але, на вялікі жаль, кнігі гэтай не напісаў.

Мы ішлі з Паўлюком удвух дамоў, дзяліліся адзін з адным уражаннямі:

— Як добра ён чытае свае вершы, як добра даносіць да слухача. Яшчэ ніколі не чуў такога паэта.

Паўлюк не пакінуў нам свайго дзённіка, ён, здаецца, і не вёў яго, і таму нідзе не сустрэнеш яго водгукаў

пра літаратурныя з'явы тых далёкіх часоў. Але некаторыя яго вершы гучаць як дзённік, дзённік перажытага.

Сяброў у Труса было нямала, таму што ён па сваім характары быў таварыскі, чулы, але бліжэй усіх яму быў Пятро Глебка, можа, яшчэ і таму, што яны былі землякамі. І ганарыліся гэтым, бо, як вядома, ніхто ў Беларусі не даў такога паэтычнага папаўнення, як прынёманская Уздзеншчына.

Паўлюк любіў мінскія паркі, асабліва галоўны, гарадскі, каля павольнай Свіслачы, любіў пахадзіць па ваколіцах Мінска, у тыя далёкія часіны да іх было, як кажуць, рукой падаць, па лясах, якія акалялі наш старажытны горад.

Калі ў Паўлюка выпадала свабодная хвілінка, ён адзін, або з Пятром Глебкам, ці з кім-небудзь са студэнтаў накіроўваўся за горад падыхаць свежым лясным паветрам. Чыталі адзін аднаму свае вершы, марылі аб будучым.

Аднойчы я сустрэўся з Паўлюком у сучасным парку імя Горкага. Гэта было на алеі, каля самой Свіслачы. Дарэчы, гэтую алею вельмі любіў і Якуб Колас, які, як вядома, і жыў да вайны каля парку, на вуліцы Фрунзе. Прыходзіў Якуб Колас сюды не адзін, а са сваімі хлапчукамі, і яны нават мелі тут кожны па свайму дрэву, Колас даў ім імёны сваіх дзяцей.

Паўлюк чытаў кнігу, здаецца, Цішкі Гартнага, я павітаўся і спытаўся, ці не перашкоджу.

— Калі ласка,— адказаў Трус, адклаўшы кнігу.

Паўлюк ведаў маіх некаторых сяброў, рускіх пісьменнікаў Ілью Дукора, Рыгора Кобеца, Міхася Златагорава і спытаўся пра іх. Над чым працуюць, што друкуюць.

— Чытаў у «Чырвонай змене» вершы Эльфа,— сказаў ён пра Златагорава,— нейкі дзіўны псеўданім прыдумаў сабе Міхасёк. Эльфы, гномы, але гэта яго

асабістая справа, хоць гаршком падпісвайся,— усміхнуўся Паўлюк,— але каб вершы былі добрыя, а яны мне спадабаліся, так і перадай яму, калі пабачыш.

Зразумела, я перадаў. Міхась вельмі ўзрадаваўся, бо ён любіў Паўлюка і чула прыслухоўваўся да ягоных ацэнак. А ў 1931 годзе, калі Паўлюка ўжо не было ў жывых, Міхась пераклаў нізку вершаў Труса, а адзін — «Беларусь» — надрукаваў у газеце «Известия».

Але яшчэ аб той сустрэчы з паэтам, каля Свіслачы. Сустрэча, як бачыце, надоўга запомнілася мне.

Гутарылі пра Мінск, пра Нізок, дзе неяк мне давялося пабываць па справах рэдакцыі. Паўлюк скардзіўся, што вучоба і розныя справы не дазваляюць яму часта бываць дома, у роднай вёсцы. То экзамены, то карэктуры вычытваць трэба... А сэрцам там.

Зразумела, я пытаўся, над чым ён зараз працуе; як жа без гэткага традыцыйнага журналісцкага пытання, калі гутарыш з вядомым маладым паэтам?

Але Паўлюк на нечаканае інтэрв'ю не паддаўся, а спытаў:

— Час маеце?

— Зразумела.

— У такім выпадку я вам лепш пачытаю з новай сваёй паэмы.

Паўлюк дастаў з партфеля рукапіс, як цяпер памятаю, нават не перадрукаваны на машынцы, адкінуў свае густыя валасы, каб не перашкаджалі, і прачытаў урывак з паэмы.

Я слухаў як зачараваны.

Потым ён нечакана схаваў рукапіс у партфель.

— Яна недапрацавана, вось чытаючы вам, асабліва адчуў, прабачце, у другі раз дачытаю.

Малады камсамольскі паэт быў вельмі патрабавальным да сябе, да сваёй творчасці. Мне здаецца, што гэта была адна з прыкметных рыс аўтара паэм «Сірата

Алеся», «Дзесяты падмурак» і іншых, якім жыць і жыць.

Мне здаецца, што пасля гэтай сустрэчы я больш не бачыў паэта.

Чытаў я ягоныя творы, купіў кніжкі «Вершы», пасля «Ветры буйныя», многія творы з гэтых кніжак нават на памяць ведаў. У той час не адзін я быў закаханы ў паэзію кучаравага хлопца з вёскі Нізок.

Знаёмства з Трусам, павага да яго паэзіі, сустрэчы з паэтам натхнілі мяне ўжо ў пасляваенныя гады напісаць аповесць пра Паўлюка Труса «Крылы песні». З гэтай мэтай я з'ездзіў у Нізок да родных і сваякоў паэта. Перагледзеў архіў Труса, у якім сустрэў адзін ненадрукаваны верш «Провады прызыўнікоў». Верш быў напісаны даўно, на вёсцы распаўсюджваўся ў перапісаным выглядзе. Тады яшчэ захаваліся ў родзічаў паэта лісты, што пісаў Паўлюк з Мінска, потым з Гомеля, дзе працаваў у абласной газеце, былі і некаторыя фатаграфіі. Я параіў здаць усё гэта ў літархіў. Далейшага лёсу яго спадчыны не ведаю.

Паўлюк Трус зусім маладым пакінуў жыццё, і такімі маладымі асталіся ягонае жыццё і ягоная цудоўная паэзія, паэзія песняра маладосці.

*1986*

*Раман Сабаленка*

## Жыццё і песня

Сціплая кніжачка з папяровай вокладкай, на ёй пахіленымі карычневымі літарамі напісана: «Ветры буйныя». Літары нібы абапіраюцца на зламанае дрэва, якое ўчэпістым карэннем моцна трымаецца за маці-зямлю. Кніжачка прыйшла з тых год юнацтва, успамін пра якія чалавек праносіць праз усё жыццё, як непаўторную сваю песню. Разгарнуліся старонкі памяці, і вось што я на іх прачытаў...

Гомель. Драўляны, знадворку пафарбаваны ў зялёны колер прысадзісты дамок з ганкам на Кааператыўнай вуліцы. Па бруку зрэдку грукацяць вазы ламавікоў, але вуліца ўвогуле ціхая, як вясковая. На лавачцы каля ганка ў летні дзень заўсёды хто-небудзь сядзіць, курыць. Наўскасяк цераз вуліцу Дом Чырвонай Арміі. Там вечарамі чуваць музыка, вясёлы салдацкі смех. А трошачкі воддаль, там, дзе канчаецца вуліца,— плошча Працы. Пасярэдзіне яе нізенькая агароджа і бронзавая фігура рабочага з вялізным молатам у руках. Далей тлум таўкучкі. А там — парк, Сож і неаглядная далячынь родных прастораў.

Тагачасны Гомель быў звычайны правінцыяльны гандлёвы гарадок з крамкамі, сутарэннямі, у якіх месціліся скабяных спраў майстры. Прамысловасць горада толькі яшчэ нараджалася. За Кагальным ровам былы скабяны завод Фрумкіна ператварыўся ў завод «Пралетарый». І ўсяе красы было тады ў Гомелі, што славуты парк Паскевіча ды маляўнічы, заўсёды імклівы Сож.

Па вуліцах горада цокалі падковамі коні, мякка каціліся на гумавых колах фаэтоны рамізнікаў, якія, каб не застацца без седакоў, пакрыквалі:

— Гэй, пракачу! За рубель аж конь будзе вылузвацца з аглабель!

На вуліцах тады не было яшчэ ні лапушыстых таполяў, ні ліп, якія цяпер аздабляюць вуліцы Савецкую, Камсамольскую, Сялянскую, імя Кірава. Горад быў увесь у палоне нэпманскага ажыятажу, і нікому не ў галаве было ствараць у ім утульнасць. Кожны пільнаваўся свайго кутка, стараючыся зрабіць яго маленькім раем на зямлі.

І вось я, вясковы хлапчук, упершыню ў 1925 годзе трапіў на гарадскую вуліцу. У сялянскім шарачку, стаптаных апорках, бацькавых ботах я прыйшоў як бы ўдыхнуць у яго нешта новае. Вядома, я не адзін тады такі быў. Нас, простых сялянскіх сыноў і дачок, былі тысячы, дзесяткі тысяч, і мы, абуджаныя рэвалюцыяй, ішлі вучыцца, як будаваць новы свет.

Мяне з маленства вабіла друкаванае слова. Неяк падсвядома я ўяўляў сабе вялізную сілу ўздзеяння яго на людзей. Яшчэ ў вёсцы, зашыўшыся дзе-небудзь у закутак, пісаў на аркушыку паперы са сшытка заметкі ў газету. Большасць з іх, вядома, трапляла ў рэдакцыйны кошык. Але вось аднойчы прыйшла газета «Новая деревня», якая выдавалася ў Гомелі на рускай мове. Там быў вельмі цікавы раздзел «Красные открытки дедушки Никитки», у якім заметкі падаваліся рыфмаванай прозай. У гэтыя «открытки» на гэты раз і трапіў мой допіс пра вясковага кулака, які няшчадна эксплуатаваў батракоў. З рук у рукі хадзіла па вёсцы газета. Хлопцы даўмеліся вывучыць на памяць мой зарыфмаваны некім у рэдакцыі допіс і штовечар спявалі пад акном у таго самага кулака. Спявалі да таго часу, пакуль гаспадар не выскокваў з хаты ў адных сподніках з вілачнікам у руках і не перацягваў каго-небудзь з нас між плеч. Як бы там ні было, а я стаў героем дня ў нашай вёсцы, выехаў, як той казаў, на чужой рыфме. Пазней я даведаўся і на чыёй — тыя

«Красные открытки дедушки Никитки» рыфмаваў супрацоўнік рэдакцыі Пілiп Ларывонавіч Яўменаў, з якім мне потым давялося гады працаваць разам.

Можа, дзякуючы тым «открыткам» я зразумеў сілу рыфмаванага радка. У простым народзе, як я заўважыў яшчэ змалку, жыло імкненне гаварыць у рыфму.

Вось ужо трэці год я вучуся ў горадзе, хаджу па бруку, хоць яшчэ і ў вясковым шарачку. Гарадской вопраткі ніяк не мог агораць. Студэнтам педагагічных тэхнікумаў давалі тады стыпендыю дзевяць рублёў. Гэтага шчыгульненька хапала толькі на тое, каб есці сухі хлеб ды раз у два-тры дні талерку якога гарачага варыва. З дому нічога мне не прысылалі.

З інтэрната на Працоўнай вуліцы ў былы князеў парк, дзе знаходзіўся наш тэхнікум, я бегаў гарадскімі задворкамі, каб радзей трапляцца людзям на вочы. Гарадскія мяшчане часам і кепікі строілі з нас, вясковых сярмяжнікаў, якія кінуліся ў навуку. Ніякавата было вясной, калі алеі парку запаўняліся расфранчанай, больш за ўсё нэпманаўскай публікай. Затое ў інтэрнаце на другім паверсе была ў нас свая стыхія. Там вяліся спрэчкі пра палітыку, чыталіся вершы, абмяркоўваліся празаічныя творы.

У маленькім пакойчыку нашага інтэрната чыталася ўсё: ад Гумілёва да Ясеніна і Маякоўскага. Памятаю, гарачыя спрэчкі выклікаў верш Івана Малчанава, надрукаваны ў «Комсомольской правде». Адны яго бралі пад абарону, другія ганілі. Я вельмі рад быў, калі прачытаў адказ Маякоўскага Івану Малчанаву.

Мой сусед па пакоі Раман Блізнец клаўся спаць і ўставаў з томікам Сяргея Ясеніна. Я таксама любіў вершы гэтага вялікага рускага паэта. Любіў іх за шчырасць, за прастату, за маляўнічасць, хоць і не разумеў той роспачы, якая часам пракідалася ў іх. Мне наогул

цяжка было гэта зразумець, вырас я ў сялянскім асяроддзі, якое па самой сваёй прыродзе, нават у самых найцяжэйшых умовах, заўсёды астаецца аптымістычным.

У 1927 годзе Гомель увайшоў у склад БССР. Выкладанне ў тэхнікуме дагэтуль вялося на рускай мове, і мы баяліся, што вельмі цяжка будзе вывучыць беларускую мову і літаратуру. Праўду сказаць, дык пабойваўся і я, думаючы, што беларуская мова гэта не тая, на якой я з маленства гаварыў дома, а нейкая іншая, незразумелая. Але мая боязь, мае сумненні адразу ж развеяліся, як толькі прыйшла да нас на першую лекцыю па беларускай літаратуры настаўніца Парыйская. Яна вельмі добра ведала прадмет і чытала з захапленнем. Калі ж Парыйская пачала чытаць нам па памяці вершы Купалы і Коласа, дык не ведаю, як хто, а я быў поўны жадання слухаць і слухаць. Я зразумеў не толькі кожнае слоўца, я глыбока перажываў тое, што пісалі паэты, бо гэта было пра наша жыццё, пра нашыя думкі і спадзяванні. З першай сустрэчы я працяўся нейкай незвычайнай любоўю да нашай выкладчыцы беларускай літаратуры. Ды і не я адзін — большасць нашых студэнтаў. Даволі сказаць, што месяцы праз два мы ўжо амаль усе добра пісалі на літаратурнай беларускай мове.

А мне ўсё карцеў і карцеў зялёны дамок на Кааператыўнай вуліцы. Колькі разоў я памыкаўся зайсці ды пагаварыць хоць з кім-небудзь. Але як толькі прачыняў дзверы рэдакцыйнага калідора, мяне адразу як бы глушыла сарочае стракатанне машынак, бянтэжыла мітусня ў калідоры. Не адважыўшыся зайсці, я з крыўдай вяртаўся ў інтэрнат.

Аднойчы ў тэхнікумаўскай бібліятэцы я разгарнуў «Полесскую правду» і дзіву даўся, на трэцяй паласе

ў правым куточку была надрукавана падборка допісаў на беларускай мове. Быў там змешчаны і сатырычны верш Паўлюка Труса. Мяне пацягнула схадзіць у рэдакцыю і паглядзець, хто там рэдагуе гэты беларускі куток. Улетку дома я дастаў беларускіх кніжак. Чытаў і перачытваў вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Міхася Чарота. Асабліва мне спадабаліся байкі Кандрата Крапівы. Прачытаў я і зборнік вершаў Паўлюка Труса. Яны мне спадабаліся сваёй натуральнай прастатой, меладычнасцю, шчырасцю.

Газету «Новая деревня» я выпісваў праз усе гады. Яшчэ тады, як жыў у вёсцы, у бацькі выкрадаў рубель, а калі не было рубля, дык насыпаў поўныя кішэні збожжа і нёс у Брагін на продаж, выручаў якія там грошы і падпісваўся на газету. З цягам часу нават сам бацька прызвычаіўся і падпісваўся на газету. І вось, калі я быў у вёсцы, прыйшла «Новая деревня» з вершам Паўлюка Труса «І было апошняе тады...». Верш крануў мяне за жывое. Мо пад уплывам яго ў тое лета я і сам пачаў складаць радкі. Гэта былі словы пра смерць маці, пра слёзы сіраты над магільным грудком. Я прачытаў гэты свой верш вясковым хлопцам. Яны здзівіліся, як гэта я, Сабалеўскі хлопец, мог гэтак выдумаць. Бацька таксама прачуў пра мой верш. Я дома звычайна не паказваў таго, што пісаў, хоць гадоў колькі таму назад, калі яшчэ не вучыўся, аднойчы, забраўшыся ў варывеньку, спрабаваў крэмзаць паперу. Бацька ж шукаў-шукаў мяне ехаць на поплаў па сена, нарэшце знайшоў і, выцяўшы нейкім повадам між плеч, закрычаў:

— Я табе пакажу пісарства! А ці не хочаш ты, васпане, касой ці граблямі папісаць?!

Я тады і сам думаў, што касой і граблямі цяжэй пісаць, чым пяром. З таго часу я і не паказваў бацьку таго, што пісаў. Але на гэты раз бацька сам папрасіў прачытаць. І я прачытаў. Аж слёзы пакаціліся ў ста-

рога. Вядома, не таму, што верш быў вельмі ўдалы. Верш быў слабенькі. Бацьку расчуліла тое, што верш быў напісаны пра нябожчыцу маці, якую ён вельмі любіў і, хоць ужо быў жанаты другі раз, ніяк не мог забыць. Бацька тады пагладзіў шорсткай далоняй мяне па галаве і сказаў:

— Пішы, сынку, можа, з цябе і людзі выйдуць.

З тым самым вершам пра маці я і пайшоў у зялёны дамок на Кааператыўнай вуліцы. Дамок быў не вельмі вялікі: трое дзвярэй па правую руку і трое па левую, на кожных шыльдачка. У каторыя зайсці? Мо проста да рэдактара? Пакратаў дзверы — замкнёныя. Падаўся назад і прачыніў дзверы сакратарыята. Там за сталом сядзеў сухапары высокі чалавек. Я спыніўся ў дзвярах, не ведаючы, што казаць і што рабіць.

— Праходзьце, праходзьце, калі ласка,— ішоў мне насустрач чалавек. Адразу ж падсунуў крэсла і прапанаваў: — Сядайце!

А я глядзеў на яго і не ведаў, што мне рабіць: сядаць ці шмаргануць назад. Чалавек быў апрануты ў сіні касцюм з іголачкі, валасы зачасаны на прабор, і мне чамусьці падумалася, што гэты панок не зразумее мяне, а толькі пасмяецца, бо вельмі ж, як мне здалося, ён пільна і іранічна пазглядзеў на маё сялянскае адзенне.

— Сядай, сядай, хлопча. З чым прыйшоў да нас? Можа, якую заметку прынёс?

— Прынёс,— адважыўся я раскрыць рот,— от глядзіце...

Іван Барадзька — гэта быў сакратар рэдакцыі, артыкулы якога я часта чытаў у газеце — узяў з маіх рук выдраны са сшытка лісток паперы, паглядзеў на яго.

— Дык у цябе ж верш? Ды па-беларуску?

— Так, верш, па-беларуску.

— Ты не бойся, што ў нас ніхто не дасць табе

парады. У нас ёсць такі чалавек, які сам кніжкі піша. Чуў, можа, пра Паўлюка Труса?

— Вядома, чуў.

— Ну то і хадзем да яго. Я цябе пазнаёмлю з ім.

Я не тое што здзівіўся гэтай навіне, ■ нават спалохаўся, што мяне гэты таварыш павядзе да Паўлюка Труса. Летам у вёсцы я чытаў і перачытваў ягоныя вершы і, можна сказаць, гэты свой верш напісаў пад уражаннем яго радкоў. А Бародзька ўжо ледзь не цёг за рукаў мяне на другі бок калідора, у вялікі кутні пакой. Там было поўна хлопцаў. Яны курылі, рагаталі, і ў гэтым рогаце выразна чуўся звонкі залівісты голас. Але як толькі ўвайшлі мы, хлопцы адзін па адным разышліся. У пакоі астаўся адзін прысадзісты, з пышнай чупрынай, у сацінетавай, вышыванай васількамі касаваротцы хлопец.

— Паўлюк, вось я табе і паэта маладога прывёў,— сказаў Бародзька.

Ад гэтакага прадстаўлення я пачырванеў як макаў цвет, бо не ведаў, ці Бародзька назваў мяне паэтам на здзек, ці шчыра.

— Добры дзень, хлопча,— павітаўся са мной за руку Трус.— Сядай, сядай,— падсоўваючы мне крэсла, запрасіў.

Я падаў паэту свой верш. Ён прабег яго вачыма, зірнуў на мяне і сказаў:

— Гэта добра, хлопча, што ты па-беларуску спрабуеш пісаць. Трэба нам паэты, асабліва тут, на Гомельшчыне.

Доўга мы сядзелі за сталом. Пакрысе я зусім асмялеў. Паўлюк распытваў, хто я, адкуль родам, што чытаў, як вучуся. Пытаў пра студэнтаў, пра выкладчыкаў. Бачачы Трусаву амаль сялянскую прастату, я развязаў свой язык, расказваў пра ўсё.

— Я, брат, таксама толькі што скончыў тэхнікум

у Мінску. У нас вунь якія выкладчыкі былі. Сам Якуб Колас методыку выкладаў.

— Дык вы бачылі Коласа? — здзівіўся я.

— Не толькі бачыў. Бадай кожны дзень гаварыў з ім.

— Дык мо і Купалу бачылі?

— Вельмі часта.

— А мо і Крапіву?

— З Крапівой мы землякі. З адной вёскі, з Нізка.

Я, па праўдзе сказаць, зайздросціў Паўлюку не толькі таму, што ён піша і друкуе добрыя вершы, а больш таму, што ён знаецца з такімі славутымі пісьменнікамі. Я і глядзеў на Паўлюка з нейкім захапленнем, нават з бояззю. Але прастата Труса, шчырасць неяк неўзаметку рассеялі маю боязь.

— Давай цяпер твой верш прачытаем як мае быць, паглядзім, чаго ён варты.

Сэрца маё аж у пяткі кінулася — а раптам паэт скажа: «Не пераводзь, хлопча, паперы». Аднак Трус не сказаў. Ён узняў на мяне разумныя дапытлівыя вочы, яшчэ з ног да галавы агледзеў маю сялянскую вопратку і, мусіць, прыгадаў, што не так даўно і сам ён вось гэтак жа заходзіў у рэдакцыю і гэтак жа і ў яго калацілася сэрца. Падумаў і сказаў:

— А ведаеш, хлопча, пачуццё ў тваім вершы ёсць. Радкі, праўда, яшчэ шурпатыя. Але галоўнае — каб пачуццё было. Вось зараз возьмем дый выправім.

Паўлюк узяў пяро і адразу пачаў крэсліць верш. Ён крэсліў, а мне здавалася, што рэжа па жывому маю душу. Мала таго што ён пазмяняў асобныя словы, дык цэлыя радкі памяняў. Адну, перадапошнюю, страфу зусім выкінуў. Але я маўчаў, баючыся выказаць хоць бы намёк на пратэст. Перада мной жа быў сапраўдны паэт. Аперацыя цягнулася не больш як паўгадзіны. Нарэшце Трус сказаў:

— От гэтак мы яго і надрукуем у газеце.

Ад здзіўлення ў мяне ледзь вочы на лоб не палезлі: няўжо мой верш будзе ў газеце? Я і не думаў пра гэта. Хацеў адно паказаць яго каму-небудзь з больш дасведчаных людзей, каб хто сказаў, ці варта мне далей пісаць. А тут нá табе — верш мой будзе ў газеце. Ды гэта ж такая радасць, ад якое трэба скакаць. А Паўлюк, бачачы маю ўзрушанасць, мусіць, падумаў, што я злую на яго за праўку.

— Не бядуй, хлопча, мяне яшчэ не так правілі. Ды што мяне — усіх правяць.

— І Купалу? — вырвалася ў мяне.

— Часам і Купалу, калі трэба.

А верш сапраўды пасля таго, як па ім пахадзіла рука Труса, стаў лепшы — рыфма званчэйшая, думка яснейшая.

З рэдакцыі мы выйшлі пазнавата ўжо. На вуліцы паэт зарагатаў сваім звонкім рогатам. Я ніяк не мог зразумець, чаго чалавек рагоча. Азірнуўся навокал — нічога нідзе смешнага не ўгледзеў. Трус, відаць, заўважыў маё неразуменне і паказаў пальцам на другі бок вуліцы:

— Зірні, што напісалі, каб на іх звод.

Я глядзеў і нічога не бачыў, апроч прадаўгаватых шыльдаў, прыбітых паабапал дзвярэй цырульні. На іх былі намаляваны на адной мужчынская, на другой жаночая галовы. Нешта было і напісана, але здалёк у вячэрняй смузе прачытаць нельга было. Трус, мусіць, ужо не адзін раз чытаў напісанае там, і ён мне прачытаў мо па памяці: «Галенне галоў і праўка галякоў».

— Каб вы запрапасціліся, такія беларусы. Гэта ж трэба так вымудраць!

У той час, пасля далучэння Гомельшчыны да Беларусі, пачала праводзіцца беларусізацыя, пачалі мяняць шыльды асабліва ўвішныя прыватнікі, якія заўсёды стараліся трымаць нос па ветры. І вось яны адразу беларусізаваліся: наперакладалі па слоўніку свае

шыльды — і брытвы ў іх сталі галякамі. А на адной краме, дзе прадавалася старая бракаваная мэбля, паявілася такая абвестка: «Прадаецца шлюб мэблі».

— Мо, хлопча, пойдзем ды падсілкуемся? — запрасіў мяне Трус.

— Дзякую, дзякую, я не хачу есці,— пачаў адмаўляцца я.

— Чаго там дзякаваць, я ведаю, на якіх ты прысмаках жывеш. Сам нядаўна быў такі.

Я аднекваўся, адмаўляўся ад запрашэння, давodзіў, што не галодны, што, маўляў, толькі адваліўся ад яды, хоць ужо два дні не браў у рот нічога гарачага. Усё ж Трус настояў на сваім. Падсілкавацца зайшлі ў цэрабкопаўскую сталоўку. І не просты абед елі, а з трох страў. Выпілі нават па чарачцы. Я даўно не еў такога абеду. У студэнцкай сталоўцы, куды я хадзіў цераз дзень, а то і цераз два, кармілі нас не вельмі сытна. Там мы больш налягалі на хлеб з гарчыцай.

Са сталоўкі пайшлі мы да паэта на кватэру. Квартараваў ён у драўляным дамку па вуліцы Песіна. Займаў невялічкі халасцяцкі пакой-баковачку, у якім месціліся жалезны ложак, невялічкі столік і два венскія крэслы. Столік увесь быў завалены кніжкамі, рукапісамі. Вершы паэт пісаў на вузенькіх абрэзках паперы. На адным з іх я прачытаў: «Чырвоныя ружы» (паэма)». Роўненькімі радкамі, прыгожымі круглаватымі літарамі было спісана каля дваццаці такіх лісткоў.

— От упрогся ў паэму. Думаю хутка скончыць і здаць у друк.

— А дзе будзеце друкаваць? — пацікавіўся я.

— Вядома, у «Маладняку».

Я хацеў прачытаць хоць першую старонку, але Паўлюк апярэдзіў мяне і пачаў чытаць сам. Ён, як я пасля даведаўся, наогул любіў чытаць свае вершы людзям. Звычайна чытаў, а сам прыжмураным вокам глядзеў



*Марыя Адамаўна Трус*



*Міхаіл Адамавіч Трус.*
*1939 г.*



*Паўлюк Трус сярод маладнякоўцаў.*
*Першы рад (сядзяць): Я. Падабед,*
*А. Якімовіч, М. Чарот, А. Дудар, Я. Пушча.*
*Другі рад: А. Бабарэка, Н. Чарнушэвіч,*
*П. Трус, А. Вольны, А. Александровіч,*
*К. Чорны.*
*1924 ці 1925 г.*



*Пісьменнікі сярод чырвонаармейцаў 2-й Беларускай дывізіі. Сярэдні рад (трэці, чацвёрты, пяты): А. Вольны, Я. Пушча, П. Трус. Ніжні рад (другі, трэці, пяты, сёмы): У. Дубоўка, А. Гурло, К. Чорны, А. Бабарэка.*
*1926 г.*



*Паўлюк Трус, Яўгенія Пфляўмбаўм,*
*Андрэй Александровіч, Кузьма Чорны.*
*20-я гг.*

на таго, хто яго слухае, мусіць, правяраў, як успрымаецца верш. Голас у яго быў звонкі, я сказаў бы, нейкі нават музыкальны. Чытаў ён трошачкі нараспеў, натхнёна, горача вымаўляў кожнае слова, выразна, з вельмі прыемнай картавінкай:

А з поля вецер легкакрылы
Ўдаль гоніць хмары-караблі.
Там адзінокія магілы
Травою дзікай зараслі,—

а мне здавалася, што маленькі пакойчык напоўніўся музыкай, песнямі.

Далей паэт чытаў мне раздзелы з «Сіраты Алесі». Гэта сапраўды быў вечар паэзіі, якая ўсяго мяне ўзяла ў палон, зачаравала. Мяне вабіла, падкупала народная прастата паэтавага мыслення. Я зайздросціў усяму гэтаму.

Прасядзелі мы ў маленькім пакойчыку аж да паўночы. Я ўжо занепакоіўся: трэба ж ісці дадому. Паэт заўважыў мой непакой. Зірнуў на гадзіннік і сказаў:

— Позна ўжо. Куды ты, хлопча, пойдзеш на край свету ўночы. Начуй у мяне.

Спаць мы ўмасціліся ўдвух на вузенькім ложку і прагаварылі да самага світання. Усё было за тую ноч сказана і пераказана пра літаратурнае жыццё ў Мінску. Трус расказаў мне пра сваё дзяцінства, я яму пра сваё. Як многа было агульнага ў нашым дзяцінстве, у сялянскім побыце! Я расказаў, як рос сіратой, без маці, і гэта, мусіць, яго вельмі ўзрушыла. Расказваў я і пра розныя выпадкі, якія здараліся ў нашай вёсцы.

— От пра гэта пра ўсё, калі мы станем пісьменнікамі, і трэба пісаць. Трэба паказваць побыт, звычаі, характары нашых людзей. З такіх бытавых дробязей складаецца вялікая літаратура народа,— узнёсла гаварыў Трус.— Я от калі ўсё будзе добра, дык вазьмуся і за прозу.

Мяне здзівіла, што Трус сказаў «калі станем пісьменнікамі», і я выказаў сваё:

— Дык вы ж пісьменнік ужо.

— Не, хлопча, гэта яшчэ не пісьменнік. Гэта яшчэ спроба пяра. Мне хочацца, і я буду пісаць усё: вершы, паэмы, апавяданні, раманы, але пакуль на ўсё яшчэ не стае ўмельства. Вучыцца трэба,— выказаў Трус свой намер, а потым як бы спахапіўся: — Дык чаго гэта ты са мной на «вы» гаворыш? Хіба я не такі вясковы хлопец, як ты? Хіба толькі што з шарачка вылузаўся, дык мо думаеш, панком стаў? Не, брат, я быў і застаўся мужычым сынам. Так што гавары са мной на «ты».

А ў мяне язык не паварочваўся сказаць на яго «ты».

З тае ночы, як пераначавалі ў Паўлюковым маленькім пакойчыку, мы моцна пасябравалі. Як толькі ў мяне выпадала вольная часіна, я бег у рэдакцыю. Акрылены тым, што верш «Маці» быў надрукаваны ў «Полесской правде», я бесперапынку пісаў вершы. Не ўсе паказваў Паўлюку, некаторыя проста выкідаў, але ўсё ж пісаў. Я не мог не пісаць — гэткае ў мяне было вялікае жаданне стаць паэтам. Студэнты тэхнікума пачалі глядзець на мяне як на нейкага дзівака. Я каторы ўжо раз расказваў і пераказваў пра сваё сяброўства з сапраўдным паэтам. Яны трошачкі нават зайздросцілі мне. Прасілі, каб я і іх як-небудзь пазнаёміў з Трусам. Гэтакі выпадак і здарыўся. Выкладчыца беларускай літаратуры Парыйская неяк пасля лекцый затрымала мяне:

— Я чула, ты з Паўлюком Трусам знаешся?

— Так, знаюся. Які ён просты, добры чалавек,— выказаў я недарэчы сваё захапленне.

— Дык вось што, хлопча, запрасі яго ў тэхнікум на літаратурны вечар. Няхай усе студэнты паслухаюць яго вершы.

— Добра, абавязкова запрашу.

Паўлюка не доўга трэба было запрашаць. Ён любіў выступаць перад людзьмі, асабліва перад моладдзю. Калі выходзіў на сцэну, увесь ён быў адухоўлены, узрушаны.

Вялізная круглая зала, дзе калісці госці князя Паскевіча вытанцоўвалі мазуркі, поўна была студэнтаў — учарашніх вясковых хлопцаў і дзяўчат. Яны прыйшлі паслухаць свайго паэта. Мы з Паўлюком былі за кулісамі. Трус, мусіць, каб яму аднаму было не сумна выступаць, угаварыў і мяне прачытаць свой верш «Маці». Я спачатку адбіваўся: страшнавата было выходзіць на вочы стольніх людзей.

Паўлюк быў у беларускім касцюме: шэрыя навыпуск штаны, вышываная беларускім узорам палатняная кашуля, падперазаная саматканым поясам. Чупрына ў яго была пышная, хвалістая. Сам ён каранасты, твар добразычлівы, з заўсёдашняй іскрынкай усмешкі ў вялікіх сініх вачах.

Як толькі Паўлюк выйшаў да трыбуны, уся грамада моладзі прыціхла. Чуваць быў толькі прыглушаны шэпт дзяўчат. Паліліся вершы, як песня. Яны, здавалася, журчалі, як той вясновы гаманлівы ручай. Паэт чытаў і чытаў. Ён прачытаў ужо амаль усю паэму «Чырвоныя ружы», а яго ўсё не пускалі са сцэны. Я стаяў за бакавінай сцэны і, здавалася, не слухаў, ■ ўдыхаў у сябе музыку верша.

Я быў гэтак зачараваны трусаўскім вершам, што нават не пачуў, калі абвясцілі:

— А зараз перад вамі выступіць наш тэхнікумаўскі паэт Раман Сабаленка.

Узрушаны незвычайным поспехам, Паўлюк падбег да мяне і штурхануў.

— Раман, ідзі на сцэну.

Не памятаю, як я выбег на тую сцэну. Перад вачыма рука трымала выразаны з газеты тэкст верша, але ці то ад узрушанасці, ці таму, што верш быў набраны

петытам, вочы не бачылі ні радка. Нейкі момант я стаяў моўчкі, не мог вымавіць і слова. Па зале прашугаў смяшок, і ён абудзіў. Вочы ўгледзелі першую страфу, я прачытаў яе. Але прачытаў, мусіць, так ціха, што ніхто нічога не пачуў. Заляскалі ў далоні.

— На ўвесь голас давай, Раман! — крычалі хлопцы з нашага курса.

Нарэшце я ўсё-такі саўладаў з узрушанасцю і пачаў чытаць так, што ўжо ўсім чутно было.

Увосень і зімой мы з Паўлюком сустракаліся радзей: многа было вучэбнага клопату і не выпадала часта заходзіць у рэдакцыю. Затое Паўлюк сяды-тады пасля таго вечара наведваў наш тэхнікум. Ён пазнаёміўся з тэхнікумаўскімі хлопцамі і дзяўчатамі і, здавалася, ужо быў не выпадковы наведвальнік, а свой чалавек. Паўлюк быў вельмі таварыскі. Ён адразу знаходзіў агульную гаворку і праз якую гадзіну, здавалася, быў ужо даўні сябра таго, з кім упершыню сустрэўся.

Аднаго разу Паўлюк прыбег да мяне ў інтэрнат усхваляваны.

— Раман, заўтра паедзем у Рэчыцу,— сказаў ён гэтак, быццам быў ужо ўпэўнены, што я згодны.

— Чаго?

— Будзем выступаць у школе. Там мае сябры настаўнікамі працуюць, дык запрашаюць выступіць перад вучнямі.

— То ж цябе запрашаюць, а я чаго паеду? Дый...— я зірнуў на свае шарачковыя штаны, на саматканы вясковы пінжачок. Паўлюк, мусіць, зразумеў маю думку: маўляў, гэтак адзеўшыся, толькі адно ў запечку і сядзець, а не на людзі ехаць. У нашым тэхнікуме мяне звыклі бачыць у такім убранні, а як у ім «паэту» паказацца перад незнаёмымі? Я гэтага Паўлюку не сказаў, але ён, мабыць, сам зразумеў. Сказаў я іншае: у мяне ж яшчэ і вершаў няма такіх, каб чытаць на

людзях. Не буду ж я чытаць перад усімі адзін і той жа верш «Маці».

— Чаму адзін? Прачытаеш той, што паслаў у «Маладняк». От пабачыш, яго там надрукуюць.

Паўлюк на момант задумаўся, а потым сказаў такое, ад чаго мой твар заліўся чырванню:

— Ведаеш, Рамане, мне ўчора прыслалі ганарар з выдавецтва. Дык заўтра пойдзем на рынак і купім табе які касцюм. А потым, як заробіш, дык аддасі мне.

Смешна было слухаць, што я дзе зараблю таго ганарару, а калі дзе які рубель і зараблю, дык мне ж не да касцюма, бо я кожны дзень хаджу надгаладзь.

Але, як я ні адмаўляўся, на другі дзень, а гэта было акурат у пятніцу, прыйшоў Паўлюк у інтэрнат і амаль сілком павалок мяне на рынак.

На рынку за людзьмі не было як прабіцца. Паміж радамі рундукоў сюд-туд тапталіся людзі, прапаноўваючы і расхвальваючы кожны свой немудрашчы тавар.

Хадзілі мы паміж гэтага чалавечага тлуму не вельмі доўга, бо тое, чаго шукалі, трапілася на вочы хутка.

— Колькі каштуе без запросу? — мацаў Паўлюк цёмна-шэры ў белую палосачку суконны касцюм.

— Сорак рублёў, як аддаць.

— Дарагавата, чалавеча.

— Памерайце, можа, і сыдземся ў цане.

Паўлюк міргнуў мне, каб я скідаў сваю саматканую адзежыну і памераў сапраўдны суконны пінжак. Я надзеў.

— Бач, як уліты, як на вашага брата шыты,— хваліў свой тавар прадавец.

Пінжак сапраўды сядзеў на мне як уліты. Можа, таму, што я яшчэ ніколі не насіў крамнай адзежы, мне здавалася, што касцюм сапраўды такі, якога свет не бачыў. У цане сыходзіліся не вельмі доўга: прадавец скінуў пяцёрку, і за трыццаць пяць руб-

лёў я трымаў у руках упершыню ў сваім жыцці набыты гарадскі касцюм. Па тым часе цана трыццаць пяць рублёў была немалая.

А на змярканні ў суботу мы ўжо выходзілі з вагона на перон рэчыцкага вакзала. Сустракалі нас Паўлюковы сябры, маладыя настаўнікі Дунько і Саладуха. На рамізніку з вакзала паехалі ў школу, дзе ўжо чакала нас шматлікая аўдыторыя. Адразу выйшлі на сцэну. Мы з Паўлюком, як госці, селі за сталом пасярэдзіне, і вучні доўга пляскалі ў далоні. Дунько абвясціў, што перад вучнямі выступіць вядомы беларускі паэт Паўлюк Трус. Відаць, імя Труса ўжо тут было вядома, бо вельмі ж бурныя былі воплескі. Паўлюк падышоў да трыбуны, усміхнуўся сваёй мілай усмешкай, страсянуў чупрынай і пачаў чытаць:

Алеся, бедная Алеся,
Краса наднёманскіх дзяўчат!
Ты сінь азёрнага Палесся
Адбіла ў сонечных вачах...

Лілася і лілася, як салаўіная, Паўлюкова песня, і хоць тыя раздзелы, якія ён чытаў перад вучнямі, я ўжо не раз сам чытаў і перачытваў у рукапісе, мне здавалася, што паэт чытаў не па напісанаму, а што ён імправізаваў, што песня лілася з ягоных грудзей. Усё гэта зачароўвала не толькі мяне, але і тых юнакоў і дзяўчат, якія мо ўпершыню бачылі перад сабой жывога паэта. Узрушаны і натхнёны, я сядзеў як на іголках і чакаў сваёй чаргі, баяўся, каб хоць не збіцца, не праглынуць, як тады ў тэхнікуме, голасу. Я гэтак уруліўся ў свой клопат, што ледзь пачуў, калі Дунько абвясціў:

— А зараз перад вамі выступіць пачынаючы паэт...— і назваў маё імя.

Я страпянуўся, нібы мяне от толькі што абудзілі з глыбокага сну. Хуценька кінуўся да трыбуны. Доўга шукаў у патайной кішэні выразку з вершам «Маці».

Па зале прайшоў ужо шумок. А я ніяк не мог асвоіць кішэнь новага пінжака. Нарэшце-такі перад вачыма ляжала выразка і вузкі абрэзак паперы з радкамі таго верша, які я, паслухаўшыся Паўлюка, паслаў у «Маладняк».

На гэты раз голас у мяне не прапаў. Але першы верш я прачытаў неяк вельмі хуценька, і наўрад ці хто разбіраў, што я чытаў. Паўлюк, які адразу пасля чытання сеў ад краю стала, бліжэй да трыбуны, шаптаў мне:

— Чытай павольней! Чытай павольней!

Другі верш я пачаў чытаць больш павольна і выразна:

У зацішку вецер не шаволіць,
У зацішку вечна цішыня.
Прамяняў ілёнае я поле,
На асфальт і муры прамяняў.

А потым зноў чытаў Паўлюк.

З Рэчыцы мы вярнуліся ў нядзелю ўвечары. І я ў новым гарнітуры абхадзіў усе хлапечыя пакоі інтэрната, каб паказацца, які я.

Набліжаліся зімовыя вакацыі. Я даўно ўжо ўзяў сабе ў галаву клопат: выпрасіць у мачыхі локцяў якіх з пяць кужэльнага палатна, намаляваць такі ўзор, як на Паўлюковай вышыванай кашулі, і самому вышыць. А ўзор я той запомніў да кожнай рысачкі. Мачыха мне паказала, як вышываць па канве. Вясковыя дзяўчаты і хлопцы дык аж здзівіліся: як гэта хлопец ды вышываць будзе. Мо гэта ў горадзе мода такая пайшла? Крукам сядзеў я ўсе вакацыі, вышываючы крыжык за крыжыкам. Нібы незнарок у хату заходзілі маладзіцы і дзяўчаты, а я здагадваўся, што яны вельмі цікавяцца маім вышываннем. Пагаворыць каторая з мачыхай, з бацькам, а потым падыдзе да мяне, возьме пальцамі краёк вышывання і разглядае.

— Ды глядзі бо, як ты добра крыжыкі кладзеш, нібы тая дзеўка, што век свой вышывае. Ды іголка ж як спрытна ходзіць па канве. От не кажы ты, і дзявочай рабоце ў горадзе навучыўся...

За два тыдні вакацый кашуля была вышыта. Я выпрасіў у мачыхі яшчэ і акрайку, вытканую на ўзор слуцкага пояса, прырабіў да яе кутасікі, і выйшла добрая падпяразанка. У Гомель з дому я паехаў з амаль такой жа, як у Паўлюка, кашуляй-вышыванкай у запасе. Надыдзе вясна, дык мы пафарсім ужо.

І от вясна. У выходны дзень яшчэ зранку я надзеў сваю вышыванку і пайшоў да Паўлюка. Той аж здзівіўся маёй абнове. Яму, мусіць, прыемна было, што я стараюся быць падобным на яго не толькі ў вершах, але нават і ў адзенні. А ў вершах, якіх пад той час я пісаў ужо нямала, як бы ні стараўся быць самім сабой, усё роўна не мог адбіцца ад трусаўскіх інтанацый. Ды хіба я адзін такі быў? У нашым тэхнікуме хто б ні пісаў вершы, дык усе пад Труса. Гэта і зразумела: яго паэзія ішла ад народнай песні, ад лепшых узораў рускай і ўкраінскай класічнай паэзіі, ад Купалы і Коласа, творчасць якіх таксама была ўзгадавана фальклорам. І хоць на першым часе ў вершах Паўлюка ў пэўнай меры было пераймание класічных узораў і лепшага з сучаснай яму паэзіі — гэта заканамерна. Паэт, вучачыся на гэтых узорах, працярэбліваў сваю дарогу. Узорам такой паэзіі і стала яго найлепшая, найцудоўнейшая песня — гімны жыццю, паэма «Дзесяты падмурак», дзе трусаўская лірычная інтанацыя спалучалася з высокім грамадзянскім пафасам.

Паўлюк Трус любіў жыццё ва ўсіх яго праявах.

Мне хочацца расказаць пра адзін выпадак. Тады, калі я ў новай вышыванцы прыйшоў да Паўлюка на

вуліцу Песіна, мы не доўга затрымаліся ў хаце. У гомельскай моладзі ў той час была завядзёнка — у нядзельку выходзіць на шпацыр па Савецкай вуліцы. Выйшлі і мы. Абодва ў аднолькавых вышыванках, падпяразаных саматканымі паясамі. На нас усе звярнулі ўвагу: адкуль такія ўзяліся? А мы з гонарам ішлі па вуліцы: маўляў, паглядзіце, якія мы, вясковыя хлопцы, чаго мы варты! Гэтак мы дашпацыравалі да парку і там хадзілі па кручы Сожа. Раптам Паўлюк агледзеў за Сожам, на прагаліне, якая аддзяляе Нова-Беліцу ад Гомеля, цыганскія шатры.

— Пойдзем! — аж загарэліся Паўлюковы вочы.

— Куды?

— Да цыганоў у табар. Нашаму брату трэба ўсё ведаць, трэба ўсё бачыць сваімі вачыма.

І от мы, перайшоўшы новабеліцкі мост, спускаемся з насыпу на луг і цалюем наўпрасткі да белых цыганскіх шатроў, што размясціліся непадалёк ад невялічкай вёскі Якубоўка. Пасвяцца спутаныя коні, трапляюцца насустрач цыганкі і цыганяты, мусіць, спяшаюцца ў горад на раздабыткі. На нас ніхто не звяртае ўвагі.

Але вось, мусіць, з шатроў заўважылі, што мы не збіраемся мінаць табар. Насустрач нам выйшаў стары цыган з густой і чорнай, як сопуха, барадой, з завушніцай.

— Куды, баце, дарогу торыце? — спытаў ён у нас па-беларуску.

— Да вас у госці думаем. Сёння ж сёмуха, дык трэба ж каму-небудзь і вас адведаць,— жартуем мы.

— Калі ласка, калі ласка,— шырокім жэстам гасціннага гаспадара запрашае нас стары цыган,— у нашых хатах дзверы ніколі не замыкаюцца для добрых людзей.

Мы з Паўлюком аказаліся тымі «добрымі людзьмі», для якіх заўсёды расчынены насцеж дзверы цы-

ганскіх шатроў. Адразу ж нас абступілі цыганы і цыганкі.

Стары цыган з завушніцай быў, відаць, важак табара: ён усё паказваў, расказваў. Калі ж даведаўся, хто мы такія і чаго прыйшлі, дык аж здзівіўся: як гэта да іх, да цыганоў, прыйшоў паэт. А Паўлюк усё распытваў пра цыганскія песні, пра варажбу. Неўзаметку нам прынеслі нейкія адмысловыя зэдлікі і прапанавалі сесці. Затрымкала гітара, а неўзабаве загарэўся і касцёр. Надвячоркам у табар вярнуліся з горада ўсе цыганы і цыганкі і пайшло гульбішча: цыганяты танцавалі, цыганкі спявалі песні, варажылі нам. Цыган з завушніцай расказаў, як ён яшчэ калісь пры старым рэжыме ў нейкага пана на Палессі ўкраў парку стаеннікаў і прадаў за добрую цану аж у Чарнігаве. А стаеннікі былі не звычайныя, а найлепшыя, якіх пан запрагаў цугам.

— Два месяцы, бацю, прыглядаўся, прымяраўся да іх, і ўсё ж такі яны не мінулі маіх рук.

Пры гэтым цыган расказваў усё так, што паказваў сябе не як злодзея-канакрада, а як змагара за справядлівасць.

Стары цыган папрасіў і нас расказаць што-кольвек. Паўлюк устаў з зэдліка і пачаў чытаць:

Гарыць агонь... На свежым сене
Сядзяць маўкліва цыганы...
Ў вачах адбітак задумення,
Аб нечым думаюць яны.
. . . . . . . . . . . . . . . .

А там, за табарам, у змроку
Мільгае постаць цыгана,
Ў тумане сінім недалёка
Звініць мінорная струна.

Цыгане разумелі нашу мову ва ўсіх яе драбніцах і, калі Паўлюк сціх, прасілі чытаць яшчэ і яшчэ. Але было ўжо не рана, і мы строіліся ісці дадому. Пра-

водзіць нас пайшло паўтабара і правялі да самага горада, каб, бронь божа, ніхто нас не пакрыўдзіў.

Ужо на Пралетарскай вуліцы, калі мы асталіся ўдвух, Паўлюк мне сказаў:

— От каб цяпер я пісаў сваю «Цыганку», дык пэўне, што напісаў бы лепш. Але я, мусіць, яшчэ да яе вярнуся. Пісьменнік, брат, павінен быць як тая губка — усё ўбіраць у сябе, усё, што толькі бачыць і чуе. З гэтага складаецца жыццёвы вопыт, народная мудрасць.

І Паўлюк стараўся ведаць усё. Я расказваў яму ўсе цікавыя гісторыі з жыцця нашай вёскі. Паўлюк расказаў мне ўсё, што ведаў з жыцця нізкоўскіх сялян. Трусу вельмі хацелася пабыць у маёй вёсцы, і мы дамовіліся, што ў час летніх вакацый Паўлюк на колькі часу пад'едзе на Брагіншчыну да мяне ў госці.

Гэтак у чэрвені 1928 года мы і развіталіся: я паехаў да бацькоў, а Паўлюк астаўся ў Гомелі. Я расказаў дома, што да мяне павінен прыехаць такі госць, і ўсе чакалі з нецярплівасцю. Але колькі я ні напамінаў лістамі Паўлюку, каб хутчэй ехаў, ён адказваў, што вельмі заняты творчай работай і справамі рэдакцыі. Тады Паўлюк працягваў пісаць «Сірату Алесю» і ўжо выношваў задуму сваёй лебядзінай песні — «Дзесятага падмурка». Пра гэта ён паведамляў мне ў лісце. Паўлюковы лісты былі вельмі цікавыя: у іх ён раскрываўся ўвесь, як на далоні,— выказваў сваё захапленне, гнеў і радасць. На вялікі жаль, лісты, якія я бярог як найкаштоўнейшы скарб, у першыя дні вайны згарэлі разам з многімі рукапісамі маіх вершаў.

Паўлюк любіў жыццё, любіў людзей, сыходзіўся з імі вельмі лёгка і шчыра, да некаторай ступені нават ідэалізаваў усіх людзей. Мне прыгадваецца, як у адным з лістоў ён пісаў, што паехаў у камандзіроўку ў Буда-кашалёўскі раён. Там паэт сустрэўся з мала-

дой настаўніцай і гэтак захапіўся ёю, што апісваў яе, як нейкую казачную царэўну. Наогул Паўлюку была ўласціва добрая рамантызацыя ўсяго навакольнага, ён быў улюбёны ва ўсё: у цудоўныя беларускія краявіды, у квецень вішань, у серабрыстую хуткаплыннасць рэчак, у ключы дзікіх гусей і журавоў, і ўсё гэта неяк арганічна ўваходзіла ў яго творы.

Вярнуўшыся з летніх вакацый, я не застаў Паўлюка ў Гомелі. Ён паехаў паступаць у Беларускі дзяржаўны універсітэт. Я пільна сачыў за ўсім тым, што друкаваў Паўлюк. У дванаццатым нумары часопіса «Маладняк» за 1928 год я прачытаў паэму «Дзесяты падмурак». Гэта была сапраўды песня сацыялістычнаму будаўніцтву, услаўленне будучыні нашай рэспублікі. І нездарма радкі з гэтай пaмы, як дакумент, увайшлі ў даклад Я. Гамарніка на XII з'ездзе бальшавікоў рэспублікі. Яны былі прадыктаваны сэрцу паэта тымі задачамі, якія ставіла перад народам партыя. Больш таго, яны былі скіраваны ў будучыню і дайшлі да нас праз дзесяцігоддзі, як паэтычная эстафета, як запавет.

Апошні раз мне давялося сустрэцца з паэтам пад восень 1929 года ў Мінску. Скончыўшы ў чэрвені Гомельскі педагагічны тэхнікум, я паступіў працаваць у рэдакцыю газеты «Звязда». Прыехаўшы ў Мінск, я колькі разоў хадзіў у Дом пісьменніка, быў нават на кватэры ў Паўлюка ў надзеі, што сустрэну яго. Але Паўлюка не было ў Мінску: ён паехаў быў у творчую камандзіроўку на Магілёўшчыну, і вось аднойчы, ідучы з работы дадому, на рагу цяперашніх вуліц Кірава і Ленінскай я сустрэў Труса. Ён быў апрануты ў скураную тужурку, хоць было яшчэ не вельмі холадна. Твар яго быў спахмурнелы, учарнелы. Я адразу заўважыў: з ім нешта нядобрае.

— Што такое, Паўлюк? Табе баліць што? — спалохана запытаў я.

— Ды от прыехаў з камандзіроўкі і дрэнна сябе адчуваю. Думаю ў бальніцу схадзіць.

Я правёў Паўлюка кварталы са два і развітаўся з ім. Неяк так здарылася, што я на доўгі час паехаў з Мінска па рэдакцыйных справах і ўжо на Барысаўшчыне даведаўся, што Паўлюка не стала. Недарэчная хвароба — брушны тыфус — падкасіла дужага, маладога, заўсёды жыццярадаснага чалавека, які гэтак любіў жыццё, чыя песня пачынала толькі звінець на ўсю звонкую сілу, хто збіраўся руплівай нястомнай хадою ісці ў новае жыццё. Ён не дайшоў. Дайшла толькі ягоная песня.

З Барысаўшчыны я паспяшаўся ў Мінск, каб сказаць паэту, грамадзяніну, шчыраму другу апошняе сваё «бывай». Але я спазніўся. Паўлюка пахавалі на могілках па Даўгабродскай вуліцы. Я пайшоў на свежы надмагільны грудок, пакланіўся светлай памяці паэта,ураніў слязу на халодны жвір вельмі дарагой мне магілы.

І от ляжыць перада мной стары паэтычны зборнік «Ветры буйныя». Ён пабываў, відаць, у многіх руках. На палях старонак я прачытаў шмат заўваг: там было захапленне трусаўскімі радкамі. Але сярод іх я знайшоў заўвагі і нечай халоднай душы. Насупраць радкоў, у якіх паэт са ўсёй шчырасцю выказваў сваю любоў да роднай Беларусі, алоўкам адзначана: «нацыяналізм», а насупраць некаторых — «вясковая абмежаванасць», а часам і «ідэалізацыя мінуўшчыны». Нейкі халодны рамеснік, відаць, хацеў раскласці паэта па полках і абвінаваціць у сямі смяротных грахах. Дзе яму было зразумець, што паэт ішоў у вялікім паходзе ў будучыню, што ўсе яго мары, усе

парыванні ягонага сэрца былі скіраваны ў нашу сацыялістычную яву! Ён чулым сэрцам услухоўваўся ў музыку турбін, ён прадбачыў і прадчуваў камсамольскай душой нашу гераічную будучыню, і гэта зрабіла яго паэзію, няхай яшчэ не ва ўсім дасканалую, няхай часам рытарычную, спадарожніцай пакаленняў, з якімі яна прайшла ў наш час. А гэта вялікая годнасць паэта і грамадзяніна.

*1959*

*Павел Пруднікаў*

---

## Успамін на ўсё жыццё

Я не памылюся, калі скажу, што 20-я гады XX стагоддзя для беларускай літаратуры з'явіліся такім узлётам, якога яна да гэтага часу не ведала. Гэта гады спачатку і станаўлення той магутнай беларускай савецкай літаратуры, якую мы маем сёння. Каму невядомы імёны такіх першапраходцаў яе, як Міхась Чарот і Андрэй Александровіч, Кузьма Чорны і Міхась Зарэцкі, Уладзімір Дубоўка і Язэп Пушча, Алесь Дудар і Платон Галавач, Пятрусь Броўка і Пятро Глебка, Рыгор Мурашка і Тодар Кляшторны... І не падобны на ўсіх пералічаных, са сваім уласным голасам, са сваёй лірай-песняй незабыўны Паўлюк Трус.

Здаецца, ніхто з беларускіх паэтаў не мог так крануць душы чытачоў, як гэты юны паэт-песеннік. Я не баюся называць так Паўлюка Труса. Няхай сабе не ўсё тое, што напісана паэтам, пакладзена на музыку, але ўся яго творчасць — песня. Хто не ведае радкі з яго паэмы «Дзесяты падмурак», якая даўно ўжо стала хрэстаматыйнай.

> Падаюць сняжынкі —
> дыяменты-росы,
> Падаюць бялюткі
> за маім акном...
> . . . . . . . . . . . . . .
>
> Дзесьці у прасторах
> празвінелі бомы.
> Дацвілі пялёсткі
> нейчае тугі...

Колькі шчырасці і душэўнай цеплыні ў гэтых радках! Якая задуменнасць і паэтычная ўзнёсласць! Як жа не захапляцца імі!

Скажу шчыра: Паўлюк Трус адзін з тых песняроў, што прымусілі мяне яшчэ ў падлеткавым узросце ўзяцца за пяро. Я вучыўся яшчэ ў пачатковай школе, калі прачытаў яго верш «Не заспі,— пабудзі мяне рана». Верш па сваім памеры вялікі, але я «дабравольна» вывучыў увесь яго на памяць. На ўсё жыццё засталося ў маёй памяці:

Не заспі,—
пабудзі мяне рана,
о!.. мая
дарагая матуля!..
Дзе дарогі
бягуць за курганам,
пойдзем зелле
збіраць мы на Яна...
Толькі ты
пабудзі мяне рана...

Як я даведаўся пасля, верш гэты быў напісаны не без уплыву Сяргея Ясеніна, але ж у ім ёсць нешта сваё, беларускае.

Калі ж да мяне прыйшло юнацтва, а разам з ім і каханне, маё сэрца не маглі не крануць такія словы:

Скажы мне, любая, скажы,
Нашто таіць ў душы дакоры?
Калі так ясна свецяць зоры,
Не скардзься ім, а мне скажы.

А калі ўжо я і сам не мог пражыць ні аднаго дня без паэзіі, мяне хвалявалі такія радкі паэта:

Ізноў я там,
Дзе пад акном тры клёны
Маністы-наміткі
Схілілі на карніз,

Дзе я ў самотнасці,
Пад шум вясны зялёнай,
У смутку й радасці
Правёў дзяцінства дні.

Зборнік вершаў Паўлюка Труса «Ветры буйныя»

доўгі час быў маёй настольнай кнігай. Я вывучыў яе амаль усю на памяць і, прызнаюся, стараўся падражаць паэту ў сваіх першых паэтычных спробах.

Запаветнай маёй марай было ўбачыць жывога аўтара гэтай кнігі. Толькі як і дзе? Я ведаў, што Паўлюк Трус жыве ў Мінску, а я, акрамя мястэчка Мілаславічы, дзе вучыўся ў сямігодцы, ды свайго райцэнтра Клімавічы, нідзе не быў. Але я цярпліва чакаў такога выпадку і спадзяваўся. Збылося гэта зусім нечакана для мяне.

Недзе ў жніўні 1929 г. я разам са сваім стрыечным братам, таксама пачынаючым паэтам Алесем Прудніковым, прыйшоў у клімавіцкую раённую кнігарню па чарговыя навінкі мастацкай літаратуры. У магазіне было некалькі пакупнікоў, з якіх кожны разглядаў патрэбныя яму кнігі. Але нашу ўвагу прыцягнуў да сябе незнаёмы чалавек. Ён пільна разглядаў кожную паэтычную кніжку, асабліва на беларускай мове, пытаўся ў прадаўцоў пра тыя паэтычныя кніжкі, якія былі ўжо нам знаёмыя, і пра тыя, якіх мы яшчэ не бачылі. І калі ён спытаў пра зборнік «Ветры буйныя», мы яшчэ больш пільна пачалі да яго прыглядацца. Мы здагадаліся, што гэта чалавек нетутэйшы і што ён мае нейкае дачыненне да мастацкага слова. Адным словам, нам падумалася, што гэта нейкі выкладчык беларускай мовы і літаратуры сярэдняй школы ці нават педтэхнікума. Адна з прадаўшчыц, якая ўжо добра ведала нас як актыўных наведвальнікаў кнігарні і як пачынаючых паэтаў, убачыўшы, што мы пільна сочым за незнаёмым, паклікала нас да сябе і ціхенька сказала:

— Вы ведаеце гэтага маладога чалавека?

— Не, не ведаем. А што? — пытаемся.

— Гэта паэт з Мінска — Паўлюк Трус,— сказала яна.— Калі хочаце, я вас пазнаёмлю з ім.

— Не, што вы, не трэба! — у адзін голас загаварылі мы.— Хопіць з нас і таго, што мы паглядзім на

яго.— І, баючыся, каб гэта дзяўчына не нарабіла такога «глупства», мы хуценька выйшлі з магазіна.

Праз нейкі час, спадзеючыся, што «мінскага паэта» няма ўжо ў кнігарні, мы зноў скіравалі туды, каб купіць неабходныя кніжкі, за якімі мы ішлі туды цэлых 25 кіламетраў. Але не паспелі мы адчыніць дзверы кнігарні, як тая ж прадаўшчыца, звяртаючыся да нашага любімага паэта, адрапартавала:

— Вось яны,нашы маладыя паэты, пра якіх я толькі што вам гаварыла. Гэта браты Пруднікавы.

— Дык што, хлопцы, вершы пішаце? — спытаў ён у нас.

— Спрабуем,— сказалі мы нясмела.

— Мабыць, і друкуецеся дзе-нідзе?

— У школьнай насценнай газеце і зрэдку ў раёнцы.

— Тады будзем знаёмы, Паўлюк Трус. Чулі такога?

— Не толькі чулі, але і кніжкі вашы маем,— адказалі мы з радасцю і нейкім гонарам.

— Можа, з сабою што маеце з напісанага вамі і пакажаце мне? — добразычліва спытаў ён.

— На жаль, не. Каб ведалі, захапілі б і паказалі вам.

— Тады, хлопцы, дамовімся так. Сёння і вы, і я адпраўляемся дадому: вы ў сваю вёску, а я ў Мінск. Дык вось, як прыйдзеце і адпачнеце, адразу ж, каб не забыць, перапішыце па некалькі сваіх вершаў і прышліце мне.

— А на які адрас пасылаць? — спытаў я.

— Адрас такі: Мінск, вул. Савецкая, 68, Дом пісьменніка, Паўлюку Трусу.

Ён распытваў нас, у якой школе і ў якім класе мы вучымся, хто выкладае ў нас родную мову і літаратуру, ці ёсць у школе літгурток і ці наведваем мы яго, хто кіруе літгуртком. Пасля ўсяго гэтага папрасіў прадаўшчыцу даць яму два экземпляры зборніка «Вет-

ры буйныя», расплаціўся, паставіў на іх свой аўтограф і кажа:

— Гэта вам, хлопцы, у знак нашага знаёмства. Можа, калі-небудзь і вы падпішаце мне свае кніжкі.

Ад такой нечаканасці мы проста анямелі, акрамя слова «дзякуем», нічога не маглі вымавіць. Мы глядзелі на яго — жывога паэта і не верылі сваім вачам, што гэта той самы паэт, вершамі якога мы так захапляліся. А ён стаяў і глядзеў на нас з такой добразычлівай усмешкай.

Гэта быў невысокага росту, каранасты, моцна скроены, кучаравы і сінявокі юнак. Ён быў апрануты ў светла-шэры касцюм, пад якім красавалася белая кашуля, вышытая беларускім арнаментам. Такім ён і застаўся ў маёй памяці на ўсё жыццё — вясёлым, светлым, добразычлівым і жыццярадасным.

Як і дамовіліся, мы з Алесем паслалі на імя Паўлюка Труса па цэламу сшытку сваіх вершаў, але марам нашым не давялося здзейсніцца... Здарылася тое, чаго ніхто не чакаў... Праз колькі дзён пасля такой цёплай нашай сустрэчы ў клімавіцкай кнігарні да нас дайшла жалобная вестка. Ён у час гэтай сваёй апошняй камандзіроўкі ў наш раён недзе прастудзіўся, цяжка захварэў і раптоўна памёр, ледзь паспеўшы дабрацца да мінскай бальніцы.

Як жа мы шкадавалі, як горка плакалі, калі даведаліся пра гэта!.. Пасля мы прысвяцілі яму не адзін вершаваны радок. Нам усё яшчэ не верылася, што яго няма ў жывых.

Калі ж у хуткім часе пасля гэтага я прачытаў у «Маладняку» яго новую паэму «Дзесяты падмурак», асабліва такія яе радкі:

Разышліся пад гарою
тры дарогі ў полі,
па якой жа тая доля,
па якой — нядоля...

Па якой жа —
тое шчасце,
а ці ліха-гора
мяне стрэне на чужыне,
стрэне й пагаворыць...—

я проста заплакаў наўзрыд. Мне здалося, што гэта напісаў паэт пра сябе, пра мяне, пра нашу сустрэчу і расстанне...

Творчасць Паўлюка Труса — гэта ўзор нашай маладой беларускай паэзіі, на прыкладзе якой выхоўвалася і выхоўваецца не адно пакаленне нашай літаратурнай моладзі. Гэта паэзія маладога сэрца і палымянай душы. Ён быў і застаецца для нас, яго нашчадкаў, назаўсёды маладым.

*1988*

## Смерць
## [Паўлюк Трус]

*I/IX*

Стары Трус і яго Марылька складалі аўсяныя снапы на таку.

Ён быў на тарпе і моўчкі складаў, лічачы, колькі будзе тых снапоў з гэтага возу.

Яна патрошку кідала яму снапы на тарпу, каб не дужа замарыць старога бацьку.

І думала: каб мог Паўлюк пабыць удому яшчэ хоць трошку, хутчэй бы ўправіліся з работаю.

Але ж мусіў ехаць Паўлюк у Мінск, бо ўжо пачыналіся заняткі ў універсітэце, і казаў яшчэ, што мае гэтым часам падрыхтаваць у друк свой новы зборнік вершаў.

Мала й пабываў ён сёлета ў іх. А за той кароткі тэрмін быў з усімі такі ж добры, такі ж ласкавы...

* * *

Забыўшыся, яна высока махнула сноп, і ён зваліўся ёй назад.

Усміхнулася — і якраз убачыла, што босы хлопец-лістаносец, ён жа і сакратар вясковае камсамольскае ячэйкі, узышоў на ток і прыстоіў...

І другія хлопцы, іхныя вясковыя, спыніліся з ім у варотах, быццам не ведаючы, узысці ім таксама ці не.

Камсамолец трымаў нейкую складзеную квадрацікам паперку.

І, зірнуўшы на яго твар і на тую паперынку, Марылька раптам адчула ў руках нейкую млявасць.

— Тут вам... Марылька... здаецца, пра Паўлю-

ка...— сказаў, падыходзячы, камсамолец; стараўся быць спакойным і не вытрываў: — Тэлеграма...— дадаў ён, і голас у яго задрыжэў і асекся, і хлапец нібы глытнуў слёзы. І Марылька зразумела, што яму на пошце сказалі ці як іначай, але ён ведае пра тое страшнае, што там напісана.

— Кідай жа там! — крыкнуў быў, не азіраючыся, стары Трус, але не прычакаў чарговага снапа, пачуў гамонку, убачыў лістаносца з папераю і тых хлапцоў у варотах і рупненька палез па драбінцы з тарпы ўніз.

Спаміж усіх старых у вёсцы ён быў адзіны чалавек, што ўмеў чытаць і друкаванае і рукапіснае.

Злез, дапытліва і невясёла зірнуў на лістаносца і ўзяў у яго з рук тую тэлеграму.

«Паўлюк... памёр... брушнога тыфусу... безадкладна прыязджайце... пахаванне панядзелак другога верасня» — слова на слова прачытаў ён і ўжо нічога не бачыў ад раптоўнага туману ў вачах.

* * *

Бывае ў жыцці такі момант.

Ён выпякае ў сэрцы след на ўсё жыццё.

Марылька дзіка крыкнула.

Потым, як выпушчаны з рукі сноп, апала на аўсяны груд і прыдушана, трасучыся ад глухой роспачы, ціха загаласіла:

— А мой жа ж ты бра-ту-у-улечка!

— Ах ты, Паўлючок ты мой, Паўлючок! — выдыхнуў з грудзей цяжар паветра стары бацька.

І не ведаў ён, што ўжо цяпер казаць, што ўжо цяпер рабіць...

Невымоўная смяротная туга сціснула яму сэрца. Яна выпякала свой след на ўсё жыццё.

І след яе бывае тым глыбейшы, чым меней застаецца жыцця.

Ніці абрываюцца назаўсёды.

# Пахаванне

*Панядзелак 2-га верасня 1929 г.*

Яшчэ ніколі не бачыў Беларускі Дом пісьменніка ў Мінску гэтулькі гасцей.

Адкуль, чаго панайшло іх сюды столькі і нават з вёскі панаехала?

Яшчэ ж ніколі, здаецца, не бачна было тут гэтых дзядзькоў у сялянскіх світках, з такімі спечанымі сонцам тварамі, з такімі загрубелымі ад працы рукамі.

Ды невясёлыя сабраліся госцікі.

Засмучона шэпчуцца мужчыны і хлопцы. Плачуць жанчыны і дзяўчаты. Дзяўчаткі, тыя дзяўчаткі, што разам з імі ў педтэхнікуме вучыўся ён, разам будаваць новае жыццё рыхтаваўся! Шчырыя слёзы вашы, дзяўчаткі, таварышкі! Вянок вы прынеслі з красак амаль што ўжо восеньскіх. Красак у руках прынеслі. Уквеціць дарогу Паўлюку. Уквеціць вечны шлях.

Невясёлыя сабраліся госцікі...

Шэпчуцца, плачуць. Так невясёла чакаюць яны на пасад сённяшняга маладога. Чакаюць, чакаюць... [...]

Калі ж той аўтамабіль прыедзе? Прывязе Паўлюка? Кажуць, ужо паехалі.

І музыкі, нарэшце, прыйшлі.

Ды невясёла гудуць і трубяць іхнія трубы. Не вясельныя песні лунаюць тут...

* * *

Загрымела, застучэла...

Прывязлі, узнялі, паставілі.

Труны не адчынілі, не адчынілі вечнага дому Паўлюковага. Ніхто твару яго апошні раз не паглядзеў. У больніцы ў калідоры ложак яго стаяў! Там ён і сканаў. Ціхі, нікому не вядомы. Так там ведаюць песня-

роў беларускіх. Ды яшчэ маладых, нейкіх пралетарскіх. Забыліся, час спусцілі. Твару яго для апошняга паглядзення нам не захавалі. Тыфус пацалаваў яго ўсяўладна.

Паставілі ў зале вечны дом, ды не адчынілі. Кветкамі прыбралі [...]

Вось па чатыры на варце становяцца. Пастаялі каля яго, пастаялі.

Так усё ўрачыста [...]

Выносяць...

Вялізным натоўпам занялі ўсю вуліцу.

А вуліца ўся разрыта, раскопана.

Трамвай будуюць.

Пяяў у сваіх вершах нябожчык пра гэты трамвай.

Сацыялістычнаму будаўніцтву ў роднай краіне без меры радаваўся.

І не...

Доўга дыбаюць коні, везучы хаўтурны воз.

Далёка да могільніка дыбаць ім.

Вуліцы паразрыты.

Сонейка прыпякае.

Музыка пра вечнасць хаўтурна бухае.

Марш пахавальны.

І нарэшце — вось тут вечнасць будзе яго.

На могільнік ўз'язджаюць.

Месца тое шукаюць.

Між дзвюх сасонак яма.

Сасонкі, сасонкі! Сумныя сасонкі. Паўлюк жа пра сасонкі пяяў.

Ну, канчайце...

Музыка, грымі!

Прамоўцы, гаварыце!

Марылька пачакае крычаць, пакуль вы будзеце прамаўляць і пакуль музыка будзе грымець за прамовамі вашымі. А тады прыпадзе яна, Марылька бедная, як ніклая трава да долу, і горка-горка загалосіць.

* * *

Колькі прамоўцаў, колькі прамоў!

І таварышы неслухмяным языком, няскладнымі словамі скажуць сваё. [...]

Ну, спі спакойна! Ты ўжо нічога не чуеш.

Без пары ты адышоў.

Хто б мог падумаць, хто?

Смерцю сваёю сезон адчыніў.

Няўжо мёртвы будзе сезон?

А хто ж будзе песні пра сацыялістычнае будаўніцтва ў роднай краіне так шчыра пяяць? [...]

Ну, нічога, Паўлюк!

Нічога, нічога!

Жыццё складаецца з нарадзін і смерці.

Ты ўжо ўсё прайшоў.

Канец.

Можна расхадзіцца.

За жыццё брацца.

Нейкіх навін чакаць.

Якія ж будуць навіны на таку тваім?

Якія, га?

*1929*

## Падаюць сняжынкі — дыяменты-росы...

У маю дзіцячую душу ён увайшоў як цудоўная казка, як дзіўны свет чароўных слоў: «Падаюць сняжынкі — дыяменты-росы, падаюць бялюткі за маім акном... Расчасалі вішні шоўкавыя косы і ўранілі долу снегавы вянок».

У коміне выла завіруха. Мароз-траскун размалёўваў шыбы дзівоснымі ўзорамі. У хаце было дужа холадна, і мы, дзятва, скучыліся на печы. Мама яшчэ абгарнула нас пасцілкаю і звязала яе ражкамі, каб не спаўзала. Сама сядзела побач. Вучыла ўрок па чытанню. Тады яна займалася на курсах лікбеза. Вадзіла ў чытанцы пальцам па радках і працяжна вымаўляла словы па складах.

Ляпнула клямка. Цераз парог шпарка, каб не напусціць у хату яшчэ больш холаду, сігануў тата. Кракрануў, шумна выдыхнуўшы з грудзей паветра, кінуў:

— Во пячэ дык пячэ! Аж дух забівае.

Распрануўся, павесіў на цвік каля дзвярэй новы ружова-жоўты кажух, на які толькі-толькі ўзбілася сям'я, вушанку. Ежа для яго была прыгатавана на стале. Ён хуценька павячэраў і неўзабаве апынуўся каля нас на печы. Сядзеў на крайку, паставіўшы ногі ў белых ваўняных шкарпэтках, якія звязала мама, на запечак.

— Чытаеце? — спытаў, звяртаючыся, здавалася, больш да нас, чым да мамы.— А я во таксама кніжку ўзяў у хаце-чытальні.— Падняў вышай, паказаў нам таўставаты томік.

Вокладка кніжкі была цёмная. Ці то зрабілі яе

такою, ці залапалі так пачарнелыя ад зямлі сялянскія рукі,— я не зразумеў тады.

— Вершы. Во хто напісаў.— Тата тыцнуў пачырванелым ад марозу пальцам зверху вокладкі і павольна, далікатна, нібы пагладзіў, правёў па ёй рукой.— Паўлюк Трус.— І, быццам імкнучыся давесці нешта большае, чым неслі яго словы, растлумачыў: — Загадчык хаты-чытальні казаў, што ён — от толькі не разабраў, ці то раней было, ці і зараз — працуе ў нашай абласной газеце «Полесская правда». Цікавыя, казаў, вершы.

Мама неспадзеўкі як запярэчыла што:

— А нам яго вершык не задавалі.— Потым уважліва паглядзела на тату і сказала: — Пачытай.

І ён стаў чытаць. Спачатку нешта пра чырвоныя ружы, пра юнага змаганца. Потым, памаўчаўшы крыху, нібы перадыхнуўшы, пачаў: «Падаюць сняжынкі — дыяменты-росы...» Чытаў з любасцю — выразна і нетаропка. Голас у таты быў мяккі, як бы з напеўнымі ноткамі. Раней я не заўважаў гэтага, а тады яно нібы аднекуль з глыбіні яго грудзей пачулася мне. Усе мы, і мама, і сёстры Вера з Надзяй, незвычайна сцішыліся і быццам нават шчыльней папрыціскаліся адзін да аднаго.

Тата чытаў доўга. А калі скончыў, я папрасіў:

— Пачытай яшчэ.

У наступныя дні не выходзіў з хаты, бо мароз і завіруха мацнелі. Безумоўна, дужа хацелася пакатацца з горкі на санках. Але што зробіш, у суслу ж, як баба Алена казала, змерзнешся. Садзіўся да акна, пазіраў на карункі, якія павыводзіў на шыбінах мароз, і міжвольна паўтараў у думках: «Расчасалі вішні шоўкавыя косы і ўранілі долу снегавы вянок». Што яшчэ я думаў тады? Анічога. Толькі ўслухоўваўся ў гэтыя свае думкі, якія цяклі і цяклі, нібы імклівая весняя ручаіна.

Пасля паэму «Дзесяты падмурак» вучыў у школе.

Быў тады ў мяне сябар Валік Крупянёў. Мы з ім ведалі ўсю яе на памяць. Мне падабалася, як Валік дэкламаваў яе. Здавалася, я чуў яго не столькі слыхам, колькі зрокам: дужа любіў глядзець на хлопца ў тыя хвіліны.

Дні прайшлі, адшалясцелі зоры
на гарачых кроплях навальніц.
І пульсуе радасць у прасторах,
залатыя свецяцца агні.

Вялікія шэрыя Валікавы вочы яшчэ большалі, напаўняліся яснасцю і былі чыстыя-чыстыя, як лясныя крынічкі. Прадаўгаваты твар з драбнюсенькім ластаўчыннем на носе рабіўся што той наліўны яблык — напаўняўся жаўтлява-румянай крамянасцю.

Даўным-даўно няма на белым свеце Паўлюка Труса. Шмат гадоў мінула з таго часу, калі жорсткая бязлітасная вайна забрала майго бацьку і сябра Валіка Крупянёва. Але і цяпер, калі ўспамінаю неўміручую паэму таленавітага майстра слова «Дзесяты падмурак», чую яе ў бацькавым голасе і бачу водбліскі палымяных пачуццяў паэта ў сябравых вачах. Словы чуюцца ў душы, і хочацца вымаўляць і вымаўляць іх услых.

*1987*

## Салаўіны вянок

Яшчэ нядаўна ў прыродзе была неразбярыха. То церушыў дождж, то веяў сіберны вецер, то ўранні клалася на сцежкі белая прыпудра інею. І здавалася: сапраўднага цяпла не прычакаеш. Але сёння падняло-ся сонца і не схавалася ў бруднай хмары, а пачало весела набіраць вышыню. І ўсё наўкола змянілася. Уздоўж платоў успыхнулі залатыя россыпы адуванчы-каў. Раскрылі пупышкі яблыні. Выкінулі таўкачыкі будучых кветак слівы-вадзянкі. А вішні ўкрыліся такой белай квеценню — нібы іх малаком аблілі. І над усім гэтым стаяла спагадлівая цішыня.

Мы сядзім на лавачцы, што прыткнулася да самага плота, і моўчкі радуемся. Раптам гаспадар не вытрым-лівае:

— Ну, цяпер на пагоду стане! Цяпер будзе цёпла.

Пазнаёміліся мы толькі ўчора, а я ведаю пра яго амаль усё: што ажно з 35-га года загадвае мясцовым клубам, што столькі ж гадоў кіруе калгасным хорам, што ён — вядомы кампазітар — напісаў шмат песень на свае ж словы, што яго песняй «Прывітальная Маск-ве» ў 55-м хор адкрываў другую Беларускую дэкаду літаратуры і мастацтва. За гэта аўтара і кіраўніка хору ўзнагародзілі ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, а праз два гады прысвоілі званне заслужанага дзеяча культуры Беларускай ССР. Ён выдаў зборнік песень, паспеў і на пенсіі пабыць, але не змог, як казаў, марна-травіць час, зноў вярнуўся ў клуб.

Павел Іванавіч Шыдлоўскі пазірае на белапенныя вішні і зноў не вытрымлівае:

— Такою парою найлепш пішацца.

Здагадваюся: гэта пра той вянок песень гаворыць

ён, якія прысвечаны вясне, абуджэнню, каханню, маладым марам, і не перабіваю. А ён:

— Усе свае песні люблю. Але найболей — «Пасаджу каліну ў полі». Дужа добра яе выконвае Ганна Радзько. Ды ці толькі яна! І ў Ленінградзе песню гэту пяюць, і ў Маскве...

Каб пераканаць, што песня заслугоўвае гэтага, спрабуе ціхенька напець яе. І адразу яна авалодвае мною. Матыў — шырокі і вольны, як тутэйшыя лугі і палі, пералівісты і звонкі, як суседні Нёманец, шчыры і цёплы, як пагляд закаханай.

Голас набірае сілу, мацнее, і ўжо над вясковай вуліцай галубінай чародкай уздымаюцца раздумлівыя словы:

Па-а-саджу ка-ліну ў по-о-лі...

Не паспелі яны, тыя словы, як след узняцца і тут жа апалі.

— Э-эх! — узмахвае рукою Шыдлоўскі.— Не тое месца і час не той. А то б...

Ён нейкую хвіліну маўчыць, а потым:

— Кажаш, у Нізок надумаў падацца. І я злётаў бы з табою, але знаёмы шафёр жвіру абяцаў падкінуць на задворак. Чакаць трэба.

## *Па дарозе ў Нізок*

Не каюся, што з Прысынка, дзе жыве Шыдлоўскі, у Нізок пайшоў пехатою. Я быў сведкам, як абуджаўся лес.

Мінулая ноч выдалася цёплай і парнай. Дрэвы дружна выкінулі лістоту і цяпер стаялі прыхарошаныя і памаладзелыя. Усюды шугала-пералівалася іх зялёнае полымя, і колькі адценняў мела яно! Полымя бяроз — яркае-яркае, асін — бліскучае, з жаўтаватым

налётам, алешын — густое, быццам пахмурнае, лазы — аксаміцістае. І толькі дубы, што там-сям выходзілі да шляху, яшчэ не спяшаліся хваліцца сваім.

Вясновы дождж звечара вымыў сасонкі, і яны таксама ярка свяціліся на сонцы, паказваючы на кончыках галінак залацістыя свечкі. Елкі свечак не мелі. Яны толькі пачалі скідаць шалупінне з тугіх пупышак.

Па доле таксама ішло аднаўленне. Ужо добра адскочыла трава, дагараў на ўгрэвах падбел, там-сям ускрай палянак падымаліся ключыкі, а ў лагчынках, дзе было болей елак, ляжалі зялёныя коўдры заечай капусты. Яна цвіла таксама, сціпла трымаючы на танюсенькіх нітачках белыя з ружавінкай кветачкі.

І ўсюды ў гэтым зялёным полымі лесу чутны былі птушкі. Недзе кукавала зязюля. Недзе падавала голас сарока. Недзе парыпвала жаўна. А берасцянкі нібы спаборнічалі між сабой — усё заліваліся і заліваліся, пакуль я не выйшаў на поле.

Тая пярэрва невялікая. Не болей вярсты будзе да вёскі па ёй, а там — зноў бачыцца сінь лесу. Абапал дарогі — палеткі. Там — зелянюткія, пад азімінай, там — голыя яшчэ, але добра дагледжаныя.

Сотня крокаў, другая, трэцяя — і вось ужо Нізок як на далоні. Хаты патанаюць у садах. Ад хат у нізінку збягаюць соткі.

Калісьці хаты ў іншым месцы стаялі — на грудку, там, дзе зараз Другое Сяло. Дык вельмі маланка паліла іх. І людзі адракліся старых дзядзінцаў — перасяліліся ў нізок, бліжэй да Усы.

Ля самай вёскі, побач з дарогай,— азярынка з астраўком пасяродку і вялізным каменем на беразе. Той камень мо нават па грудзі чалавеку будзе. І хто яго прывалок сюды? Наўкол ні каменьчыка, а ён во як высіцца!

Азіраюся. У вочы кідаецца развілка дарог, якія шэрымі стужкамі ўзбягаюць на пагорак. Колькі па іх

ходжана, колькі езджана. Адсюль некалі пачыналіся жыццёвыя шляхі тутэйшых сялян. Адна дарога вяла ва ўладанні Радзівіла, другая — на Узду, трэцяя — да пана ў Прысынак. І кожны тады задаваў сабе пытанне: па якой пайсці? Гэта трывожыла і нізоўскага падлетка Паўлюка Труса:

Разышліся пад гарою
тры дарогі ў полі,
па якой жа —
тая доля,
па якой —
нядоля...

І ён выбраў сярэднюю. Што вяла ў горад. Па веды.

## *Паэтава вёска*

Іду сялом і радуюся за нізоўскіх дзядзькоў. Якія сялібы ў кожнага! Дамкі — як на падбор. Пасталі ў рад і нібы хваляцца сабой. А садочкі! Так і рупіць адчыніць якія веснічкі і пасядзець у цяньку, пад белым накіпам дрэў. Толькі куды спярша адважыцца пайсці? Да Веры Адамаўны, сястры Паўлюка Труса? Яна недзе тут жыве, у Нізку. Настаўніцай працавала, а цяпер — на пенсіі... А мо да Лычкоўскіх? Яны некалі далі прытулак генералу Карбышаву, які выходзіў з акружэння. У раёне былі ўжо фашысты, а Карбышаў на гарышчы ў Лычкоўскіх слухаў па радыё прамову Сталіна... Ці да цёткі Стэфы — сястры Кандрата Крапівы? А ўбачыў ля калодзежа маладуху, якая выкручвала цяжкое вядро, счакаў, пакуль пераліла ваду ў бляшаныя вядзерцы, і запытаў зусім пра іншае:

— А ці не пакажаш, бялявая, дзе тут Паўлюка Труса хата стаіць?

Светлыя бровы ўзляцелі высока, вочы зірнулі адкрыта, і прыязная ўсмешка прабегла па твары:

— Дык мінуў жа яе! Яна — пятай ад крамы будзе. Як адгэтуль, то па левую руку.

Паправіла газавую касынку, падаткнула светлую пасмачку і сказала:

— Хочаш — пакажу.

Па цёплай сцежцы ступала лёгка і не пераставала гаварыць:

— У нашай школе музей ёсцека. Там паэтавы рэчы сабраны — сарочка вышываная, самаробныя паясы, яшчэ тое-сёе. Іх любіў ён насіць. Даматканы абрус яшчэ ляжыць. Ім стол накрывалі ў хаце на святы. Кніжкі яшчэ розныя там — яго і пра яго. А во і хата! — яна спынілася і памацала рукою па той бок веснічак, адчыніла іх і сказала: — Заходзь.

Падворак вялікі, добра ўтравелы. З краёчку стаіць некалькі высокіх ясеняў. Глыбей у двор — садок. Дакладней, рэшткі яго — купка старых сліў, крывая яблыня, гонкая вішня. У садок укліньваецца хата — прысадзістая, з крытым ганкам. У хаце даўно не жывуць, і з гэтай прычыны забіты і дзверы, і вокны.

Мая правадніца мацае сцяну, нібы правярае трываласць яе, падыходзіць да акна і праз шчыліну, што між дошак, глядзіць туды, усярэдзіну. Адрываецца праз хвіліну і:

Ва мне трывога і спакой...
Сястра фіранку адхінае
І беласнежнаю рукой
Абрус кужэльны засцілае.

Чытае вядомы трусаўскі верш, а вочы — сумныя-сумныя.

— А маглі б і фіранкі вісець,— ужо ціха кажа яна.— І абрус на стале мог бы ляжаць...

Накіравалася да веснічак і ўжо адтуль, з-пад ясеняў, кінула:

— А ты пабудзь. Хораша думаецца на месцы гэтым...

Яна пайшла, а я застаўся на падворку.

Ярка свяціла сонца. У вецці чаромхі, якая вось-вось збіралася ўспыхнуць белым полымем, папіскваді маладыя шпакі. Крыху ў старонцы, за хатай, на старой лістоўніцы, падаваў голас бацян. У слівавай квецені снавалі пчолы. Свет быў повен гукаў. І ўсе яны так дапаўнялі адзін аднаго, што здавалася, абарві які-небудзь — і парушыцца той цудадзейны ланцуг, імя катораму жыццё.

Слухаў дзівосную музыку вясны, а думалася: сапраўды, чаму тут, у гэтай сялянскай хаце, крыху паднавіўшы яе, не адкрыць музей? Прысвечаны пісьменнікам. Кожнаму адвесці хаця б па невялічкаму стэнду — і было б здорава. Знайшлося б месца ў гэтай хаціне і Паўлюку Трусу, і Кандрату Крапіве, і Пятру Глебку, і Сымону Баранавых, і Алесю Пальчэўскаму, і Антону Бялевічу, і Алесю Якімовічу, і Ільі Гурскаму, і Алесю Махначу, і Лідзіі Арабей, і Даіру Слаўковічу... Бо ўсе яны — тутэйшыя, з Уздзеншчыны. Бо Нізок быў для іх — як калыска.

А мо яно так і будзе некалі...

## *На Паўлюковых плёсах*

Гэтая зямля славіцца яшчэ вось чым. Тут бярэ пачатак самая слаўная рака Беларусі — Нёман. Шыдлоўскі расказваў мне: «Не так і далёка адсюль, у лесе, з-пад лазовага куста прабілася крынічка. Маленькая. Вераб'ю па калена. А метраў праз колькі набрала сілы і разлілася на дзве ручаіны — на Лошу і Нёманец. Беглі поруч, беглі, а сталі рэкамі — стаміліся і паснулі. Лоша першай прахапілася і кінулася па нізінках, заспяшалася. Прачнуўся Нёманец, устрывожыўся і — напярэймы. Абабег Прысынак, абабег Нізок і ля вёскі Пясочнае нагнаў. Пабраўся з Лошаю. Потым з Усою. І стаў Нёманам...»

Не так і далёка ад Нізка тыя сутокі. Але я пайшоў на Усу. На Паўлюкову раку. Дзе праплыло яго кучаравае, з блакітнымі вачамі дзяцінства. Рака бліснула сіняю стужкаю і нібы ў палон узяла.

Буйнай бывае Уса вясною, непакорнай. А цяпер угаманілася, роўна гнала сваю сінь, і толькі астраўкі хітра сплеценых каранёў аеру, што там-сям ляжалі далёка ад вады, гаварылі пра нядаўнюю работу ракі.

Гэты бераг — пакаты, зарослы лазою, пакрыты густой мурожнай травой. Тут — лепшая паша баброў. Вунь як яны лазняк падстрыглі! Але ён выкінуў новыя пасынкі і весела зелянее пад сонцам. Спаборніцтва нібы тут ідзе між бабрамі і лазняком. Бабры стрыгуць, а ён адрастае. Перамагае лазняк. І зараснікі робяцца ўсё гусцейшымі і гусцейшымі. Праз іх не пралезці босаму.

З таго берага да самай вады спусцілася вярба. Старая-старая. Кара на ёй рудая, парэпаная і злямцаваная,— усё роўна як кажух навыварат апранула. Але надзіва цёплы ўдаўся дзень. І вярбе горача. Яна нібы хоча скінуць той кажух, ды адважыцца ніяк не можа. Толькі расшпіліла на ім гузікі...

А вось і плёс, дзе некалі любіў бавіць час Паўлюк Трус. Гэты плёс і зараз у пашане тутэйшай дзятвы. Вада — празрыстая, невірлівая і, галоўнае, заўсёды цяплейшая, чым у суседніх. Плюхайся ў ёй колькі хочаш і калі хочаш. У ціхія летнія вечары тут найболей і зорак. І маладзік заўсёды прычалены да берага. Як човен. А калі над зямлёю ўстае сонца, сюды любяць злятацца берагавушкі. Яны і цяпер не мінулі плёса, смела крэсляць над ім чорным крылом і на ляту п'юць сінюю ваду. Берагавушкі не баяцца мяне. Іншая падляціць зусім блізенька, абдасць ветрам твар і зноў весела кінецца да вады.

А дзе жывуць салаўі? Пра іх часта ўспамінаў паэт у сваіх вершах! Іду берагам, мінаю стары, узарва-

ны некалі бліндаж, між бетонных камлыг якога жыве цікаўная сітаўка, праходжу колішнім хутарскім пляцам, дзе купіцца густы-густы бэз, і нечакана бачу, як Уса разліваецца на два рукавы, а потым зноў зліваецца, утварыўшы прадаўгаваты востраў. Той востраў укрыты зараснікамі. Знайшлі там прытулак і лаза з вярбою, і ляшчына з крушынаю, і арабіна з калінаю, і мноства розных высокіх і буйных траў. Дзіва што мясціну тую аблюбаваў і бабёр з андатраю. Нарабілі ў беразе нор і жывуць сабе. Яшчэ там птахаў многа. Пяюць! Але салаўя не чуваць. Ён цяпер адпачывае. А закоціцца сонца, апусцяцца на востраў прыцемкі, і тады не наслухацца яго. Шыдлоўскі казаў, што самы галасісты жыве тут, што званчэйшага і няма на Уздзеншчыне.

А дзе тая лугавіна, на якой ён бачыў некалі жораваў? Ці не гэтая, што за вострававам, адразу па той бок Усы пачынаецца? Тады толькі бралася на цяпло, жоравы з выраю ляцелі і прыселі тут, на лугавіне, адпачыць з дарогі. Хадзілі, горда ўзняўшы голаў, і радаваліся, што зноў убачылі родныя мясціны. Чалавека так узрушылі тыя птахі, так запаў у сэрца той малюнак, што ён не мог не сказаць пра гэта ў сваёй новай песні. Ён толькі раз праспяваў мне, ціхенька-ціхенька, тую песню, а і зараз помняцца шчырыя словы:

Куды ні глянеш — сэрца радуе:
Звіняць калоссямі палі,
А за ракою ціха ў лузе
Вясной курлычуць жураўлі.
У небе свецяць зоркі ясныя,
Спакойна дрэмлюцца гаі,
А закаханым аж да раніцы
Ўсю ноч спяваюць салаўі.

...Пачуліся крокі. Азірнуўся. Берагам у мой бок ішоў рыбак. У бліскучых гумовіках, з вудаю і вядзерцам у руках. Павітаўся, паскардзіўся на рыбу, якой у рацэ паменела, і, зведаўшы, што я хачу адшукаць

каго-небудзь з блізкіх сяброў Паўлюка Труса, сказаў:

— А ў Нізку, відаць, і няма ўжо іх. Паўміралі. Вось хіба дзед Паўлюк. З Прысынка. Каторы песні складае. Яны ж, кажуць, дружбавалі з паэтам нашым.

Для мяне гэта было нечаканкай.

*Успамін*

Надвячоркам, седзячы на лавачцы, што наўпроць хаты, я запытаў у Шыдлоўскага:

— А чаму, Павел Іванавіч, не пахваліўся, што з Паўлюком Трусам дружбаваў?

Шыдлоўскі спакойна адказаў:

— А што казаць было, браток? Гэта — само сабой. Гэта — кожны ведае.

Памаўчаў, а потым пачаў:

— А цікавы хлопец быў — цёзка мой! Прасцецкі. Мы з ім амаль аднагодкі. Часцяком скаціну разам пасвілі. Ён — адтуль, з Нізка, я — адсюль, з Прысынка, згонім кароў у лес, ва ўрочышча Завішынскі Поцераб, скаціна пасецца, а мы — ля вогнішча. Гамонім, песні пяём. Мы абодва, браток, на песнях былі памешаныя,— прызнаецца Павел Іванавіч.— А то, бывала, да яго ў Нізок пабягу. Выйдзем на прызбу, сусед яшчэ, Янак Пятроўскі, падсядзе,і ў тры галасы — як запяём! Іншы раз і Васіль Мазурчык, музыка вясковы, прыйдзе на падворак з хромкаю. Во было весела! З усяго Нізка моладзь зляталася.

Мала-памалу гаворка перакінулася на яго, Шыдлоўскага, песні. І я запытаў, як ён піша іх, дзе навучыўся музычнай грамаце.

— Браток! — неяк узрушана сказаў Павел Іванавіч.— Я ж сляпы! Я не толькі ноты, а і чалавека ў твар не пазнаю. Па голасу толькі і адрозніваю.

Я — маўчаў. Было няёмка. За маё нетактоўнае пы-

танне. Але праз хвіліну забываю пра гэта — Шыдлоўскі весела расказвае:

— Зваліў было неяк мяне грып. Ніколі не хварэў, а тут — на табе! Ляжу. Ад няма чаго рабіць вершык складаю. Пра той вірус. І тут жа мелодыю памаленьку намацваю. Заходзіць Волька, жонка мая. Пастаяла, чую, ля парога, пастаяла, а потым:

— Ты што, Паўлік, з гарачкі гэтак?..

Павел Іванавіч дакранаецца да майго пляча і тлумачыць:

— Вось так і пішу. Спачатку вынашу і словы, і мелодыю, вывучу іх, а тады еду ў Мінск да сяброўкампазітараў і там запісваю. Звычайна да Цікоцкага, Лукаса, Пукста ці Камінскага ездзіў...

— Мо і вершы Паўлюка Труса на музыку паклалі? — пытаюся.

— А як жа! — ажыўляецца Павел Іванавіч.— Паклаў. Удалася нават. Песню тую любяць дзяўчаты пяяць, і Волька мая таксама.

Я не хачу перабіваць. Да таго ж цікава паслухаць песню, як кажуць, з першых рук. Таму прашу:

— А мо праспявалі б, Іванавіч!

Шыдлоўскі не аднекваецца, і, як тады, над вясковай вуліцай у аздобе раздумлівай і крыху сумнай мелодыі галубінай чародкай уздымаюцца словы:

Засталася я сірацін-ка-ю,
Маці ў поле мяне прав-я-ла,
І адным-адна пуцявін-ка-ю
Ў горад бурны пайшла ад ся-ла.

Праспяваў куплет і даў волю толькі адной мелодыі. Яна то ўздымалася і лунала дзесьці высока-высока, то апускалася, прыпадала долу і кацілася-перакочвалася над вуліцай, над суседнім вішнёвым садком, над усёй зямлёй. Не абрываючы яе, Павел Іванавіч зноў у суполку бярэ словы, і песня — цёплая і па-чалавечы спагадлівая — зноў ахінае сэрца:

А на трэці год я пі-шу ў ся-ло:
Ой, матуля!.. Не знаю, ча-му —
За чароўны зірк і за шчы-расць слоў
Падарыла я сэр-ца я-му!

Зноў чутна толькі мелодыя, і я прыкмячаю: якая багатая інструментоўка ў голасе Шыдлоўскага! А гукавая палітра! Нізкія і высокія таны не замінаюць адзін аднаму, не перакрэсліваюцца, не прыгнечваюцца, і спакойнае іх перапляценне толькі ўзбагачае тую сімфонію душы. І гэта тут, на лавачцы! А што, калі б выйшаў на сцэну?

А ён:

Ты не плач! Не плач!.. Я прый-ду ў ся-ло;
А сягоння цябе ўспа-мя-ну.
Не віні мяне, што за шчы-расць слоў
Падарыла я сэр-ца я-му!..

Скончыў пець і сядзіць — маўклівы і насцярожаны. Маўляў, што я скажу пра песню. А я думаю: гэта ж песня пра яго, Труса! Замяні «пайшла» на «пайшоў» — і ўсё стане на месца.

Павел Іванавіч нібы прачытаў мае думкі. Сказаў рэзка, як з выклікам:

— А жыў бы Паўлюк мо і зараз! Каб не тая хвароба. Што ў горадзе тым звaліла... Такога хлапца зваліла! Такога паэта! І ў такія гады!..

З-пад Нёмана пачало цягнуць прахалодаю. Лёгкі ветрык прабегся ўздоўж вуліцы, зачапіў крайнюю вішню, што звешвала ў наш бок успененае вецце, і страсянуў з яе жменю пялёсткаў. Як першы лёгкі сняжок, спадалі яны на зямлю. Яшчэ раз зачапіў ён вішню — і зноў пачаў церушыць незвычайны снег. І як знічка, успыхнулі ў памяці паэтавы словы:

Падаюць сняжынкі —
дыяменты-росы,
падаюць бялюткі
за маім акном...

А пялёсткі сыпаліся і сыпаліся...

Потым падумалася чамусьці, што Шыдлоўскаму, відаць, так і не прывезлі жвіру. Яшчэ шкадаваў, што не паспеў схадзіць у Пясочнае. Дзе Нёманец робіцца Нёманам... І ўжо зусім дакараў сябе, што не пабачыўся з сястрой Паўлюка Труса... І рашыў: заўтра ранюсенька пабягу туды. Абавязкова.

Над сялом апускаліся прыцемкі.

А пялёсткі сыпаліся і сыпаліся...

*1980*

# Лісты

## Паўлюка Труса да Пятра Глебкі

...Ну і чаго цябе нячыстая занесла ў гэту рэчку? А хваліўся мне не раз, што за старою галавою не прападзеш. А тут самога прыходзіцца вучыць. Гэта ж думаць!.. Усунуўся, як плытнік, а цяпер цацкайся, і другім небалазя. Няўжо ты не знайшоў бы такога месца, каб можна было абысці?.. А гэта ўсё рызыка робіць!.. Не, вот сюдэю пайду. Некалі мой дзед таксама з гэтай рызыкі замаленечкім не пайшоў на той свет без пары. Таксама й ты. Не думай, што я цябе лаю. Бо яно заўсёды бывае, як прыказка кажа: «За дурною галавою нагам ці чаму хочаш небалазя».

Ну й трэба ж табе захварэць? Тут вясна... Жыццё... Алеся... А ты ляжы там ды думай. Бадай ты правалілася наскрозь зямлі... Але я ўсё адно. І чаго цябе нячыстая занесла ў гэту рэчку? Тут, брат, жартачкі малыя. Але гэта між іншым. Ты ж сам ведаеш, як мы з табою гаворым, як усё роўна мой дзядзька, гэта значыць жартуючы.

Папраўляйся скарэй. Чакаю, ці скора ты прыедзеш. Брат, пазаўчора цікавы быў сход «Маладняка». Бабарэка чытаў даклад. Што там было (...)

Ведаеш, вельмі сумна без цябе. Дзядзька даўно ўжо выпісаўся з дому адпачынку, але я нікуды не хаджу. Нек проста не хочацца хадзіць. Лекцыі...

Служба, а прыдзеш дадому, садзішся і пішаш. Яшчэ з табою, як вядома, калі-некалі хадзілі ў «дубовую хату», а цяпер я нават забыўся на яе. (...)

Толькі папраўляйся і прыязджай хутчэй. Разбяромся.

Пісьмо тваё чыталі з Каратаем. Надта падабаўся верш, хоць ён, праўда, і песімістычны.

Не ведаю, больш няма, здаецца, нічога такога асабістага. Толькі хутчэй папраўляйся... Бо, ведаеш, мяне такое паведамленне непакоіць. З 15/V 26 г. еду ў «Дараўку». Кіну службу і паеду, хоць адпачну і напішу за гэты час.

Бывай.

З камсамольскім прывітаннем і з пажаданнем хутчэй стаць здаровым і прыехаць у Менск.

*П. Трус*
*25/IV 26 г.*

**Жалем сціскаюцца грудзі.**
*М. Багдановіч*

*Дарагі Пятрусь!..*

Каб ты ведаў, колькі ўспамін прынесла з сабою для мяне тваё пісьмо. (...)

Братка, хутчэй папраўляйся, прыязджай у Менск. Ёсць шмат чаго цікавага. Наконт «Таполяў» я справу ўладжу.

Ізноў жа, братка, папраўляйся, прыязджай. (...)

Больш пішу. Канчаю «Развітанне». Прыедзеш, пачытаем. З Алесяю таксама нічога не гаварыў. Прывітанне перадам. (...)

Бывай!.. Твой сябар *П. Трус.*

*25/V 26 г.*

*Добры дзень, Пятрусь!..*

Пісьмо тваё я атрымаў, за якое шчыра і шчыра дзякую. Пасля папярэдняга пісьма я думаў, што ты

ўжо ніколі не захочаш са мною нават і гаварыць. Але мне здаецца, што няма нічога даражэй на свеце, як шчырае сяброўства.

...Але што гэта ты, ліха тваёй галаве, не напісаў мне аб сваім жыцці. (...) Пэўна, за дзяўчатамі дык часу не маеш. Ой, глядзі, Пятрусь!.. (...) Але добра падумаўшы, дык няма за што і лаяцца, як кажуць, маладому маладое і жывому жывое.

Дзякую за тое, што споўніў маю просьбу і прыслаў мне верш. Вось што, Пятрусь, няхай, вядома, гэта будзе між намі. Аднаго разу я меў гутарку з Вечарам Міколам, і вось што ён мне сказаў. Нядаўна райком разглядаў справу аб зацверджанні камсамольцаў у члены. Мяне і цябе чамусьці не зацвердзіў. Тут, як відаць, справа з «Маладняком» па ініцыяве т. Гарбачэнкі, бо ён быў там. Гэта разбіралася яшчэ да таго, як ты быў у Менску, і да таго, калі я ўжо ўступіў у «Маладняк».

Меў таксама я гутарку і з Гарбачэнкам. Ён, вядома, лаяў здорава мяне, што я вышаў з «Маладняка», што скрывіў лінію камсамола і г. д. Так што і тут яго ініцыва.

Не думай, што я мо пішу дзеля таго, каб ты вярнуўся ў «Маладняк». Зусім не!.. Я толькі пішу табе аб тым, што я чуў і што ёсць на самой справе. А ты як сабе хочаш. Як кажуць, «дзела тваё». Але гэта між іншым.

Цяпер аб сваім жыцці. Каб сказаць, што сумна, дык не, хоць М. Цімошак і вышла замуж. Пастараюся забыцца так скора, як скора і пакахаў. (...)

Ага... Паслязаўтра еду на Каўказ з Зарэцкім.

Буду пісаць табе з дарогі.

Пісьмо не адпісвай, бо не атрымаю, буду ўжо далёка. Буду пісаць аб уражаннях. Чытаў твой верш у «М[аладым] аратым». Мне асабліва вельмі спадабаўся.

Пакуль што бывай.

Чакай другога пісьма.

З камс. і малад. прывітаннем твой *П. Трус.*

Пішу калі й атрымаў.

Атрымаў 13/VIII [1926.—*Рэд.*] і ў гэты ж дзень адпісваю.

Бывай!..

*Здароў, Пятрусь!*

Ліст ад цябе я атрымаў, за які шчыра і шчыра дзякую. (...)

У вёсцы жывецца сумна. Нідзе няма месца, каб добра пагуляць і адвесці душу. Думаў напішу за гэты час, дык дзе там чорта матары. (...) Ячэйка на краю гібелі. Трэба не дапусціць да гэтага, так што працаваць прыходзіцца вельмі й вельмі шмат. Добра, калі кончу за ўвесь час легенду «Лірнік» і паэму «Развітанне». Я ж, кажу, зусім не маю часу. Вось нядаўна рабіў даклад аб 9-м студзені, а сягоння ладзім культвечар. Ставім суд над камсамольцам-п'яніцаю. Мне далі роль пракурора. Выпускаем вусную газету. Газету вязём у РВК на прагляд. А тут трэба яшчэ пазаймацца з дзецьмі з якую нядзельку, напісаць праект аб палепшанні школы. І адным словам, часу ані-ні ты божа мой, як кажуць людзі.

Дык вось што мог напісаць напісаў, напісаў бы больш, але не маю часу. Думаю прыехаць у Каменку ў суботу 5/II 27 г. Тады каня пастаўлю (...) і прыду да цябе, абавязкова. Гэта ўжо як дважды два — 4.

А пакуль што бывай здароў.

З прывітаннем *Паўлюк Трус.*

*29/I 27 г.* Сягоння ў нас культвечар.

*14/XI 27 г.*

*Дарагі Пятрусь!*

(...) Няўжо ж ты ані разу не бачыў Лужаніна? Таму я ўжо ўспеў адаслаць другі ліст. У першым лісце, які я

пісаў Максіму, там я перадаваў табе прывітанне і прасіў, каб ён разам з табою адпісаў мне ліст. Але пакуль што я атрымаў ліст толькі ад яго. Сягоння ж атрымаў твой ліст, на які зараз жа даю адказ.

Перш за ўсё пару слоў аб сабе. Жывецца мне, пакуль што, ніштавата. Кідаюся, як той казаў. Адразу, як толькі прыехаў у Гомель, дык нядзелькі дзве валяўся ў доме селяніна. Праўда, толькі я пазнаёміўся з загадчыкамі дому селяніна, і жылося мне добра.

Урэшце, я знайшоў сабе кватэру. За кватэру плачу 12 руб. у месяц. Затое, брат, дзядзька — ну проста душа. (...)

Кватэрка мая невялічкая, але зацішная — можна працаваць, хоць, праўда, вельмі і вельмі мала часу. У 9 гадзін прыходзім у рэдакцыю і пакідаем яе ў 4 гадзіны дня. Так што сам бачыш, які ў мяне час. А тут прыдзеш дадому, адпачыць патрэбна абавязкова, бо да таго надураць галаву карэспандэнцыі, што сам сябе не пазнаеш. Ну, але гэта нічога!

Цяпер я рыхтую трэці зборнік і думаю даць назву «Чырвоныя ружы». Гэты зборнік у мяне ўжо падрыхтаваны, акрамя толькі крымскіх матываў, якія я думаю даць. Працую над паэмаю «Сірата Алеся», пішу другую частку яе. Зборнічак я табе ў хуткім часе высылаю і прашу цябе, каб ты з адказным лістом выслаў мне свой зборнік. Сёння якраз чытаў рэцэнзію на твой зборнік. Скажу табе адно. Няхай, братка, гаўкаюць,— на гэта яны толькі і здатны. Не зважай!.. (...) Ты ж, напэўна, чытаў і аба мне. Пісаў нейкі П. Брусніца. Думаю, што П. Шукайла, з якім я напярэдадні гэтае рэцэнзіі чуць не пасварыўся. Няхай пішуць, а наша справа — тварыць і тварыць сапраўдную літаратуру. (...)

Пакуль што кралі я яшчэ не маю. Але думаю ў хуткім часе падшукаць «оную». Каб ты, братка, ведаў, якія прыгожыя дзяўчаты ў Гомельскім Белпедтэхні-

куме! (...) Такая крамяная, чарнявая (а чарнявых, аб чым я табе гаварыў і раней,— я люблю). Дык вось, брат, якія дзяўчаты ў Гомельскім Белпедтэхнікуме. У дні 10-цігоддзя Кастрычніцкай рэвалюцыі я рабіў там выступленне. Чытаў «Чырвоныя ружы». Выклікалі на біс, асабліва ў тым месцы, дзе гаворыцца:

— Ты скажы, скажы,
Атаман-казак,
Ці дазволіш нам
Адступіць назад?
Ці прыкажаш мне
Пад кавыль-траву
За цябе злажыць
Буйну голаву? і г. д.

(...) Я, браток ты мой, быў хворы. Думаў, што будзе запаленне лёгкіх. Было так хапіла, так сціснула грудзі, што нельга было дыхаць. Але ўсё кончылася добра. Аб гэтым, братка, нікому не гаварыў, нікому не скардзіўся. (...)

Аб «Чырвоным прамені» я ўжо пісаў Алесю. Так, брат, няма таго праменю, які быў, калі мы там супрацоўнічалі. Я Алесю так і параіў, каб ён не даваў туды матар'ялу. Хай пішуць самі, калі яны нават не ўвялі ў рэдкалегію Алеся. Чорт іх бяры. Вось толькі не ведаю, калі мне прыдзецца пабываць у Менску, пагаварыць ад душы. Думаю, можа, зімою буду. А ведаеш, як хочацца пабываць цяпер у Менску. Часамі здаецца, пераляцеў бы туды, дзе мы разам пісалі, разам працавалі, разам выпівалі і разам трымалі адказнасць перад бюро ячэйкі. Як гэта ўсё знаёма і блізка.

Цяпер аб «Маладняку». Аб гэтым мне ўжо даўно пісалі. Пісалі, што «Маладняк» рэарганізуецца. Я не ведаю, братка, што рабіць. Ты сам добра ведаеш, што я стаю, зусім стаю не на пляцформе «Маладняка». Але мяне прымусілі тады вярнуцца ў «Маладняк». Цяпер я

не ведаю, што мне рабіць. Што я выйду з «Маладняка» — гэта факт. Але не ведаю аднаго, ці прымуць мяне цяпер у «Узвышша» пасля таго, як я вярнуўся тады ў «Маладняк». Ты пагавары там з Бабарэкам аб гэтым... I безумоўна, калі я цяпер выйду з «Маладняка», то больш туды я ніколі не вярнуся. Гэтая думка была ў мяне і тады, калі мы разам з табою выходзілі. Але мяне прымусілі гэта зрабіць (...).

I так, бывай, браток, здароў!.. Жадаю ўсяго найлепшага. Пішы аб усім, што чуваць у Менску. Пішы, яшчэ раз, буду з кожнаю поштаю чакаць адказу.

Пішы на адрас які сабе хочаш.

Адрас рэдакцыі:

г. Гомель, Кааперацыйная, 14, рэдакцыя газеты «Новая вёска». Адрас мае кватэры:

г. Гомель, 4-ы Рэвалюцыйны правулак, дом № 4 для мяне. P. S. Чакаю твайго зборніка і высылаю ў хуткім часе свой.

З прывітаннем *Паўлюк.*

*Гомель. 27/XI 27 г.*

И вновь прошедшее меня объемлет живо.
*А. С. Пушкін*

*Любы Пятрусь!..*

Ліст твой атрымаў (хоць гэта да некаторай ступені і шаблонна, але пачынаю з гэтае строчкі), за які шчыра і шчыра ўдзячан. Гэты ліст мяне парадаваў і сустрэў якраз за літаратурнай працай. Цяпер я стала працую над паэмай «Сірата Алеся» і канчаю пісаць легенду «Лірнік». Праўда, браток, я з табою поўнасцю згодзен, што вялікія рэчы скора не пішуцца.

Матар'ялу ў часопіс «Маладняк» я ўжо не буду пасылаць. Нядаўна я прачытаў абвестку ў газеце

«Сав[ецкая] Б[еларусь]» аб сходзе Менскае філіі «Маладняка». Мяне здзівіла пытанне, якое ставіць Дудар,— гэта аб часопісу «Маладняк». Як відаць, дык часопіс «Маладняк» дайшоў ужо да «апагею». Акрамя таго, мяне здзівіла пытанне арганізацыйнае. Думаю, што ў хуткім часе «Маладняк», як арганізацыя, скора перажыве апошнюю стадыю рэарганізацыі, пасля чаго «Маладняк» не існуе. (...)

Пяты нумар «Узвышша» я яшчэ не чытаў, але прагледзеў твае вершы, якія мне вельмі спадабаліся. (...)

Цяпер аб уступленні ва «Узвышша». Яшчэ раз прашу цябе, пагавары з хлопцамі і скора дай мне адказ. З тым, што ты мяне вінаваціш у маёй слабасці і хістанні, я поўнасцю згодзен з табою. Але павер мне ад шчырага сэрца, што іначай зрабіць я не мог. Я табе не гаварыў яшчэ аб той траўлі, якая была накіравана супроць мяне. Мая віна, праўда, віна суб'ектыўнага характару, што ў той час я не знайшоў падтрымання з боку сваіх таварышаў як Бабарэкі, Дубоўкі і інш. Гэтага падтрымання я і не мог шукаць, бо справа была камсамольская. (...)

Вось што, браток. Мая шчырая да цябе просьба. З Марысяй Германовіч я дагаварыўся аб вышыўцы мне рубашкі. На днях я атрымаў ад яе ліст. Піша, што ўзор падшукала і можна прыступаць да працы. Дык вось, браток, добра не ведаю, змагу я быць у Менску ў часы канікулаў ці не, але ты пастарайся зрабіць мне тое, аб чым я зараз і буду цябе прасіць. Перш за ўсё, схадзі да майго дзядзькі Ігнася і забяры ў яго маё палатно на рубашку, скажаш, што казаў Паўлюк. Тады пагавары з Марысяй аб тым, як шыць рубашку: простую ці таўстоўку. Аб гэтым ты дагаворышся. Але мне здаецца, што таўстоўка будзе куды прыгажэй. Змерай рубашку на сябе, і ў плячах чуць-чуць шырэйшую. Адным словам, і гэта ты зможаш зрабіць, бо рубашка, як

табе вядома, будзе шыцца пасля ўжо самога вышывання. Толькі глядзі, каб не была вузкая. І яшчэ адно, купі, браток, шаўковых нітак на руб. 5, каб яна змагла распачаць працу, грошы я вышлю табе. Ніткі купляй з ёю разам,— яна будзе ведаць, якія ніткі патрэбны. Скажы, каб шляк унізе вышывала шырокі. Буду мець надзею, што гэта ўсё ты зробіш, калі сустрэнемся вясною, каб я яшчэ раз змог табе шчыра падзякаваць, бо зімою быць у Менску я не змагу,— мяне не пусцяць.

Браток Пятрусь, зрабі ўсё тое, аб чым я цябе шчыра прашу. (...)

За гэты тыдзень я атрымаў 6 лістоў, як ад сяброў, таксама і ад дзяўчат. Перш за ўсё атрымаў ліст ад Мані Туравец (гэта ўжо другі). Знаеш, брат, ізноў заваражыў дзяўчыну. Піша наступнае:

«Ученых много, умных мало,
Знакомых тьма, а друга нет!..»

Зусім не хоча забыцца на ўсё тое, што было паміж намі. А вось ад свае гераіні Кацярыны ўжо скора тры тыдні, як атрымоўваў ліст. Сам не ведаю, што за трасца. Праўда, у нас было некаторае непаразуменне. Перад яе апошнім лістом я пісаў наступнае:

Як пажоўкнуць лісты, завіюцца ў вянок,
Як пагаснуць асеннія зоры,—
Тады прыдзе яна, што пакляўся даўно,
І са мной ад душы пагаворыць...

І ўсё... А яна ў апошняй строчцы зрабіла невялічкую змену, відаць, не зразумела:

І з табой ад душы пагаворыць...

Каця.

Гэта так пісала яна.

Пасля гэтага я адказаў ёй яшчэ лепш, праўда, усяго верша не пісаў, толькі прыпісаў быў наступны куплет з гэтага верша:

Прыдзе ў строях яна, прыдзе ў шэлесце руж,—
Як заснуць явары пры даліне.
І ў апошні мо раз скажа слова «даруй»,
Ты пакляўся чарнявай Марыне.

На гэтым і абарвалася апошняе слова. Акрамя гэтага, яна мне пісала, што да яе прыехала хворая матка і лечыцца ў Менску. Добра не ведаю, праўда гэта ці не. Адным словам, ты чыркані мне аб ёй пару слоў. Бо я думаю ўсяго. (...)

Так, браток, хочацца і вельмі хочацца мне цяпер пабачыцца з табою. Але нічога. На той год спаткаемся ва універсітэце. Як уздумаю, як мы з табой гулялі і дзе гулялі, дык так і цягне ў Менск. Але калі прыдзецца пабываць у Менску — не ведаю.

Тое, што «Камуна» выпускае свой зборнік, дык гэта будзе не зборнік, а хаўтура. Адзін жаль! Літаратары-клевуны.

Ну, покуль што хопіць. Думаю, што скора атрымаю ад цябе адказ. Таксама маю надзею, што аб усім, аб чым я цябе прашу напісаць — ты напішаш. І выканаеш маю просьбу з вышыўкаю рубашкі.

Перадай прывітанне Алесю і Ніне (сваёй).

З прывітаннем ад шчырага сэрца

твой *Паўлюк.*

*6-ць гадзін вечара.*

*Дарагі Пятро!..*

Прабач, браток, што я адразу ж не даў адказу на твой ліст. Чаму?

А вось чаму. Як табе, пэўна, добра вядома, 25-га і 26-га снежня мы ладзілі літаратурныя вечары ў Гомелі. Каб ты толькі ведаў, што за вечары былі! Ніколі я не думаў, што так прыхільна нас сустрэнуць у Гомелі.

Першы вечар быў у клубе дому Кампрос. Да таго

было людзей, што не было дзе не толькі сядзець, а нават і стаяць.

Першым нумарам быў даклад Зарэцкага на тэму «Шляхі беларускае літаратуры». Пасля гэтага выступалі з чыткаю сваіх твораў Міхась Чарот, Крапіва, Дудар і я.

Адным словам, аб усім табе раскажа Крапіва, бо проста не маю магчымасці [перадаць] усіх тых уражанняў, якія засталіся ў публіцы пасля ўсіх вечароў.

Завідую, братка, табе, што едзеш на канікулы. Паехаў бы з вялікаю ахвотаю і я, каб мог толькі сам гэта зрабіць. Помню, калі мы з табою былі на канікулах, калі мы чуць не заначавалі ў каменскіх дзяўчат. Гэта ты добра і сам ведаеш.

Нядаўна ў Белпедтэхнікуме мы адсвяткавалі М. Багдановіча. Быў зроблены даклад аб яго творчасці. Пасля дакладу тав. Імшэльнік — загадчык навучальнае часткі рабіў свае ўспаміны аб М. Багдановічу. Потым я чытаў верш, прысвечаны памяці Багдановіча. Выступаў хор Белпедтэхнікума. Але каб ты пачуў, што гэта за хор, што за рэпертуар у гэтага хору. (...)

Ну, як мне здаецца, я табе абяцаў напісаць аб маім пахаджэнні з дзяўчатамі. Хоць я вельмі і вельмі абмежаваны часам, але раз абяцаў — трэба выканаць абяцанае.

Дык слухай.

Першы раз, як я толькі выступаў у Белпедтэхнікуме, мне адна дзяўчына цераз майго сябра Сабаленку (а ён вучыцца ў тэхнікуме) дае згоду дзеля знаёмства. Дзяўчына надзвычайна прыгожая, але ж ты ведаеш маю натуру, што я знаёмлюся толькі пад настроем. Вось тое самае вышла і тут. (...) Гэта па-першае. Па-другое: дзяўчына сама па сабе, як я табе ўжо сказаў, прыгожая, але разам з ёю стаіць яшчэ прыгажэйшая, а там яшчэ прыгажэйшая, і вочы разбягаюцца. Так і не пазнаёміўся я з гэтаю дзяўчынкай. (...)

Цяпер, браток, яшчэ раз буду прасіць: купі нітак і аддай рубашку, каб за час канікулаў яна вышыла. Купляй ніткі шаўковыя. (...)

Пішы, калі выязджаеш з Менску, каб я ведаў куды пасля пісаць табе.

Пішы аб усім, каб гэты твой ліст я змог атрымаць перад тваім ад'ездам.

Бывай!.. Твой *Паўлюк.*

Перадай прывітанне Алесю і сваёй, вядома, Ніне.

*Снежань, 1927 г.*

*21/I-28 раней, чым абяцаў.*

*Пятрусь!..* Каб ты... ...ліха тваёй галаве, здаровенек быў!..

Дзе ты, мілы, белабрысы,
Дзе ж ты?.. Азавіся!..

— Га?..

— А, каб ты нечага не чуў! Гад ты печаны, як кажа Якуб Колас. Ну гэта ж думаць! Гэта ж думаць! Хоць Крапіва і сказаў: — Ты не лайся, дзядзя, пры савецкай ўладзе... Але папаўся б ты мне сягоння на галодны зуб, то я б цябе. (...) ведаю слова, але — гм...м...м.

Гэта я так сабе, высокашаноўны сэр. Цяпер давайце пагаворым па-сяброўску.

Калі ты, браток, і сур'ёзна хворы, то буду прасіць цябе, братка, шанаваць сваё здароўе. Ведай адну формулу філасофіі: «Плюй на ўсё і шануй сваё здароўе», бо без здароўя цяжка, браток, жыць на свеце. Я таксама ў апошнія часы нешта, ліха яго ведае, недамагаю. Быў у Менску — адчуваў сябе заўсёды здаровы, а цяпер як якое насланнё.

Пішу, ды не ведаю нават з чаго і пачаць, бо вельмі ж даўно атрымаў ад цябе ліст. Я так і думаў, што з табою нешта здарылася. Нядаўна быў у Гомелі Шукевіч (гэта значыць барадач). Я ў яго пытаўся аб табе. Ён

мне адказаў, што ты з Кузьмом паехаў на вёску, тады я доўга не чакаючы папёр у тваю вёску дзве паштоўкі, але адказу не атрымаў. Ну, але ж гэта нічога... Прымаючы пад увагу тое, што дома за гарэлкаю ты не меў часу, я на цябе не гневаюся. Другі раз, браток, гэтак не рабі, бо я думаў, што з табою здарылася якое-небудзь няшчасце.

Пачну з самога сябе. Жыву як гарох пры дарозе: хто ідзе, то ўшчыпне, а то ўсміхнецца. Бывае часамі весела, а іншы раз дык хоць плач горкімі слязьмі. У такія хвіліны я суцяшаю сябе творчасцю. Пішу шмат, а яшчэ больш чытаю. За гэты час прачытаў амаль усяго Кнута Гамсуна, Пушкіна трэці раз, Даніле́ўскага, а цяпер чытаю Льва Талстога, выпісаў яго творы дадаткам да часопіса «Аганёк». Ведаеш, браток, што я падумаў. У цябе будуць летнія канікулы, у мяне водпуск прыпадзе якраз у той час — давай паедзем на Каўказ, але (або? — *Рэд.*) у Крым, хоць у адным і другім месцы я быў. Я цяпер абдумваю легенду «Русалка», запісаную мною ад аднаго крымскага татарына. І вось мне трэба пазнаёміцца з татарскім бытам, таму я і ўзняў гэта пытанне. Ну, адным словам, ты выкажаш мне свае думкі наконт гэтага.

Цяпер у Гомелі знаходзіцца маскоўская трупа, якая ставіць у тэатры Калініна драмы і камедыі. Тэатр я наведваю стала. Білет у нас дармовы на ўсю рэдакцыю, а драмы і камедыі ідуць па некалькі разоў, так што можна бачыць кожны твор.

Пазаўчора ішло «Каварства і любоў», учора — «Мікалай II-гі і смерць Пушкіна». Безумоўна, спадабалася мне «Каварства і любоў». Некаторыя характэрныя рысы ў асобе Луізы я поўнасцю прыстасоўваю да свае «высокашаноўнае асобы», хоць ад яе ўжо даўно атрымоўваў лісты.

Кватэры, пакуль што, я яшчэ не пераманіў, бо кватэру ў Гомелі дастаць вельмі трудна. Цяпер пару слоў

аб працы ў рэдакцыі. Працы, браток, па самыя вушы, асабліва — з літаратурных «навін». Пішуць усе, друкаваць няма каго. У шуфлядзе цэлыя кіпы літаратурнага матар'ялу. У апошнія часы я пачаў рабіць агляд гэтае творчасці на старонках свае газеты, а то ідзе ўсё ў паштовую скрынку. Адным словам, працы хапае, абы толькі здароўе бог даў, як кажуць людзі. (...)

А цяпер вось што, ты павінен мне чым скарэй напісаць ліст ад «Узвышша». Між іншым, мне гаварыў Шукевіч, што мой ліст зачытвалі на сходзе «Узвышша». З аднаго боку гэта добра, а з другога, як казаў Шукевіч, мяне, браток, узгрэлі б за такую заяву, каб даведаліся (...). Ну, але нічога, так сказаў мне Шукевіч. (...)

Чытаў, браток, артыкулы аб Кундзішу, чытаў артыкул самога Кундзіша на Александровічаў зборнік і поўнасцю з ім згодзен. Бо звычайна чалавека (Александровіча) хваляць, калі яго няма за што хваліць. Ну, але гэта, відаць, людзі «придворные» пісалі аб Александровічу, калі яго вельмі хвалілі. Рэпутацыя ні больш, ні менш. Думаю, што так? Чытаў таксама артыкул Сянкевіча аб Пушчу. Ну, гэта ўжо зусім не гадзіцца так рабіць. Выходзіць па Сянкевічу, што Пушчу не месца ў БССР, што гэта эмігрант, контррэвалюцыянер, прыхільнік Ярэмічаў і г. д., і г. д. Думаю, што ў наступным № «Узвышша» павінен быць адказ, павінны быць стала разгледжаны гэтыя вершы Пушчы, бо іначай нельга.

Больш пісаць, здаецца, не маю чаго. Калі атрымаю ад цябе ліст, тады, мабыць, і напішу больш. Ведаеш, браток, як мне хочацца цябе ўбачыць, але ўбачыцца, мусіць, мы зможам толькі на выпуску Белпедтэхнікума. На выпуск прыеду абавязкова, ну, а на той год сустрэнемся ва універсітэце.

Не забудзься напісаць аб тым, ці выканаў ты маю просьбу ў адносінах рубашкі. Адным словам, напішаш

ліст, грунтуючыся на тых пытаннях, якія пастаўлены перад табою ў перадапошнім тваім лісце.

А цяпер бывай здаровенек! Папраўляйся, браток, і пішы мне ліст, буду чакаць,

твой *Паўлюк.*

Прывітанне Ніне. (...)

Яшчэ раз бывай, не забывай.

Цалую цябе, і ад душы жадаю ў самым хуткім часе паправіцца.

Дарагі, ліха тваёй галаве і ятроўцы, *Пятрусь Тодаравіч Глебка!* Добры дзень Вас (не думай, што пад словам «Вас» я разумею антысемітызм, зусім не). Гэта я так сабе, бо люблю вельмі такі зварот.

Ах ты, прахвост гэтакі! Ты яшчэ ўздумаў абвінавачваць мяне ў тым, што, як быццам, я не хацеў табе адпісваць ліст. Ах ты — гад печаны, як гэта кажа дзядзька Колас. Дык слухай жа ты — галава твая садовая. Я зараз уваходжу ў ролю пракурора і буду грэць табе ў хвост і адначасна ў грыву, як казаў Крапіва.

Я ніколі не думаў і думаць нават не хацеў, што ваша асоба стала такім арыштантам. Гэта ж толькі падумаць, богу дзякаваць (я ў бога не веру, гэта так, па прывычцы) скора будзе 2 з паловай месяцы, як паслаў яму ліст, а ён — паважаны Пятрусь Тодаравіч хоць бы (...), як быццам гэта яго зусім не датычыцца. А яшчэ адгаворваецца, што былі нейкія прычыны. Пакажы мне гэтыя прычыны, пакажы мне, як кажуць, дыялектыку гэтых прычын. Не, брат, тут ты ў мяне не выкруцішся. (...)

Табе, напэўна, вядома, што не так даўно я ездзіў ва Уваравіцкі раён распаўсюджваць сялянскую пазыку, а са мною яшчэ ездзіў прадстаўнік ад фінчасці тав. Дудкін. Бядовы чалавек, гэты Дудкін, хоць ты, безумоўна, яго і не знаеш. Усюды, дзе мы толькі былі, да-

клады аб сялянскай пазыцы рабіў я. Так, брат, гаварыў, з такім запалам, што аднаго дзеда гадоў пад 60 да слёз давёў і дзед нехаця падпісаўся на аблігацыю. (...)

Амаль у кожным месяцы ў мяне не там, дык там бывае беларускі літаратурны вечар. Безумоўна, каб чытаў газету «Полесская правда», то ты бачыў бы там маю працу як літаратурную, так і чыста грамадскую, бо аб кожным вечары я заўсёды даю вялікі артыкул у «Полесскую правду».

Не так даўно быў я ў Рэчыцы і ў Буда-Кашалёўску, дзе праводзіў вечары беларускае літаратуры і дзе мяне ўжо ведаюць як сабаку. У Рэчыцы даклад «Беларусь у мінулым і сучасным» рабіў паважаны Змітро Дунько, а я выступаў з чыткаю сваіх твораў. У Буда-Кашалёўску (там жа маецца сямігодка) я рабіў даклад аб беларускай літаратуры і таксама зачытваў свае творы. Пасля гэтага цераз некаторы час я зноў наведаў Буда-Кашалёўск, дзе правялі вечар, прысвечаны 10-годдзю літаратурнай чыннасці Міхася Чарота. (...)

Цяпер аб маім паступленні ва «Узвышша». Я не раз думаў, не раз хацеў паслаць Бабарэку другі ліст, бо на першы ён чамусьці мне не адказаў, аб маім паступленні ва «Узвышша». Я лічу больш мэтазгодным (і, па-мойму, гэта будзе зусім правільна), калі я падам заяву ўвосень. Чаму гэта я так думаю? А вось чаму. Справа ў тым, што, прыехаўшы ў Менск, я думаю як-небудзь з восені залічыцца ва універсітэт. Дык вось, каб не было ніякае затрымкі з боку «Маладняка» аб маім залічэнні ва універсітэт, я і лічу, што будзе куды мэтазгодным, калі я падам заяву пасля таго, як мяне залічаць у універсітэт. Гэта адно. А другое вось што, калі я толькі цяпер выйду з «Маладняка», то апошні цераз сваіх лідэраў можа павесці такую палітыку, што не дадуць мне дапрацаваць у рэдакцыі да восені. Мала можа знайсціся якіх-небудзь прычын. І трэцяе, «Ма-

ладняку» я застаўся вінават яшчэ руб. 50 грошай, якія мне патрэбна выплаціць, каб ужо развітацца зусім. Праўда, быў змешчан мой верш у прозе, думаю, што ты чытаў, так што мне засталося яшчэ рублёў некалькі.

Вось тыя прычыны, якія я лічу паважнымі для мяне самога, і аб гэтым ты павінен будзеш сказаць хлопцам. Прыехаўшы ў Менск, я пагавару з імі сам.

Наконт гадавіны «Узвышша». Я, браток, з вялікаю ахвотаю прыехаў бы ў Менск 26-га мая, але справа вось у чым, што водпуску з 15—20 мая я ўзяць ні ў якім разе не магу, і не магу па тым прычынам. Першая, 15-га мая ідзе ў водпуск рэдактар газеты тав. Рычкоў (Грушына ўжо змясцілі) і едзе на курорт у Кіславодск на цэлы месяц. Другое, што не дае мне мажлівасці ўзяць водпуск з 15-га мая — гэта беларусізацыя газеты. У мяне, брат, цяпер столькі працы, што я ніколі не маю нават вольнае хвілінкі часу.

Вось чаму, дарагі браток, я не змагу быць у Менску ў дзень гадавіны «Узвышша». Гэту гадавіну я пастараюся адзначыць у Буда-Кашалёўскай сямігодцы, дзе мае быць скора наладжан беларускі літаратурны вечар.

Цяпер аб матар'ялу ва «Узвышша». Паколькі ў мяне яшчэ не ўсе вершы з нізкі «Вясковыя мелодыі» апрацаваны, то я пасылаю вам адзін верш «Ліст да сястры». У наступны нумар я прышлю матар'ялу больш. Цяпер я стала заняты падрыхтоўкай вершаў «Чырвоныя ружы». Думаю ўжо падрыхтаваць такі зборнік, каб ніякія (...) Шукайлы не мелі прэтэнзій.

Вось чаму, тав. Адамовіч (гэта будзе тычыцца вас), цяпер я менш пішу. І вельмі рана збіраюцца мяне хаваць тыя, якія гавораць «пакойнік Павел Адамавіч». Яшчэ паглядзім, хто каго будзе хаваць і хто каго пахавае.

Дык я ж кажу, у наступны 4-ы нумар я прышлю або «Крымскія матывы», або «З нізкі вершаў «Вяско-

выя мелодыі». А пакуль што падсылаю вам адзін верш, які таксама належыць да «Вясковых мелодый».

Ну што ж, на гэтым мы, мусіць, дарагі Пятрусь, і развітаемся?

Ты зайдзі яшчэ да Марысі і скажы ёй, што я прасіў, каб яна паведаміла мяне, ці гатова будзе рубашка: вышыта і пашыта. Альбо аб гэтым дакладна ўжо напішы мне сам.

Пісаў, пісаў і ўсё роўна не сказаў усяго таго, што хацеў сказаць. Але на днях убачымся, тады пагаворым аб усім.

А пакуль бывай здароў. Адказ дай тэрміновы, буду шчыра дзякаваць.

Вітаю жонку.

І цалуе цябе твой *Паўлюк.*

Перадай прывітанне (...) Алесю — гультаю, абібоку, недаварку, арыштанту (...), так і скажы яму.

P. S. Як толькі стала даведаюся, калі ў тэхнікуме мае адбыцца выпускны вечар — паведамлю, каб ты прышоў на станцыю мяне сустракаць. Гэта па-першае.

Па-другое, адразу ж перадай верш Бабарэку, бо, можа, часам верш і не падыходзіць да друку, хоць мне здаецца, што верш вытрыманы з усіх бакоў.

Па-трэцяе, напомні Бабарэку аб урыўку з паэмы «Сірата Алеся», каб ён стала разглядзеў гэты ўрывак, бо, будучы ў Менску, я зайду да яго.

І па-чацвертае, зноў жа кажу, напішы ўжо канчаткова аб рубашцы, каб я добра ведаў, што яна будзе гатова.

Бывай яшчэ раз. Чакаю тэрміновага адказу.

*12-га травеня 1928-га году.*

Глядзі ж, *Пятрусь*, як толькі паведамлю цябе аб маім выездзе з Гомеля, каб ты пазваў хлопцаў і будзеце сустракаць мяне на станцыі.

І скажы Адаму, што я скора маюся быць у Менску і зайду да яго, каб ён даў мне параду наконт таго ўрыўку з паэмы «Сірата Алеся». Мы з ім пагаворым, бо я сам адчуваю, што там ёсць некаторы ўплыў Шаўчэнкі *Кацярыны* і Пушкіна *Марыі*.

Па-другое, вытлумач яму ўсе прычыны, чаму я не магу падаць заявы цяпер, бо зноў жа кажу: праз належныя дыстанцыі лідэры «Маладняка» могуць паведаміць у рэдакцыю (...) і не дадуць мне магчымасці дабыць у рэдакцыі да восені.

Усё роўна мой погляд на «Узвышша» не зменіцца. Калі я ўвесь час, праводзячы той ці іншы літаратурны вечар у Гомельшчыне, папулярызаваў «Узвышша», то гэта самае я раблю і буду рабіць і далей.

*Здароў, Пятрок!*

Завідую, брат, табе і тваёй, безумоўна, жонцы, што вы зараз адпачываеце дома. Гэта я разумею, адпачываць у вёсцы, ды яшчэ з жонкаю. Я ўвесь час не счакаюся таго моманту, калі таксама вярнуся на бацькаўшчыну, дзе я радзіўся, гадаваўся, дзе правёў дарагія гады свайго дзяцінства.

Ты, трасца тваёй галаве, уздумаў з мяне пасмяяцца, што я напісаў такую вялікую заяву, а я думаў, што і гэтага будзе малавата.

Справа вось у чым. Як толькі я выехаў з Менску (на вакзал мяне праводзіў Максім), ён зараз жа паведаміў мне, што я павінен напісаць заяву, у якой адзначыць усю працу, якая мною праведзена і праводзіцца цяпер. Ну, я, значыцца, і ўзяўся, і ўзяўся, і напісаў столькі, што сапраўды шмат трэба было б затраціць «акадэмічнага» часу, каб прачытаць яе.

Разам з адказам на твой ліст пасылаю заяву (...) на імя наркома тав. Баліцкага. Думаю, што ён усё зробіць і паведаміць мне пісьмова, аб чым я яго і прасіў.

Цяпер пісаў зусім коратка — «пришел, увидел, победил».

Жыву пакуль што добра. Гаспадыні мае — жанкі ого-го і глядзяць мяне добра. Перайшоў на дзіэт і адчуваю сябе таксама добра. Стала працую над падрыхтоўкаю да друку зборніка вершаў. (...)

Цяпер распачаў вялікі цыкл вершаў «Дзяўчына» (...).

Слухай, Пятрусь, водпуск у мяне будзе 15-га жніўня, мабыць, я цябе яшчэ застану дома, а калі застану, то абавязкова пабываю ў цябе.

Зараз у Гомель прыехала Маскоўская опера, і таму я амаль кожны дзень наведваю тэатр імя Калініна. У кастрычніку гэтага года маецца прыехаць у Гомель 2-гі БДТ. Заўтра я даю ў сваёй газеце артыкул дырэктара гэтага тэатра тав. Некрашэвіча.

На гэты раз хопіць. Думаю, што ты мне напішаш аб вясковым жыцці, напішаш, як ты сябе адчуваеш дома, ці можна спадзявацца на папраўку, як гуляеш (хаця, праўда, ты з жонкаю, так што з дзяўчатамі гуляць не прыдзецца), адным словам, чакаю ад цябе ліста куды большага, як мая заява.

Перадай прывітанне сваім (я думаю, яны мяне яшчэ помняць, калі я быў у вас), жонцы таксама перадай прывітанне, а сабе як хочаш.

Твой *Паўлюк*

*11-га ліпеня 1928 году.*

Р. S. Пішы на адрас кватэры.

*У Менскі*
*Беларускі Дзяржаўны Унівэрсітэт*

## Заява

У чэрвені 1927-га году я скончыў Менскі Беларускі, імя Усевалада Ігнатоўскага, Дзяржаўны Педагагічны Тэхнікум, дзе мне і выдалі характарыстыку на права выкладання беларускае мовы і літаратуры ў сямігодцы.

Па сканчэнні Белпедтэхнікуму я адразу ж думаў пераводзіцца ва Унівэрсітэт, але з прычыны таго, што я, пачынаючы з народнае школы, вучыўся на працягу дванаццаці год, я і парашыў адзін год, а менавіта 1928-мы, ахвяраваць на грамадскую працу.

Я не захацеў заставацца ў Менску і выехаў у Гомельшчыну, маючы на ўвазе тое, што Гомельшчына яшчэ толькі нядаўна далучана да Беларусі і там для мяне адчыніцца шырокае поле грамадскай дзейнасці.

Калі я прыехаў у Гомель і з'явіўся ў акругов ы аддзел народнае асветы, то там было ўжо вызначана для мяне сталае месца, я павінен быў ехаць у Рэчыцкую 9-цігодку і заняць пасаду выкладчыка беларускае мовы і літаратуры.

Праўда, на настаўніцкай працы я не застаўся, бо працаваў ужо ў Гомельскай акруговай сялянскай газеце «Новая Вёска». Праз некаторы час газета гэта ліквідавалася, і я застаўся працаваць у газеце «Палеская Праўда», у якасці загадчыка беларускім аддзелам.

Спачатку працы было не вельмі шмат, і я мог некаторыя вольныя хвіліны часу аддаваць на літаратурную дзейнасць. Але потым у рэдакцыю стала паступаць усё больш і больш беларускіх заметак. Гэтыя заметкі ў большасці сваёй з'яўляліся напаўрасійскімі, толькі з

некаторымі адзнакамі зваротаў беларускіх народных слоў. І вось, каб апрацаваць такую заметку, патрэбна было затраціць шмат часу і энергіі, не гаворачы ўжо аб артыкулах, якія гомельскімі працаўнікамі пішуцца па слоўніку Некрашэвіча і Байкова.

Акрамя рэдакцыйнай працы, я пачаў праводзіць шырокую працу (...) па азнаямленню масаў Гомельшчыны з беларускай літаратурай і культурай наогул.

Калі я стаў сустракацца з людзьмі, якія не ведаюць і нават не хочуць прызнаць, што існуе нейкая Беларусь, не гаворачы ўжо аб яе багатым гістарычным мінулым, то гэта яшчэ больш надавала мне ахоты абудзіць у людзей забытую імі нацыянальную свядомасць, абудзіць сярод іх любасць да Беларусі, у прыватнасці да беларускае мовы і літаратуры. З гэтага якраз часу і пачаліся мае выезды ў раёны Гомельшчыны.

Першым маім выездам быў Уваравіцкі раён, куды мяне накіравалі як прадстаўніка ад рэдакцыі па справе распаўсюджання пазыкі ўзмацнення сялянскае гаспадаркі. Акрамя тых дакладаў, якія мне прыходзілася рабіць аб пазыцы ў шмат якіх вёсках і пасёлках гэтага раёну, я праводзіў яшчэ і культурную працу сярод вясковай моладзі. Калі я з'явіўся ў в. Бацунь і даведаўся аб тым, што прайшло ўжо 6 месяцаў, як не працуе хата-чытальня, я зараз жа склікаў вясковую моладзь, зачытаў ёй даклад на тэму «Беларусь і яе культура», а пасля наладзіў чытку беларускае літаратуры. Моладзь была вельмі і вельмі зацікаўлена гэтым, асабліва чыткаю беларускіх апавяданняў са зборніку М. Чарота «Веснаход» і вершамі Крапівы.

Другі вакальна-літаратурны вечар быў праведзены ў м. Рэчыцы сярод рабочых і вучняў 9-цігодкі, дзе я выступаў з чыткаю сваіх твораў.

Акрамя таго, мною было праведзена 4 літаратурныя вечары ў Буда-Кашалёўскім раёне, дзе маецца маладнякоўскі гурток. (...)

Я не буду гаварыць аб усёй той працы, якая праводзіцца мною ў Гомельшчыне, скажу толькі адно, што, будучы настаўнікам, я не змог бы праводзіць такую шырокую грамадскую працу, якую я праводжу цяпер.

Але трэба сказаць, што ўся гэта грамадская праца, і асабліва рэдакцыйная, не дае мне магчымасці аддацца літаратурнай дзейнасці. Я думаў, што, працуючы ў рэдакцыі, у мяне будзе шмат вольнага часу, які я і ахвярую на літаратурную творчасць. Але вышла наадварот.

За гэты час я напісаў мала, бо, зноў жа кажу, грамадская праца не дае мне магчымасці заняцца літаратурай. Вось чаму я прашу залічыць мяне ва Універсітэт, які праз тры гады я думаю скончыць і набыць вышэйшую адукацыю, бо толькі тады той ці іншы пісьменнік зможа даць што-небудзь каштоўнае для беларускай літаратуры, калі ён будзе чалавекам усебакова асвечаным, чалавекам культурным, у шырокім сэнсе гэтага слова.

Прасіцель *Паўлюк Трус.*
*26-га чэрвеня 1928-га году.*

Пасведчанне аб сканчэнні Белпедтэхнікума і ўсе неабходныя дакументы надашлю да заявы пасля.

# Лісты

# да Паўлюка Труса

## ПЛАТОН ГАЛАВАЧ — ПАЎЛЮКУ ТРУСУ

[*Без даты*]

*Дзень добры, Паўлюк!*

Па-першае, я занадта нядобра раблю, што адказваю на твой ліст толькі зараз, больш як праз месяц. Гэтаму віной і маё гультайства і занятасць, бо за гэтыя часы я рыхтаваў матэрыялы да пленума ЦК партыі і да партз'езда, і да пленума ЦК ЛКСМ. Нягледзячы на гэта, я тваё заданне пастараўся выканаць, я ў той жа дзень праз аднаго таварыша перадаў Тураўцу, каб ён зняў цябе з вучоту і пераслаў табе дакументы, потым праверыў, ці зроблена гэта.

Навін у мяне ніякіх асаблівых няма, жыву як жыў. У «Маладняку» навін таксама мала. Ужо праходзяць заняткі па пятніцах у памяшканні «С[авецкай] Б[еларусі]», бо свайго памяшкання няма. Ходзяць думкі аб рэарганізацыі «Маладняка», пакуль што гэтае пытанне не вырашана. Як вырашыцца — напішу. Былі праведзены некалькі літсуботнікаў па ініцыятыве федэрацыі. Лаянкі было на гэтых суботніках больш, чымся добрага, асабліва з боку так званых «футурыстых» нашых — Шукайла, Відук ды іншыя, арганізаваныя ў «Камуну». Аб Шукайле багата гаварыць не варта, што гэта за тып — ты не меней за мяне ведаеш. Зараз ён носіцца з сваёй арганізацыяй, узняў па ўсяму Менску ў сувязі з гэтым вельмі багата шуму, крычыць, лаецца, пачынае

лаяць, напрыклад, Дудара... Друґога цікавага для цябе няма.

*Платон Галавач*

Яшчэ раз прашу прабачэння, што так доўга не адказваў.

*Галавач*

### ІЛАРЫЙ БАРАШКА, ВАЛЕРЫЙ МАРАКОЎ І ВАСІЛЬ КАВАЛЬ — ПАЎЛЮКУ ТРУСУ

*16 чэрвеня 28*

*Дарагі Паўлюк!*

Ліст твой атрымалі. Аднак усё ж ткі парашылі па дарозе на Украіну вечар «Маладняка» 20 чэрвеня ў Гомелі наладзіць абавязкова. Бачыш, адклад не ідзе ў лад. І прытым наш літаратурны вечар ані ў якім разе не адмаўляе наладжанне вечара старэйшымі пісьменнікамі. Нельґа так ставіць пытанне, што «калі сталыя пісьменнікі адмовяцца прыехаць, тады «Маладняк» асобна можа наладзіць вечар у Гомелі», як ты пішаш. «Маладняк» — гэта маладняк. Адным словам, ты, як наш паўнамоцны прадстаўнік у Гомелі, падрыхтуй усё як след. Ну, вось і ўсё.

*І. Барашка*

*Паўлюк!*

Прыеду разам з хлопцамі і я.

*Валеры*

*Здароў, Паўлюк!*

Мы мяркуем гэты вечар зрабіць па дарозе на Украіну. І гэты момант трэба выкарыстаць, каб другі раз не прыязджаць сумысля.

*В. Каваль*

## ЗІНАІДА БАНДАРЫНА — ПАЎЛЮКУ ТРУСУ

[*Без даты*]

*Добры дзень, Паўлюк!*

...Зусім неўзнарок папалася я ў рэдакцыю; ведаеш, прыехалі ў Гомель позна — месцаў добрых у школу няма, вось і ўхапілася за саломінку. Зараз крыху і шкадую, але нічога не зробіш. Праца, бадай, табе знаёма, вось толькі ж па ліха падсунулі літстаронку.

Была ў Буда-Кашалёве, пазнаёмілася там з Вашай сімпатыяй. І трэба шчыра сказаць, што густ у цябе ніштаваты. Як заняткі? Вітаю з паступленнем на педфак. Я з Халімай (жывём мы разам) будзем рады бачыць цябе сваім госцем у самым хуткім часе. Прывітанне Каратаю, Серадзе. Бывай і абавязкова пішы.

*Зіна*

Пажадана, каб вы прыехалі 11 кастрычніка, бо я буду святкаваць свае 20 («совершеннолетие»). Дык прыязджайце ж!

*Зіна*

## МАКСІМ ЛУЖАНІН — ПАЎЛЮКУ ТРУСУ

*7.XII.1927*

*I*

*Здароў, Паўлюк!*

Што ж гэта ты, брат, ні гу-гу?! Выслаў табе нядаўна паштоўку, хіба не атрымаў ты яе? Ну і вось, непакоячыся за твой лёс, пішу ўслед другую. Не пішу, вельмі гэта громка сказана будзе, а дыктую, балазе, добры чалавек піша.

З практычнымі я разлічыўся, ды вось на ліха выкруціў трохі руку і пакутую... Мы праз тры дні на канікулы. Не забывай, пішы.

*А. Каратай*

а за яго, «неграмотного», па яго «личной» просьбе распісаўся *Я. Жук.*

*II*

*Паўлюк!*

Справа такога гатунку — Кузьма быў у Баліцкага, і ён казаў, што ўсё зробіць. Толькі табе трэба напісаць заяву, у якой выпажыць усю справу і чаму ты хочаш паступаць ва універсітэт. Наогул, напішы ўсё, што меў яму сказаць. Заяву перасылай нам, Адаму (Гарбарная, 18, кв. 1, А. Б[абарэка], на імя Наркамасветы. Як ты гадуешся і ці добра заехаў? Я патроху гуляю. Пакуль бывай. Хутка напішу з вёскі.

Твой *Алесь*

*12 чэрвеня 1928 года*

Прывітанне ад хлопцаў.

*III*

*Дарагі Паўлюк!*

Заўчора атрымаў твой ліст, не меў магчымасці адказаць, а каб не пазніцца з адказам, пішу паштоўку. Даруй мне за гэта. Зараз я сяджу ў Слуцку і ліквідую адну дужа непрыемную справу... Пісаць аб гэтым не хочацца, тым болей у адкрытцы. Калі ўладжуся, напішу многа і шчыра. Жыву наогул так сабе. Хваліцца няма чым. Ты паедзеш у вёску — пішы адтуль. Будзем, пэўна, праязджаць праз Менск, дык паварушы справу з універсітэтам. Бо, як кажуць, пад ляжачы камень і вада не пацячэ. Мы ўжо справілі зажынкі. Я гуляў і здорава спяваў. Адчуваецца восень. Цвітуць вяргіні, відны ластаўкі на дратах. Пакуль жа будзь здароў. Пішы.

Твой *Алесь Слуцак*

*I*

*Дарагі наш сын Паўлюк!*

Нешта ты, мусіць, на нас загневаўся. Ці, можа, зноў хворы? Мы штодзень чакаем пісем, а іх усё няма, дык нам больш здаецца, што ты хворы. Мы ўсё думаем, думаем, што ты, можа, куды паехаў, што ўжо гэтак доўга няма пісьма, ці, можа, ты загневаўся, што мы ў цябе грошай прасілі, і не шлеш пісьмы.

А пакуль бывай здароў.

*Бацька.*
*13.IX.27 г.*

*II*

*Дарагі наш сын Паўлюк!*

Пісьмо тваё атрымалі, за якое шчыра, шчыра дзякуем. Ты пішаш, што мы табе не адпісалі, мы не ведалі, што ты там.

Адпішы нам скора, можа, ты можаш цяпер прыслаць рублёў хаця 15? Мы яшчэ пастуху не аддавалі, потым у дзядзькі, у Петрусёвых, 8 рублёў пазычалі. Так што прыходзіцца паследняга парсюка прадаць. Дык вот, можа, зазлуеш, але не злуй, а адпішы нам скора, ці можаш ты гэта зрабіць, ці не. Калі не можаш, дык прыйдзецца парсюка прадаць.

Буду яшчэ ў цябе пытацца, можа, у цябе ёсцека што падношанае, дык прышлі.

Ты нам пісаў пра пальто, дык яшчэ не сыскалі, не было каму сыскаць.

Нешта мама нездаровая.

Бывай здароў! *Бацька.*

Яшчэ чаго прашу. Выпішы газету «Беларускую вёску».

*19.1.28.*

### *III*

*Дарагі наш сын Паўлюк!*

Касіць яшчэ ў нас не косяць, сяголета надта дрэнная трава, няма чаго касіць. Заўтра, 13 ліпеня, нам трэба ехаць у Каменку на вяселле. Алена ідзе замуж у Боркі. Наш Юрка быў дома дзён са тры. Недзе ехаў, дык заязджаў. Я яго вазіў у Негарэлае. У нас цяперака аўтобус ходзіць з Койданава на Узду. Калі ў цябе ёсцека падношаная адзежа, дык не раскідай яе, прывязі дадому. Потым мама просіць, каб абавязкова прывёз сандалі, дык яна хадзіла б абутая.

Пакуль бывай здароў! Пішы часцей; чакаем. *Бацька.*

*12.VII.28.*

## БРАТ — ПАЎЛЮКУ ТРУСУ

### *I*

*Дарагі брат Паўлюк!*

Я цябе прасіў, каб ты прыслаў мне свой зборнік, а ты не прыслаў. Твае вершы многім падабаюцца. Трэба, каб ты прыслаў зборнік, калі ён ёсцека. Напішы мне, ці здаў свой той новы зборнік? Як быў дома, ты гаварыў, што скора здасі. Напішы мне, ці табе цяжка працаваць, ці не? Пішаш ты гэтак вершы, як у Менску, бо ўжо тваіх вершаў не чуваць.

*8.XI.27 года*

### *II*

*Дарагі мой брат Паўлюк!*

Калі я быў у Менску, дык я табе казаў, што пішы часта пісьмы, а ты гэтага не спаўняеш. Пасля таго

прыслаў адно пісьмо. Тагды ўжо мама была моцна хворая і да гэтага часу яшчэ жыла. У нядзелю 16 снежня раніцаю памерла. Так што засталіся мы без мамы. Кепска цяпер. Цяжка надта забываецца. Вельмі не хацела яшчэ ўміраць. Хацела яшчэ пажыць. У суботу рана, калі мы яшчэ пазвалі фельчара, дык ён сказаў тату ціха, што нічога не будзе. Яна здагадалася ды і кажа: «Дык вы мне і рабіць нічога не будзеце?»

Напішы, калі ты дадому прыедзеш, і яшчэ раз буду прасіць: пастарайся як-небудзь мне грошай на боты. Ты сам ведаеш, што было нам кепска, а цяпер яшчэ горай.

Бывай здароў.

*20 снежня* [*1928*]

*Алесь Якімовіч*

## Памяці таварыша П. Труса

Ён толькі пачынаў яшчэ ў ветрах буйных развейваць маладосць сваю...

А якая багатая была яго маладосць!

Ён — звычайны сялянскі хлапец, з вёскі Нізок, выгадаваны ў бядноце, у смутках, выгадаваны ў цішы сізялёных вербалозаў, акружаных «усмешкамі зор», сінімі беларускімі краявідамі.

«Ветры буйныя» адчуў наш любы Паўлюк у пяруністых грымотах рэвалюцыі, калі яшчэ зусім малым дзіцём паехаў разам з Чырвонай Арміяй «на Варшаву», як абознік...

Ён толькі яшчэ — узыходзячая новая зорка на буйным літаратурным небасхіле.

Бо ён толькі пачаў «зацвітаць увосень пад усмешкай зор».

Ён толькі яшчэ пазнаваў усю глыбіню, усю рэвалюцыйна-сацыяльную вартасць «ветраў буйных», калі выходзіў разам з вольнай Беларуссю на «Дзесяты падмурак».

А колькі праўдзівасці, хараства, шчырасці, гераічнага пафасу ў гэтай яго паэме. А як гарманічна зліваюцца акорды песень «Дзесятага падмурка» з волацкім будаўніцтвам у краіне балот, нізін, «маўклівых сосен», дзе «працай заняты муляры». Гэты творчы размах будаўніцтваў заўладаў і рэшткамі сялянскага ад-

вечнага суму, які часта прарываўся ў асноўную крыніцу творчасці слаўнага паэты. І калі ў першыя гады ён захапляўся невычэрпнымі крыніцамі народнай творчасці, часта-густа сумнай, і пад уплывам яе складаў свае песні, дык цяпер, у апошні год свайго жыцця, Паўлюк зліваецца як паэта з творчым калектывам — з Беларуссю рабочай.

Буду слухаць песні Асінстрою,
Захапляцца музыкай турбін...

Гэтага жадаў цёмна-русы кучаравы юнак — камсамолец, з вясёлай «усмешкай зор» на вуснах. Гэтага жадае і над гэтым працуе ўся рабоча-сялянская Беларусь, яе авангард — камуністычная партыя, як сказаў на XII з'ездзе партыі тав. Гамарнік.

Яго любіла ўся моладзь, усе блізкія таварышы. Паўлюк здолеў ужо ў першы год сваёй шчырай багатай творчасці заўладаць чытачом і слухачом. Бо яго творчасць — гэта перакладзеная на музыку творчасць працоўнага калектыву, які будуе «край фабрык дымных і машын».

Смерць скасіла яго на 25 годзе жыцця. А пачаў жа ён жыць толькі з 23-га году, калі зашумеў сваімі песнямі «прыгожы маладняк».

Яго няма... Толькі ж

«...Вобразы роднага сына
Будуць доўга
Цвісці ва ўспамінах,
Хоць гады
Маладосці завянуць».

*1929*

*Кузьма Чорны*

## Думкі пра Паўлюка Труса

Дзесяць год таму назад, на дваццаць пятым годзе жыцця, памёр выдатны беларускі паэт Паўлюк Трус. Гэта была вялікая страта для беларускай літаратуры, якая адчуваецца і сёння. Паўлюк Трус быў выдатным талентам, ён рос бурна і моцна, ён ужо дайшоў да сваёй спеласці, ужо быў на грані свайго вялікага росквіту, ён ужо раскрываўся ва ўсёй сваёй шырыні. Перад гэтым талентам і ў ім былі вялікія магчымасці.

Паўлюк Трус прыйшоў у літаратуру ў 1924 годзе. Гэты талент быў тады яшчэ стыхіяй, ён, як крыніца, бурна выходзіў з нетраў народнага жыцця і плыў кіпучым струменем. І вельмі скора ён пачаў уваходзіць у роўную шырыню берагоў паэтычнай дзейнасці.

Самай важнай і цікавай рысай паэзіі Паўлюка Труса была яе народнасць. Ён быў увесь у сучаснасці. Рэвалюцыя, родная прырода, народны быт — вось тыя моманты, якія поўным голасам гучаць у яго паэзіі. Тонкая лірыка і эпічнасць з глыбокімі адценнямі народнага гумару — здабыткі яго паэтычнага слова.

Момант з'яўлення ў беларускай паэзіі Паўлюка Труса быў часам, калі ў нашай краіне толькі што скончылася грамадзянская вайна, калі вызвалены і шчаслівы народ, пасля вялікіх сваіх ваенных перамог, браўся за мірную працу па пераўтварэнню сваёй радзімы. Гэту радасць перамогі востра адчувала душа паэта.

Гасне цемры панаванне,
Шчасцем поўніцца душа,—

гучыць музыка Трусавай паэзіі («Асенняя праца»).

Якія элементы ўваходзяць у паняцце «народнасці» паэзіі і наогул літаратуры? Трэба памятаць, што народ

не ёсць штосьці абстрактнае. Рэвалюцыя — гэта ёсць канкрэтная дзейнасць народа. Народ жыве ў пэўных прыродных умовах. Народ мае свой быт. Народ мае сваю мову. Творчасць Паўлюка Труса мела гэтыя моманты за свае вытокі. Яго творчасць грунтавалася на матывах рэвалюцыі. Гэта былі вершы і паэмы, у якіх рэвалюцыйныя матывы не гучалі абстрактна. Гэта была сама канкрэтнасць, выражаная мастацкім словам. Народ робіць рэвалюцыю ў пэўных умовах і ў пэўным часе. І калі паэт піша аб «краіне бяссмертнага Леніна» («Сёмая гадавіна»), калі ён піша:

Гэта звоніць кужэльная вёска,
Да Кастрычніка туліцца ўся...—

то гэта ідзе ад самой прыроды Трусавай паэзіі, якая заўсёды была звязана з канкрэтным бытам народа. У тыя часы вёска была яшчэ кужэльная, яна толькі што яшчэ скінула з сябе панскае панаванне, і

На ўлонні тых жывых чырвоных гоняў,
Дзе ўчора бура нам спраўляла баль,—
Жыццё хвалюецца і пеніцца сягоння,
З грудзей зямлі змывае смутак-жаль.

(*«Золак вясны»*)

Чытаючы вершы Паўлюка Труса аб рэвалюцыі, мы адчуваем, што гэта адбываецца дзесьці тут, блізка, каля нас, што тут дзейнічаюць людзі нам добра вядомыя, мы адчуваем усёй душой, што гэта ідзе да новага шчаслівага жыцця родны нам чалавек-просталюдзін, аптымізмам і радасцю якога поўніцца ўсё навакольнае. Мы адчуваем, што ў гэтым працэсе быццам бы (і сапраўды!) удзельнічаюць і палі, і лясы, і азёры, і рэчкі, і вятры, і шырокія разлогі. Больш таго, мы адчуваем нават каларыт пары года і пах быту. Мы бачым палявыя дарогі і ўзлескі, чуем гоман лясоў і гукі машын, мы чуем мову, поўную высокай лірычнай узнятасці і тонкага бытавога гумару. Паўлюк Трус, гэты тонкі лірык, быў у той жа час і самым сапраўдным эпікам,

і вельмі часта ў адным і тым жа творы дзве плыні зліваліся ў адно музычнае гучанне.

Вобразы Паўлюка Труса заўсёды канкрэтныя. Вобраз правадыра ў яго паэтычным мысленні асацыіруецца з жыццём і бытам народа. Ён мысліць правадыра ў народзе.

Песню «Ленін»
красуні-дзяўчаткі
прапяюць у жніво пад капою,
прапяе
і пастух каля статку
пад зялёна-кудравай вярбою...

*(«На смерць Леніна»)*

Дзіўная рэч, але наша крытыка чамусьці заўважала толькі адзін бок паэзіі Паўлюка Труса, яе лірычнасць, тады калі нельга поўнасцю ацаніць яе, ігнарыруючы яе эпічнасць. Тым больш гэта дзіўна, што гэтыя дзве плыні ў творчасці Труса нельга аддзяліць адну ад другой.

Многія вершы Паўлюка Труса ёсць апавяданні аб пэўных здарэннях і падзеях, многія яго вершы — гэта жанравыя карціны, карціны быту, карціны працы.

Паўлюк Трус быў такім талентам, які бурна рос і фарміраваўся. Ён убіраў у сябе лепшыя здабыткі літаратуры. Літаратурныя густы Паўлюка Труса лішні раз выяўляюць прыроду яго таленту. У літаратуры яго цікавіла тое, што было сапраўды народным. Вось чаму ён так любіў Тараса Шаўчэнку. Яго вабіла да сябе лірыка-эпіка вялікага ўкраінскага паэта. Паўлюк Трус дэкламіраваў на памяць «Макара Чудру» і «Песню аб Сокале» Максіма Горкага і цэлыя раздзелы з «Новай зямлі» Якуба Коласа. Пушкінскую «Палтаву» ён называў недасягальным шэдэўрам, Някрасаў быў яго любімым паэтам. Сваім вострым паэтычным чуццём ён адчуваў сапраўдную вялікую паэзію. Адным з яго любімых паэтаў быў і Максім Багдановіч.

Бадай самым выдатным творам Паўлюка Труса была паэма «Дзесяты падмурак». У гэтым творы гра-

мадскія матывы гучаць найбольш шырока. Паэма напісана да дзесяцігоддзя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Гэта быў час, калі пачыналася вялікае індустрыяльнае будаўніцтва, калі краіна ўжо залячыла раны пасля войнаў, голаду і разрухі.

Дні прайшлі, адшалясцелі зоры
На гарачых крыллях навальніц.
І пульсуе радасць у прасторах,
Залатыя свецяцца агні.

Асоба паэта раствараецца ў жыцці краіны.

І тады я стану пад гарою,
Каб пазбыцца смутку і журбы,
Буду слухаць песні Асінстрою,
Захаплюся музыкай турбін.

У гэтай паэме поўна выяўлена лірычнае «я» паэта, і лірыка паэмы знайшла і знаходзіць водгук у пачуццях масавага чытача, яна раствараецца ў настроях яго. І ў гэтым сіла і важнасць паэмы.

Яго лірыка чаруе чытача. Вы можаце чытаць яго вершы аб прыродзе, дзе, здавалася б на першы погляд, ёсць толькі адно захапленне паэта хараством прыроды, і ў працэсе чытання вы пачынаеце адчуваць гэта як штосьці вельмі важнае і неабходнае. Гэта — захапленне роднай прыродай чалавека, які бачыць, што рэвалюцыя прынесла шчаслівае жыццё ў родную краіну, дзе чалавек зжыўся з хараством яе прыроды.

Сярод гэтай прыроды спяваюць жнеі, выходзяць на працу хлопцы-юнакі, «яна», гэта значыць вясковая жанчына, пачувае сябе гаспадыняй на сваёй савецкай зямлі.

Яе сёння шырокае поле
Грамадзянскаю працаю кліча...

*(«Яна»)*

І ўсюды чуецца

Звон шырокі,
Сэрцу родны,
Звон глыбокі,
Малады,—

*(«Выйду ў поле»)*

гэта гукі вольнай, радаснай працы. І ўсё гэта сярод роднай прыроды. Гэта нацыянальны момант у творчасці Паўлюка Труса.

Шмат месца ў творчасці паэта займала змаганне са спадчынай старога свету — былой вясковай цемрай, са старым бытам. Паўлюк Трус працаваў у штодзённай прэсе, актыўна жыў «злобай дня».

Творчасць і грамадская праца характарызуюць паэта. У вершы «Пасля буры» чытаем:

Сціхлі грымоты сярдзітыя,
Сэрца не страшыць іх водгулле,
Дожджыкам буйным абмыты, я
Смела вяслую ў прыволле.

У гэтым вершы, можа, паўней, як дзе, раскрываецца асоба самога паэта. Адгрымелі громы рэвалюцыі — і гэта была ачышчальная сіла. Свет стаў чыстым. Абмыты гэтым буйным дажджом, паэт-юнак плыве ў шчаслівае прыволле радаснага жыцця.

У паэме «Дзесяты падмурак» паэт гаварыў:

О, край,
калі ж ты станеш
краем фабрык дымных
і машын?

Заўчасная смерць не дазволіла паэту дажыць да нашых дзён, калі БССР стала краем фабрык дымных і машын, калі краіна стала індустрыяльнай і магутнай, калі гераіня адной з паэм паэта, сірата Алеся, стала знатным, шчаслівым чалавекам, калі жыццё стала цудоўным і поўным, калі здзейсніліся лепшыя мары паэта — тое, што ён бачыў і адчуваў у зародках і што вітаў усёй душой.

Мы любім Паўлюка Труса як выдатнага, таленавітага паэта і чыстага душой чалавека, як чалавека і паэта нашай савецкай радзімы. Мы шануем яго слаўную памяць.

*1939*

# *Анатоль Клышка*

## Ля вытокаў песні Паўлюка Труса

Здзейсніць мэту
І золата дум
Падарыць на карысць Беларусі.
*(«Брату»)*

Пра паэтаў, мабыць, больш чым пра каго, можна сказаць, што яны «родам з дзяцінства». Адтуль — ад першых эмацыянальных уражанняў паэта на зямлі, ад тых першых сустрэч са светам, калі вока ўпершыню здзівілася галасам фарбаў, и вуха ўзрадавана адкрывае колеры гукаў,— і пачынаецца мастацкі свет паэта. І як бы ні шырэў гэты свет пасля — самыя яркія, «незасвечаныя» ўражанні тояцца там, у чыстых вачах маленства.

У Паўлюка Труса ў вачах маленства адбілася яго родная вёска Нізок на Уздзеншчыне... Вёска называецца Нізок, відаць, таму, што стаіць на нізкім левым беразе маляўнічай ракі Усы, куды з пагорка перабралася пасля пажару вёска Старое Сяло, дзе спрадвеку жылі Трусавы дзяды і прадзеды — вядомыя на ўсю ваколіцу бондары і цеслі, прыроджаныя спевакі і танцоры. У вёсцы Нізок у 1904 годзе нарадзіўся Паўлюк Трус, тут і правёў ён свае дзіцячыя гады. Бацька яго быў малазямельным і таму ўвесь час прападаў у адлучках на пабочных работах, служыў за фурмана. З ранніх гадоў Паўлюку прыйшлося ўцягвацца ў гаспадарку — хадзіць за плугам, а пасля, падросшы, з касою. Звычайная цяжкая сялянская праца. Але ўлетку былі незабыўныя, рамантычныя начлежніцкія ночы... Над рэчкаю плыў сівы туман, а пры вогнішчы — смех, жарты і да болю родны матыў:

Ой, песні!.. Песні-веснаплыні...
Маёй душы зялёны цвет!
Па ўлонні цьмянае даліны
Крыніцай сочыцеся ў свет.

Прырода разам з песняй назаўсёды ўвойдзе пасля ў творы паэта, прыдасць ім своеасаблівы каларыт. І калі праз дзесятак гадоў паэт пачне пісаць аб новай рэвалюцыйнай яве, для яго яна будзе ўставаць у гэтых родных, «вясковых» вобразах.

Упусціла старое паводдзе,
Калі вір маладога нахлынуў.
*(«То не гул завірухі мяцежнай»)*

Мы спарахнелае палім,
З ім быльняговыя межы.
*(«Пасля буры»)*

Рана, яшчэ ў сямігодцы, выявіцца Паўлюк як здольны паэт. У першым сваім вершы ён з гумарам раскажа пра вечарынку ў сваёй вёсцы... Аднак яшчэ доўгі час на яго будуць ускладваць надзеі як на мастака. «Ніхто ў школе не мог так удала маляваць, як Трус»,— успамінае Алесь Якімовіч, які вучыўся разам з Паўлюком у сямігодцы, а пасля ў мінскім Белпедтэхнікуме.

У тэхнікум Трус паступіў у 1923 годзе. Тут займаліся Андрэй Александровіч, Пятро Глебка, Максім Лужанін і многа іншых студэнтаў, якія сталі пасля дзеячамі беларускай культуры. Методыку роднай мовы выкладаў Якуб Колас. Паўлюк Трус увесь аддаўся грамадскай працы, гарэў ёю, прымаў самы актыўны ўдзел у рабоце камсамольскай ячэйкі, спяваў у хоры, ладзіў пастаноўкі п'ес, іграючы ў іх і малюючы дэкарацыі, выпускаў вусную газету... І пісаў, пісаў. Яго вершы з 1924 года сталі друкуюцца ў рэспубліканскіх выданнях. У гэты час паэт уступае ў літаратурнае аб'яднанне «Маладняк». У 1925 годзе з друку выходзіць зборнік «Вершы», у 1927-м — «Ветры буйныя».

Закончыўшы тэхнікум, Трус едзе ў Гомель працаваць у рэдакцыю газеты.

І вось у «Полесской правде» ўсё часцей і часцей з'яўляюцца допісы на беларускай мове, друкуюцца вершы Труса. Паэт па-ранейшаму часта ездзіць у вёскі, наладжвае літаратурныя вечары, выяўляе здольных маладых літаратараў, дапамагае ім словам і справай... Раман Сабаленка, празаік, тады студэнт Гомельскага тэхнікума, паэт-пачатковец, цёпла ўспамінаў, як Трус, ведаючы пра матэрыяльныя нястачы хлопца, купіў яму за свае грошы касцюм.

Раней у многіх вёсках Беларусі сустракаліся, ды і цяпер не перавяліся, людзі, вядомыя на ўсю ваколіцу тым, што ўмеюць «складна» гаварыць, адказваць на ўсе пытанні «ў рыфму»,— гэтыя своеасаблівыя вясковыя паэты, якія ўмеюць «вершам» апісаць любое вясковае здарэнне. Яны папулярныя ў народзе: народ здаўна цэніць прыгажосць «складнага», рыфмаванага слова. Паўлюк Трус добра разумеў сілу і папулярнасць рыфмаванага слова ў народзе і, жывучы тымі вялікімі зменамі, што ішлі ў паслякастрычніцкую вёску, будучы іх шчырым і нахтнёным прапагандыстам, на пачатку свае творчасці нямала напісаў на «патрэбу дня» вось такіх вершаваных прапагандысцкіх артыкулаў, карэспандэнцый. Сёння даволі толькі пераглядзець назвы (асобныя з якіх, дарэчы, узняты на вышыню афарыстычнага выслоўя, крылатага лозунга), каб адчуць, чым жыла беларуская вёска, чым жыў паэт: «За каго мы ў Саветы галасуем», «Камітэты дапамогі ставяць беднага на ногі», «Ты спявай, іграй, музыка, пра сялянскую пазыку», «Каб знаць навіны ўсяго свету — чытай газету», «Ад зёлак бабскіх і ад лекаў навек астанешся калекай», «Не плач, а жыццё перайнач...», «Каб малака было па вушы — выводзь карову з калатушы». Тут і высокая палітыка, і антырэлігійная прапаганда, і такі, здавалася б, звычайны,

але патрэбны клопат пра газету ў сялянскай хаце...

Ужо ў тых творах, што друкаваліся ў газеце «Беларуская вёска» і якія пасля паэт не ўключаў у свае кнігі, добра відаць самабытны талент пісьменніка, уважлівы погляд на будзённасць жыцця. Каларытныя бытавыя сцэнкі, створаныя жывым уяўленнем Паўлюка Труса, дасціпны дыялог, афарбаваны сялянскім гумарам,— усё гэта надоўга застаецца ў памяці.

Нельга і сёння без усмешкі чытаць, скажам, пацешную гісторыю пра самагоншчыка... Паставіўшы ражку з брагаю на воз, Сымон заскочыў да суседкі:

Быў патрэбен яму гляк,
Каб у часе перагонкі
Адабраць адзін пяршак.

Покуль «выенчыў» пасуду,
Дык забавіўся Сымон.
А тым часам конь-паскуда
Знюхаў зразу самагон.

Скоса глянуў на заправу,
Галавою страсянуў
Ды, не гледзячы на страву,
Ражку з брагай абярнуў.

Калі Сымон прыбег, конь, набраўшыся брагі, ужо ляжаў:

Стогне бедная жывёла,—
Бок узняўся, як гара,
Ногі выпрудзіў пад колы
І кляне гаспадара...

Можна ўявіць сабе, які поспех меў гэты верш, прачытаны са сцэны ў вясковым клубе!

Такія творы з практычным ухілам, як і многія тагачасныя вершы іншых паэтаў, рабілі вялікую справу на сяле. Сёння яны — лепшыя сведкі турбот таго часу, першых маладых гадоў Савецкай рэспублікі. «Вясковы актывіст-камсамолец, нястомны агітатар, прапаган-

дыст і абаронца ўсіх жыццёва важных пачынанняў Савецкай улады на сяле, непрымірымы вораг кулацтва, рэлігійнага дурману і цемры — такі герой быў *асабліва блізкі і зразумелы* сэрцу паэта-маладнякоўца»,— слушна піша Ніл Гілевіч (Акрыленая рэвалюцыяй. Мн., 1962). Такі герой быў улюбёным героем і паэзіі Паўлюка Труса.

Вершы паэта данеслі да нас эстэтыку рамантычнага, узнёслага светаўспрымання:

Мы прыходзім у свет,  
Каб уславіць яго,  
Усё аддаць за жыццё і змаганне.  
*(«Як пажоўкнуць лісты»)*

Вядома, не ўсё з тагачаснай паэзіі ўспрымаецца сёння так, як успрымалася чытачамі 20-х гадоў. Час робіць сваё. Кожнае пакаленне перачытвае паэтаў па-свойму. А паэзія Труса, супаўшы з маладосцю ўсёй беларускай савецкай паэзіі, падзяліла з ёю і многія яе няспелыя эстэтычныя ўяўленні. Некаторыя ж вершы Труса часам ідуць больш ад маладога жадання пісаць, чым ад канкрэтнай паэтычнай задумы. Выразна адчуваецца і «бурапеністасць» стылю, якая была характэрна для маладнякоўскай паэзіі. Такія частыя ў Труса словатворы, як «сонцавеі», «веснаплыні», «ветрасіні», у пэўнай ступені зразумелыя на агульным фоне шпаркага развіцця і ўзбагачэння беларускай мовы тых гадоў, калі яна хутка асвойвала ўсе галіны жыцця, радасна перажывала натхненне словатворчасці.

Для нас Паўлюк Трус — перш за ўсё пранікнёны лірык, які ўмеў так песенна бачыць свой край.

Ой, пайду ў далячынь за сяло,  
Там, дзе жыта шуміць на паўзмежку,  
Там, дзе ў вішнях сяло расцвіло,  
Завіваюцца кветкамі сцежкі.  
*(«Ой, пайду...»)*

З асаблівым замілаваннем ажываюць у вершах

паэта малюнкі вясковай працы — ворыва, касавіцы, жніва.

Люблю жніво!..
Прастор шырокі,
Дзе ў межах
Шэпчуць каласы...
Дзе спевы коцяцца далёка
На ўзмор'і гордае красы!..
*(«Жніво»)*

А такія радкі сведчаць не толькі пра тонкі паэтычны зрок, але і пра бездакорны слых:

Выйду ў поле...
Дзень асенні...
Павуціння тонкі пыл...
Чую —
Там, на прыгуменні,
Адзываюцца цапы.
*(«Выйду ў поле»)*

Не наслухаешся, здаецца, гэтай музыкі...
Надзіва тонка адчуваў паэт гукі роднай мовы:

А ў палёх, палёх
Ды быльнёг палёг...

Што і казаць, моцна ўражваюць цымбалы яго паэзіі!

Пісьменнікі, сябры Паўлюка Труса, у сваіх успамінах засведчылі, што «Казбар» Т. Шаўчэнкі быў для паэта больш за настольную кнігу — паэт амаль ніколі не расставаўся з ёю. «Палтаву» А. Пушкіна лічыў недасягальным узорам, на памяць ведаў цэлыя раздзелы «Новай зямлі», моцна захапляўся творамі Багдановіча — адтуль прыйшлі да Труса такія складаныя віды страфікі, як рандо, санет, трыялет.

Але найбольш уплывала народная песня — тая, што была пры ім, як маці, з самага маленства. Якой багатай здавалася яна Паўлюку Трусу і сваімі вобразамі, і тэмамі, і выяўленчымі сродкамі! І ён чэрпаў

поўнай жменяю здабыткі фальклору, часта нават забываючы даць ім адзнаку свае творчасці. Ад народнае песні ідуць у яго творах сталыя эпітэты (прыгадайце хоць бы назву другога зборніка «Ветры буйныя»), здвоеныя назоўнікі (ваякі-ўдальцы, арлы-камунары, стыхія-разводдзе), прыметнікі (сусвет вольна-новы, хвалі бурліва-кіпучыя, дарогі квяціста-раздольныя), паралелізмы:

Ў лузе вербалозы
Пахіліў мароз,—
Ды не плачце ж, вочы,
Ў радасці без слёз!
*(«Ці ж мне сёння плакаць?..»)*

адмоўныя параўнанні:

Ой, не плакалі ў полі бярозы,
Не цвіла над ракою каліна,—
То раняла гарачыя слёзы
Маладая ўдава Кацярына.
*(«Юны змаганец»)*

Яны настолькі частыя ў вершах Труса, што без іх неяк не ўяўляеш яго паэзіі. Часам асобныя творы паэта нібыта цалкам крынічаць з песні («Ой, у полі тры таполі...», «Цячэ рэчка з-пад явару...», «Ой, вярбіна зялёная...»).

Талент Паўлюка Труса быў надзвычай мэтанакіраваны. Паэт прагна ўбіраў усё тое, што было арганічна блізкім для яго ў народнай песні, у Шаўчэнкі, Пушкіна, Якуба Коласа, Багдановіча. Тут яшчэ раз пераконваешся, што ўплыў, калі справа ідзе аб сапраўдных паэтах,— гэта не аднабаковая з'ява, а заўсёды ўзаемадзеянне, супрацоўніцтва.

Праўда, у паэзіі Труса ёсць нямала радкоў або строф, амаль цалкам запазычаных у выдатных паэтаў. Але іх ніколі не назавеш плагіятам, бо гэта радкі памяці, радкі, у якіх таксама бачыш бурлівы час першых паслярэвалюцыйных гадоў, калі наша беларуская літа-

ратура ўпершыню так шырока сутыкнулася і шпарка асвойвала творчы вопыт літаратур-суседак. Гэтыя радкі, можа, найлепш сведчаць і пра захапленне, і пра вучобу, і, мабыць, больш за ўсё — пра нецярплівае жаданне чым хутчэй убачыць на роднай мове жыццё гэтых бліскучых узораў. Вось таму і пранікалі яны ў вершы Труса і так пераплаўляліся, што сёння цяжка сказаць пра іх — што́ гэта — радкі перакладу, радкі пераказу ці запазычання. Тут усё: і ўплыў, і вучоба, і пераклад, і жывое, сапраўднае паэтычнае натхненне.

Не заспі,—
пабудзі мяне рана,
о!.. мая
дарагая матуля!..

Гэта амаль даслоўна радкі з верша Сяргея Ясеніна, але яны сталі для Паўлюка Труса толькі радкамі паэтычнага эпіграфа, бо далей усё: і вобразы, і тэма, і паэтычны лад — сваё, Трусава.

Дзе дарогі
бягуць за курганам,
пойдзем зелле
збіраць мы на Яна...
Толькі ты
пабудзі мяне рана,
о!.. мая
дарагая матуля!

У гэтым паўторы, звароце да маці — жывы рух Трусавага адчування, яго адносін да маці. Наогул, ёсць асаблівая даверлівасць, чысціня пачуццяў у вершах, дзе Паўлюк Трус звяртаўся да бацькі, сястры. Тут асоба паэта раскрываецца ва ўсім сваім людскім багацці. А колькі добрай сыновай цеплыні ў радках:

Пабудзі,
як будзіла ў маленстве,
калі крылася
поле туманам...
Над абліччам маім
ды заспаным

ты снавала
да сонца,—
ой, рана —
пражу сноў
залатога маленства.

Тут усё поўна лёгкай тугі аб дзяцінстве, якой адгукаецца кожнае сэрца. Тут усё — з тых гадоў, з пражытага і адчутага, што глыбока адклалася ў кожнага першымі ўражаннямі: і ранішняе поле, крытае туманам, і вобраз маці, што снавала «пражу сноў залатога маленства». Вобраз агульны зрабіўся абагульненым. Верш пазбаўлены той вузкай дэталізацыі, якая прывязвае твор да пэўнага, вельмі прыватнага факта жыцця. Без лішняй канкрэтызацыі верш атрымлівае тую глыбокую асацыятыўнасць, што кожнаму чытачу дазваляе дапаўняць яго, укладваць нешта сваё, інтымнае. Паэт вядзе чытача як бы па яго, чытачовых, успамінах.

І як лёгка ўспаміны пераходзяць затым у ціхі роздум аб хвалях чалавечага існавання, аб жоўтым лістападзе людскіх пакаленняў:

Ў цішыні
адшумяць яны скора,
і ты скажаш,—
было гэта ўчора!..
Мо таму, што жыццё —
адзін момант?

Маці і сын... У чым загадка Сусвету, у чым сэнс гэтай сустрэчы людскіх пакаленняў?..

Канец верша вяртае нас у свет непасрэдных адносін... Шчымлівая ростань:

Дык бывай,
дарагая матуля,
і не плач
пад хацінкаю ўбогай!..
Я пайду
сваёй сцежкай —

дарогай;
яшчэ стрэнеш
мяне ля парога...
А цяпер
ты вярніся, матуля!..

Так прарастаць добрымі пачуццямі ў сэрцы, так адчуваць, перажываць, так думаць і клапаціцца за самае вартае прызначэнне чалавека на Зямлі ўмее сапраўдная лірыка. Такой лірыкай былі лепшыя вершы Труса.

Паўлюк Трус напісаў шэраг паэм. Гераічнай барацьбе беларускага народа, нашай моладзі за родную ўладу прысвяціў ён паэмы «Чырвоныя ружы», «Астрожнік», «Юны змаганец». Дзве апошнія доўга не сыходзілі са старонак школьных чытанак. Але сапраўдным поспехам, высокім узлётам яго натхнення была паэма «Дзесяты падмурак». Святочна, чыста, звонка прагучалі яе фанфары ў гонар 10-годдзя БССР. Мужны, энергічны верш трэцяй часткі як бы ўвабраў у сябе гераічны рытм краіны, малады задор яе будаўнікоў.

Узнёслай рэалістычнай лірыкай «Дзесятага падмурка» Паўлюк Трус шчасліва ўгадаў, з якой стылёвай плынню будуць звязаны найбольшыя поспехі нашых наступных беларускіх паэм. Уся паэма ў вітанні новых індустрыяльных дзён Беларусі, у мары аб уз'яднаным беларускім народзе, які тады дзяліла штучная мяжа.

Вялікае шчасце для паэта — даць радкі ў вусны народа, радкі, якімі народ жыве і якіх чакае, але якія яшчэ не прыйшлі:

Край балот,
нізін, азёраў наскіх,—
край лясоў,
маўклівых сосен-струн...

Край паэм,
адвечных песень-казак,—

дарагая сэрцу
Беларусь...

. . . . . . . . . . . . . . .

Край лясоў
мінулых дзён паўстання,—
край нізін —
прастораў дальніх шыр...

Край палёў...
О, край,—
калі ж ты станеш
краем фабрык дымных
і машын?..

Яны гулка пракаціліся па рэспубліцы. Іх чыталі са сцэны ў вёсцы і горадзе.

Варта было Кастусю Кірэенку пазней, праз якіх два дзесяткі гадоў, паўтарыць іх, праўда, з папраўкаю на тыя змены, што адбыліся («Не завіце маю рэспубліку краем цёмных лясоў...»), каб яны нанова ажылі і не сыходзілі са святочных старонак нашых газет.

...Паўлюк Трус надзіва шпарка рос, шырока развіваўся. Ён ішоў насустрач вялікай паэзіі. Ён яшчэ толькі ўздымаўся на вяршыню мастацкай спеласці. З сумам прыходзіцца адзначаць, што сёння мы можам толькі ўяўляць, што здолеў бы даць ён нашай літаратуры. Паэт быў яшчэ ўвесь у будучыні, калі абарвалася яго жыццё.

Ён памёр ад брушнога тыфусу 30 жніўня 1929 года ў бальніцы, вярнуўшся з творчай камандзіроўкі, дзе збіраў матэрыял пра сельскагаспадарчых рабочых. Толькі пасля смерці ў яго кішэні супрацоўнікі бальніцы знайшлі пісьменніцкі білет і ўведалі, кім быў кучаравы юнак з блакітнымі вачыма, што запісаўся ў бальніцы проста як студэнт.

Ён памёр напярэдадні заняткаў у школе, калі вуліцаю ішлі дзеці і, яшчэ не ведаючы ні аб чым, спявалі яго песню:

Хмель лугамі, хмель лугамі,
Цёмным борам дзераза...

*1966*

## *Рыгор Барадулін*

---

# Падаюць сняжынкі...

Нечакана ранні снег. Белыя мухі лётаюць над нашым асноўным кармільцам — гародам, дзе ацалелі ад вайны, крышку падзічэўшы, тры яблыні ды самапаснае кустоўе чорных парэчак, чыё лісце разам з лісцем вішанніку кладуць у малады расол, каб агурочкі былі цвярдыя і да налецця захаваліся. А колькі трэба солі, заўсёды паказвае яйка: яго кладуць у расол, усплыве — норма.

Нясмела, нават неяк сарамліва, як бы просячы прабачэння за свой няпрошаны прылёт, круціцца снег, дзіўнавата падсвечваючы яшчэ там-сям зелянявае лісце вішанніку.

Толькі нядаўна казалі ў неба журавам: «Пуцём-дарожкай», толькі выкапалі бульбу. Мама шчасліва падлічыла, што на зіму хопіць, дацягнем да навіны. А тут на́ табе — снег. Бульбу трэба хутчэй у яму, каб зімой вартаваць ад марозу, які робіць падкопы. Вядром, кошыкам нашу, як мне здаецца, вялікія бульбіны, а іх на дне ямы парадкуе мама. А з хатняга задання ў галаве гучыць:

Падаюць сняжынкі —
дыяменты-росы,
Падаюць бялюткі
за маім акном...

Сам ужо нешта пішу, пераважна для сябе ці ў школьную сатырычную газету, крытыкую ў іншых свае ж недахопы, але ўсё законна, бо я абавязаны, назначаны, а значыць, мне дазволена. Падаюць сняжынкі. Ну, як і ў нас, як на наш гарод. Бялюткі — таксама і ў нас кажуць, толькі бялюткія. Вішні расчасалі косы, няхай шоўкавыя, зразумела. І ў нашую шыбіну

глядзяцца маладзенькія вішанькі. А калі паліцца печ, то ў шыбіне гарыць і агонь, і гарыць не згарае лісце вішанніку. Цяжэй з дыяментамі. З кніг, асабліва не густа іх, прыгодніцкіх, ведаю шмат пра якія каштоўнасці. Але няхай раса гарыць як дыямент. Такіх дыяментаў хапае на ўсю Ушаччыну.

Мякка, з ледзьве чутным звонам аддаюцца ў душы радкі:

І ўранілі долу
снегавы вянок.

Снег першы як выпаў нечакана, так і растаў нечакана. Бульба ў яме. Сам я, перапэцканы, перамазаны, сціраю разам з потам былыя «бялюткі», што сталі звычайнай вадой, яшчэ цяплейшай ад поту...

А калі бываў я на Ваўчэнскім возеры, якому не дае драмаць, і зімой не замярзаючы, рачулка Крывуха, дык самі ўсплывалі з тады яшчэ неглыбокай памяці словы:

Зоры гараць
па-над возерам вольным,
човен цалуе
спакойную сінь,
плаўна калышацца
ўзмахам павольным,
будзіць нямую,
застыўшую плынь.

Вядома, чоўна свайго не мелі мы ў сваёй натуральнай гаспадарцы, бо ўдаве маці толькі чоўна не хапала. Ды гледзячы на човен дзядзькі Селівея, заядлага рыбака на ўсю нашую азёрную старану, уяўляў я ў думках, што паэт пісаў якраз пра ягоны човен.

Студэнтам ехаў дамоў у дрогкім аўтобусе па маршруту Мінск — Полацк.

І здаецца зноўку —
еду я дадому
Праведаць родных,
блізкіх, дарагіх.

З родных была адна маці, тады яшчэ багата было блізкіх, якія з гадамі засталіся дарагімі ўспамінамі. «Мярэжы», «дасэні», «альвасы», «бомы» (у нас яны зваліся шаргункамі) стваралі нейкую таемнасць, узрушанасць, незразумелую паразумеласць вачэй і душы. Ішлі гады, былі розныя прачытанні паэзіі «Маладняка» і самага яркага прадстаўніка яго — Паўлюка Труса. Крытыка знаходзіла і пераймальнасць, і квяцістасць, і кволасць, але паэзія Паўлюка Труса кранае нас і цяпер. Шмат ад Пушкіна, ад Шаўчэнкі, ад Ясеніна, нават ад Нікіціна. Гэта хутчэй за ўсё творчыя пераклады, вольныя пераклады, варыяцыі на тэму класікаў славянскай паэзіі. Было жаданне стварыць рамантычны стыль, вытанчыць былую «мужыцкую» мову няхай сабе рознымі «крозамі», «веаргінямі», але яны стаялі разам з такімі спадчынна беларускімі словамі, як «стальніца», «плойка лёну». Пра зіму пісаў, амаль цалкам ішоў за Максімам Багдановічам — «Як здані, белыя бярозы» і праз колькі радкоў сваё:

Зіма!.. Зіма!.. Ў палёх туманы...
Нэрвова плачуць палазы.

Наўмысна цытую з экземпляра, з паасобніка, як казалі тады, Збору твораў Паўлюка Труса ў адным томе, дзе тытул пададзены па-англійску, з выдання Акадэміі навук Беларусі 1934 года ў Мінску. Гэтае «нэрвова» дае падсветку пошуку слова, асвойванню іншамоўнага на свой, беларускі лад.

Бурапена з гадамі сышла, але затое застаўся час, адбіты ў квяцістых і часта ў дужа канкрэтных, выверaных радках. Гэта як з малаком: пена сыдзе з сырадою, а малако застаецца малаком. Цікава, калі ўжо браць наш час, што з парашку сырадою не будзе. Сырадой толькі натуральны бывае.

Паўлюк Трус імкнуўся ўвесь час «пазнаць адвечнасць у красе». І казаў, што пазнае толькі той,

Хто зможа ліраю сумлення
Распяць свой голас на крыжы...

Паўлюк Трус распяў на крыжы эпохі свой юначы голас, і эпоха зберагла гэты голас. Як класічны паэт Паўлюк Трус застаўся навечна малады гадамі, малады парываннямі душы, малады пошукамі ранішняга слова. Кожнай новай змене сваіх чытачоў ён аднагодак, аднадумца ў сваіх маладых прызнаннях. Па гранічнай шчырасці і адкрытасці ён дужа блізкі найшчыраму паэту рускага слова Сяргею Ясеніну. Абодва маладыя прыйшлі, маладыя пайшлі і маладыя засталіся! Гэта Паўлюк Трус па-беларуску прачытаў верш Сяргея Ясеніна пра маці, папрасіўшы рана пабудзіць сына. І ўслед за Ясеніным поўнаўладна ўвёў у родную паэзію вобраз маці і ласкавае слова «матуля».

Цяпер магу прызнацца, што некалі слабавата ведаў творчасць Максіма Багдановіча (у адпаведнасці з тагачаснымі школьна-вэнэумаўскімі праграмамі). Пра тое, што Максім Багдановіч хацеў свой зборнік назваць «Маладзік», даведаўся пазней. А першапачаткова ўразілі мяне радкі, словы, дакладней, словаспалучэнне:

Беларусь, над табой агнявіста
Новай квадры настаў маладзік.

Паўлюк Трус ішоў у гэтых радках зноў жа ад Максіма Багдановіча: «Беларусь, твой народ дачакаецца...» А мне было ўражліва чытаць на слых «новай квадры маладзік». Усе словы я чуў дома. Яны такія ж звыклыя былі мне, як сонца, дождж, вецер, але «новай квадры настаў маладзік» нечым прываблівала, гучала як у кніжках, а значыць, паэтычна, так мне ў гады маладосці здавалася. І калі выдаваў я свой першы зборнік вершаў, дык маладзік, вычытаны ў Паўлюка Труса, сам папрасіўся ў назву, а паколькі ў зборніку была цалінная нізка, атрымаўся «Маладзік над стэпам»... Помню, нязвычна гучала для мяне заданне часопіса

«Беларусь» прывезці матэрыял у сувязі з 60-годдзем Паўлюка Труса з радзімы паэта. Не хацелася верыць, што старэй я за паэта гадамі, які са сваімі звонкімі песнямі прыйшоў у «залатое ранне» маладой беларускай савецкай паэзіі.

Каму не звінелі ў прасторах бомы, не адцвіталі пялёсткі «нечае тугі»? А туга гэтая была першая, светлая і яшчэ неакрэсленая, а «над водамі пярсцёнкам ўзыходзіў месяц малады...». Лірыка Паўлюка Труса — гэта як бярозавік. Ён хмельны сваёй веснавой маладосцю, ён так і не паспеў выбрадзіцца... З гатовымі фармуліроўкамі ехаў я ў родную вёску паэта, дзе і на самой справе багата бяроз, якія засталіся шумець у нашай паэзіі дзякуючы земляку. Адразу за вёскай да небасхілу размахнулася поле. Гэта тая «зялёная даліна», дзе раздолле ветрам буйным, маладому голасу. Невялічкая, яшчэ даволі моцная сялянская хата. І пачуўся мне голас паэта:

Ну вось і хата без сянец,
Садок запушчаны пры хаце.

Крыху воддаль — старая высокая яліна са ссечаным верхам. На яліне буслянка. Добры бусел прылятаў у дом Адама Труса восем разоў і прыносіў спрадвечныя падарункі. Паўлюка ён прынёс у свой пяты прылёт...

Сустрэлі з радасцю мяне
Сястра й заплаканая маці,—

гаворыць мне далей голас Паўлюка Труса. Сястра паэта Вера Адамаўна, настаўніца Нізоўскай васьмігодкі, паказвае дарагія рэліквіі. Братавы «сяброўскія білеты» Саюза працаўнікоў народнай асветы БССР (№ 3337), Усесаюзнай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў (Палескае аддзяленне № 16), «Маладняка».

...Невялічкі фанерны чамаданчык, у які можна было ўзяць з сабой з горада некалькі кніжак... Вышываная кашуля-касаваротка.

— Мама выткала палатно і пашыла кашулю,—

тлумачыць Вера Адамаўна,— а вышывала крыжам па канве студэнтка.

Наогул, класікі нашай літаратуры нараджаліся ў сарочках, а ў свет выходзілі ў даматканых кашулях, пашытых з палатна, з кужалька, які ткалі матулі. Так, напрыклад, Янка Купала (у музеі ў Вязынцы прыгадвала напярэдадні стагоддзя вялікага песняра Беларусі ягоная пляменніца Ядвіга Юльянаўна Раманоўская) на вядомым цяпер усім сваім першым здымку ў паставе тагачаснага дэндзі — у кашулі, якую сшыла маці Бянігна. Кужаль матуляй вытканы, а манішка і рукаўцы купленыя. Душа гарнулася да кужалю, бо з родных палёў, найроднымі рукамі вытканы і роднымі росамі адбелены...

На кашулі Паўлюка Труса чырвоныя ружы, чорнае лісце. Радасць і жалоба.

З невялікага фотаздымка глядзіць дзядзька Адам, «...выцвілыя вочы, да краю поўныя журбы»,— іх-то сын добра запомніў. Вера Адамаўна паказвае позіркам на маладога хлопца ў даваенным будзёнаўскім шлеме.

— Міша на вайне загінуў. Нас цяпер двое сясцёр засталося. Я ды Марыя яшчэ — у калгасе працуе. А мама наша так і не паспела сфатаграфавацца.

І сёння помню я ўрок арыфметыкі ў Нізоўскай васьмігодцы, на якім мне дазволена было прысутнічаць. На добрай беларускай мове, з уздзенскім акцэнтам гучаў голас настаўніка, які вучыў родную мову ў першую чаргу па Трусу. Калі не ён малы, дык маці ягоная добра помніла паэта з адкрытым позіркам і даверлівай, разнасцежанай людзям душой...

Зноў асабістае, зноў згаданае, але нядаўняе. З Анатолем Грачанікавым і Міхасём Стральцовым ездзілі мы ў Гомель на свята вуліцы Петруся Броўкі, без аднаго года аднагодка Паўлюка. Вуліца ў новым мікрараёне. Загалоўкам узнёслай паэмы гучыць імя раёна — Волатава.

Пасля прымаў нас рэктар Гомельскага дзяржаўнага універсітэта, вядомы на ўсю краіну фізік, акадэмік Акадэміі навук Беларусі Б. В. Бокуць.

Гаворку сваю вучоны пачаў з прызнання, што ён родам з Уздзеншчыны, з вёскі Сакольшчына, якая побач з Нізком.

І загучалі зноў трусаўскія радкі:

Падаюць сняжынкі,
дыяменты-росы...

Барыс Васільевіч расказаў, як вёз ён на родную Уздзеншчыну свайго калегу па навуцы, таксама славутага чалавека, які не быў у мясцінах маленства больш як 40 гадоў. Калі пад'язджалі да Нізка, пачаў Барыс Васільевіч Бокуць чытаць на памяць «Дзесяты падмурак» і нагнаў на вочы земляка слёзы радасці і замілавання. Сам рэктар, што называецца, жыве паэзіяй, хоць па сваёй працы, здавалася б, дужа далёка павінен быў ад яе быць.

Выдуманая праблема фізікаў і лірыкаў адпала на практыцы, само жыццё падсмейваецца з яе. Значыць, жыве Паўлюк Трус сваёй паэзіяй, наганяе на вочы пілігрымаў слёзы радасці і смутку. Бо ведае таямніцу чалавечай душы...

*1984*

*Пятро Глебка*

## Замест вянка на магілу маладога песняра Паўлюка Труса

Любы дружа, блізкі, як жа ты далёка!
Ані песень-казак, ані слоў не чуеш,
Крыллямі лапоча над магілай сокал
І тугу і скруху чорную пільнуе.

Прыйдзе зорны вечар, сумам апавіты,
Белы месяц стане ціха над садамі,
І нап'юцца кветкі, роснай акавіты,
Музыкі паллюцца залатыя гамы.

Пададуць сыгналы, зашумяць турбіны,
Усміхнецца сонца ясна над крыніцай,
Толькі табе гэтай музыкаю дзіўнай
Не судзіла доля, любы дружа, ўпіцца.

Кветкамі убралі тваю хату людзі,
Ні вянкоў, ні песень ты з іх не звіваеш,
І рыдаюць сёстры, падаюць на грудзі,
А краіна змоўкла быццам нежывая.

Беларусь, даволі над магілай плакаць —
Гэтай цяжкай страты аніяк не вернеш.

Як вясна настане — будзем гора латаць:
Кветкамі магілу мы яго ўбяром.

Будуць тыя кветкі складзены як песні,
Бо замест пялёсткаў — залатыя словы
Расцвітуць чароўна рана напрадвесні,
І не звяне вечна цвет іх каляровы.

Прыйдзе зорны вечар, сумам апавіты,
Белы месяц стане ціха над садамі,
І нап'юцца кветкі роснай акавіты,
Музыкі паллюцца залатыя гамы.

Аж да зор акорды узляцяць высока,
У надхмар'і цьмяным ноччу заначуюць.
Любы дружа, блізкі, будзеш ты далёка,
Але песні тыя ўсё ж такі пачуеш!

*1929*

## Паўлюку Трусу

Ну што сказаць?.. Ну як паверыць?..
Журбой вятры спавілі даль.
І стала раптам біцца сэрца,
Нібы закутае у сталь.

О друг і блізкі і далёкі...
Пад крыкі сумных журавоў
Упаў на дол, як ясны сокал,
З разбітай лёсам галавой...

Крычыце, буры
І пажары,
Жалобны марш, ўзнімай агонь.
Памёр паэт...
Памёр таварыш.
Упаў на полі верны конь...
Шумяць палі...
Бунтуюць хвалі...
І сумна слёзы лле сасна.
Няўжо ж цябе
Мы пахавалі,
О, нашай лірыкі — вясна...
Няўжо ж не восеньскімі днямі
І не пад чэрвеньскай зарой...
Ты і спяваў,
І жыў між намі,
І раздаваў сябе парой...
Бывай жа, друг,
Вясною ранняй
Такой жа светлай, як і ты,
К табе прыйдзе

На развітанне
Твой вобраз сумнай сіраты.
Алеся з кветкамі
І лірай,
І на зары... ў шырокі свет
Табе па-брацку
Скажа шчыра,
Што ты сапраўдны быў паэт.
І прыйдзем мы,
І зложаць гімны...
Памёр паэт... Яго няма...
І вось пад гэты боль
Нястомны
Хтось скажа — жыў ён недарма.
Хачу партрэт у чорны колер
Узяць, [redacted] у душы,
Нібы праз дым,
Твая прыснілася мне
Доля,—
Жыць і памерці маладым?
Згасае лямпа...
У сэрцы цёмна...
Скажы, о, брат, скажы, нашто
Я сніў цябе
І сніў твой помнік?..
...І ўжо ніяк далей не помню,
Як сталі слёзы над лістом...

*1929*

## Надмагільнае слова

Памёр паэт
　　Жахліва і проста: смерць —
Канец бязлітасны і няўмольны,
　　І застывае жалем юны смех,
　　І катафалк пачуццяў чорны...

Памёр паэт,—
　　Народжаны, каб жыць,
Каб жылка кожная крывёю трапятала,
Каб задушэўнай песняй зварушыць
Людскіх пачуццяў скалы...

Памёр паэт.
　　Ні надмагільны сум,
Ні шчырасць слоў, ласкавых і мінорных,
Не верне больш дзівосную красу
Напеваў непаўторных...

І вось таму ўзрыды слоў дрыжаць,
Халодных сэрцаў жарам не сагрэць,
Каб зразумець балючы гэты жаль,
Самому трэба быць паэтам.

*1929*

## *Пятрусь Броўка*

### Памяці Паўлюка Труса

Смутак няслі мы жалобнымі маршамі.
Навошта ж апошняя ростань наладжана?
Слова на смерць дарагому таварышу
Слязой перамыта і скрухаю зважана.

Лёс наш суровы. Мы ж чым награшылі?
Чаму гэтак рана сціскаюцца векі?
Бывае, што сэрца мяняе машына,
Толькі адно — ў чалавека.

Далёка сёння сады не паспелі,
А краску ў садзе адну смерць украла...
Здаецца, ўсе тыя агні, што гарэлі,
Ды звонкае песні на фронце не стала.

Мне крыўдна, што моладасць кінулі сілы,
Хачу я пабачыць жывога, як ты.
...Як буйнымі ветрамі песня насіла
З мулярам цэглу па ўсходнях крутых.

Так! Майстры не стала.
Не быць недапетай
Той песні, што высіла ўзлёт галавы.
Хай муза замоўкла ў сэрцы паэта,—
Муза іграе ў турбінах жывых.

Бывай назаўсёды! Астатні раз гляну ўў.
Табе ужо разам з жывымі не быць,
А песні стаяць вартавымі, як раней,
На вежах няскончанай барацьбы.

*1929*

## Памяці Паўлюка Труса

Закувала шэрая зязюля
У сасновым уздзенскім бары.
Выціраю горкую слязу я
Хусткаю самотнае пары.

Я згубіў настаўніка і сябра —
Песняра мне роднае зямлі.
Ад тугі душа мая азябла,
Быццам хтось лядзянкаю абліў...

Я стаю на ўзлеску і не веру,
Што не стала цёзкі — Паўлюка.
У нябыт захлопнуліся дзверы...
Паміж намі — чорная рака.

Дзесьці плача бедная матуля
Па сыночку — голасна, наўзрыд!..
Хто яе у горы паратуе?
Разам з сынам знік яе зеніт...

А зязюля шэрая кувае,
Узмацняе матчыну тугу.
Прыпыніся, птушка дарагая,
Слухаць цябе болей не магу.

Ветры буйныя, развейце смутак,
Аднясіце хмару за лясы!..
Паздымайце з сэрца майго путы,
Прынясіце кропелек расы.

*1929*

*Алесь Пруднікаў*

## Памяці Паўлюка Труса

Не заспі,—
пабудзі мяне рана
о!.. мая
дарагая матуля!..

*Паўлюк Трус*

Не, не пабудзіць маці дарагая!..
Як сноп зарніцы неба азарыць,
Яна маўкліва выйдзе за курганы,
Дзе дзве сцяжынкі крочаць з-за гары.
Адна супыніцца ў тумане сінім,
Вачамі слёзнымі угледзіцца удаль,
Ці не пакажацца там постаць сына?..
Толькі сына ўсё чамусьці не відаць...

І пасыплюцца слёзы матчыны,
Нібы перлы рос залацістыя...
Ветры буйныя раскудлачацца,
Замятуць прастор-поле чыстае.
Бо пагасла зара юнай цвецені,
Бо замоўклі навек струны звонкія.
Асыпаюцца іх букецікі
На мурожныя травы золкія.

Больш не пабудзіць маці дарагая...
Як сноп зарніцы неба азарыць,
Яна маўкліва выйдзе за курганы,
Дзе дзве сцяжынкі крочаць з-за гары.
Адна сутуліцца ў тумане сінім,
Вачамі слёзнымі угледзіцца удаль...
Няма, няма там дарагога сына,
Ён больш не вернецца пад саламяны дах...

*1929*

## Паўлюку Трусу

Поле, поле...
Ні пачатку табе, ні краю.
Дзе, калі
Цябе бачыў такім?
Мо вось тут,
На крывавым пяску, каля гаю
Паміраў камсамолец Якім.

Мо вось тут,
На скалечаных бомбамі гонях,
Ён, нязломны, бяссмертны, прылёг,
І прынік у самоце
Да скроняў ягоных
Адзічэлы, калючы быльнёг.
На халодным жвіры
Ён убачыў старога
Ў зрэбнай світцы
З тугою ад слёз.
Бегла ўдалеч,
Маніла такая дарога,
Да якой жыцця не данёс.
Але позірк апошні —
Далёкі і ўпарты,
Змерыў родны, бясконцы прастор.
Ён угледзеў цудоўны
Падмурак дзесяты,
К дваццаць восьмаму
Рукі прасцёр.

*1946*

*Адам Русак*

---

## Недапетая песня

*Памяці Паўлюка Труса*

Калі я дадому
Сялом тваім еду
Да роднае вёскі
Бацькоў пераведаць,—

Я гляну на хату
Тваю у маўчанні,
Табе ад сяброў
Везучы прывітанне.

На гэтых прасторах
Раслі мы з табою,
І рэчка адна нас
Паіла вадою.

Тут нам кукавалі
З табою зязюлі,
Тут нас гадавалі
З табою матулі.

Сардэчнаю дружбай
З табою зрасліся,
Ды рана дарогі
У нас разышліся.

Той дзень мне сягоння
Успомніць балюча,
Калі я, прыйшоўшы
У слёзах пякучых,

Іграў не вяселле
Табе з маладою,
А сэрца параніў
Жалобнай струною.

Выходзяць дзяўчаты
К жытнёвым палянам,
І коцяцца спевы
Над краем з'яднаным.

І буйныя ветры
Шумяць напрадвесні,
Спяваюць тваю
Недапетую песню.

*1950*

## Кашуля Паўлюка Труса

Чырвоныя ружы,
Чорнае лісце...
Няўжо гэта праўда:
«Насіў калісьці...»?
Як туман на дасвецці,
                                        святлее кашуля —
Здаецца, мурог з Паўлюком кашу я,
Расхрыстаныя, ступаем поплавам,
Нам фыркаюць ветры храпамі цёплымі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Маці кужаль прала пры лучыне,
На расе маёвай палатно бяліла.
Паўлюка чакала,
Дні лічыла,
Сустракаць выходзіла ў даліну.
І пасліся ветры буйныя ў зялёнай,
Балаболкай рэха біліся на шыях.
«Зазвані, сыночак,
                                  жаўранкам залётным!» —
Маці ўпрыхваткі касаваротку шыла.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Песню родную гукала чарнабрыўка,
Па далёкім сумавала доме.
Адгукалася з дняпроўскага абрыву:
«Ой, не світи, місяченьку.
Не світи нікому...»
І кашулю вышыла рупна
Чарнабрыўка ў інтэрнаце вечарамі.

І, як сонца,
Ёй заходзіла на рукі
Галава паэта кучаравая...

Чорнае лісце,
Чырвоныя ружы —
Крумкач жалобы
Над радасцю кружыць...

*1984*

# Заўвагі

*Астрэйка Анатоль* (Якім Пятровіч; 1911—1978) — паэт.

Напісана для кнігі.

*Барадулін Рыгор Іванавіч* (н. 1935) — народны паэт Беларусі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы.

Артыкул і верш друкуюцца па кн.: Р. Барадулін. Парастак радка, галінка верша. Мн., 1987.

*Барашка Іларый* (Іларыён Мацвеевіч; 1905—1968) — пісьменнік.

Друкуецца па час.: Полымя. 1964. № 5.

*Броўка Пятрусь* (Пётр Усцінавіч; 1905—1980) — народны паэт БССР, лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і БССР, Ленінскай прэміі і Літаратурнай прэміі БССР імя Янкі Купалы. Заслужаны дзеяч навукі Беларускай ССР.

Друкуецца па кн.: Выбраныя творы. Мн., 1951.

*Гарэцкі Максім Іванавіч* (1893—1939) — класік беларускай літаратуры.

Друкуецца па кн.: Збор твораў: У 4 т. Мн., 1984—1986. Т. 1. Другая частка апавядання пад назвай «Пахаванне» надрукавана сярод розначытанняў як незавершанае.

*Глебка Пятро* (Пётр Фёдаравіч; 1905—1969) — паэт. Акадэмік АН БССР.

Друкуецца па кн.: П. Глебка. Паэзія барацьбы і перамогі. Мн., 1973. Пераклад з рускай Я. Лецкі. Верш друкуецца па газ.: Звязда. 1929. 3 верас.

*Есакоў Алесь* (Аляксандр Аляксандравіч; 1911—1985) — пісьменнік.

Напісана для кнігі.

*Звонак Алесь* (Пётр Барысавіч; н. 1907) — паэт. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Заслужаны работнік культуры Беларускай ССР.

Друкуецца па газ.: Звязда. 1929. 3 верас.

*Капусцін Аляксандр Пятровіч* (н. 1924) — пісьменнік.

Напісана для кнігі.

*Клышка Анатоль Канстанцінавіч* (н. 1935) — пісьменнік.

Друкуецца па кн.: Пра таварышаў па пяру. Мн., 1976.

*Лісты Паўлюка Труса да Пятра Глебкі і Заява.*

Друкуецца па кн.: Дзень паэзіі. Мн., 1984.

*Лісты да Паўлюка Труса.*

Друкуецца па час.: Маладосць. 1981. № 2.

*Лужанін Максім* (Аляксандр Амвросьевіч Каратай; н. 1909) — пісьменнік. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларускай ССР.

Друкуецца па кн.: М. Лужанін. Трое. Мн., 1989.

*Маракоў Валерый Дзмітрыевіч* (1909—1937) — паэт.

Верш друкуецца па газ.: Звязда. 1929. 3 верас.

*Пархута Яраслаў Сільвестравіч* (н. 1930) — пісьменнік.

Друкуецца па час.: Родная прырода. 1980. № 5.

*Пруднікаў Алесь* (Аляксандр Трафімавіч; 1910—1941) — паэт.

Друкуецца па аўтографу, які захоўваецца ў П. Пруднікава.

*Пруднікаў Павел Іванавіч* (н. 1911) — паэт.

Напісана для кнігі. Верш друкуецца па рукапісе.

*Пянкрат Міхась* (Міхаіл Міхайлавіч; н. 1918) — пісьменнік.

Друкуецца па час.: Беларусь. 1946. № 1.

*Русак Адам Герасімавіч* (1904—1987) — паэт. Заслужаны дзеяч культуры Беларускай ССР.

Друкуецца па час.: Полымя. 1964. № 5. Верш — па час.: Беларусь. 1984. № 5.

*Сабаленка Раман Карпавіч* (1907—1975) — пісьменнік.

Друкуецца па час.: Полымя. 1959. № 8.

*Садоўскі Яфім Ільыч* (1908—1993) — пісьменнік.

Напісана для кнігі.

*Хведаровіч Мікола* (Мікалай Фёдаравіч Чарнушэвіч; 1904—1981) — пісьменнік.

Друкуецца па кн.: М. Хведаровіч. Памятныя сустрэчы. Мн., 1963.

*Чорны Кузьма* (Мікалай Карлавіч Раманоўскі; 1900—1944) — пісьменнік.

Друкуецца па кн.: Збор твораў: У 8 т. Мн., 1976. Т. 8.

*Чэпікава Вера Адамаўна* — сястра П. Труса. Настаўніца.

Напісана для кнігі.

*Шушкевіч Станіслаў Пятровіч* (1908—1991) — паэт. Заслужаны работнік культуры Беларускай ССР. Напісана для кнігі.

*Якімовіч Алесь* (Аляксандр Іванавіч; 1904—1979) — пісьменнік. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР. Заслужаны дзеяч культуры Беларускай ССР. Друкуецца па газ.: Звязда. 1929. 4 верас.

# Змест

◆

*Глебка П.* Ён быў маім сябрам — 3
*Чэпікава-Трус В.* Успаміны сястры — 8
*Хведаровіч М.* Паўлюк Трус — 10
*Астрэйка А.* Яркі талент — 32
*Лужанін М.* Вобраз юнака — 35
*Шушкевіч С.* Не ўсе тыя сады цвітуць... — 57
*Русак А.* Мае сустрэчы — 66
*Барашка І.* Пясняр маладосці — 70
*Есакоў А.* З пакалення арлянятаў — 72
*Садоўскі Я.* Тое, што запомнілася — 81
*Сабаленка Р.* Жыццё і песня — 87
*Пруднікаў П.* Успамін на ўсё жыццё — 111
*Гарэцкі М.* Смерць [Паўлюк Трус] — 117
Пахаванне — 119
*Капусцін А.* Падаюць сняжынкі — дыяменты-росы... — 122
*Пархута Я.* Салаўіны вянок — 125

◆

Лісты Паўлюка Труса да Пятра Глебкі — 137
Заява — 157
Лісты да Паўлюка Труса — 160

◆

*Якімовіч А.* Памяці таварыша П. Труса — 167
*Чорны К.* Думкі пра Паўлюка Труса — 169
*Клышка А.* Ля вытокаў песні Паўлюка Труса — 174
*Барадулін Р.* Падаюць сняжынкі... — 185

◆

*Глебка П.* Замест вянка на магілу маладога песняра Паўлюка Труса — 192
*Маракоў В.* Паўлюку Трусу — 194
*Звонак А.* Надмагільнае слова — 196
*Броўка П.* Памяці Паўлюка Труса — 197
*Пруднікаў П.* Памяці Паўлюка Труса — 198
*Пруднікаў А.* Памяці Паўлюка Труса — 199
*Пянкрат М.* Паўлюку Трусу — 200
*Русак А.* Недапетая песня — 201
*Барадулін Р.* Кашуля Паўлюка Труса — 203
Заўвагі — 205

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**ГОЛАС ВЯСНЫ ДАЛЁКАЙ**

*Паўлюк Трус*
*ва ўспамінах, лістах,*
*артыкулах, вершах*

Складальнікі
*Ватацы Ніна Барысаўна,*
*Садоўскі Яфім Ільіч*

Для вокладкі выкарыстана рэпрадукцыя
фрагмента карціны Л. Шчамялёва
«Кастрычнік у Мінску».
1986 г.

Рэдактар *Н. А. Давыдзенка*
Афармленне *А. І. Цароў*
Мастацкі рэдактар *А. І. Цароў*
Тэхнічны рэдактар *І. І. Дуброўская*
Карэктар *Я. А. Бебель*

ІБ № 3708
Здадзена ў набор 27.08.92. Падп. да друку 12.10.93. Фармат $70\times100^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 8,45+0,33 укл. Ум. фарб.-адб. 9,11. Ул.-выд. арк. 8,55. Тыраж 2 300 экз. Зак. 2261. Цана 800 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

